## ЗЬМЕСТ



Стваральнік
і галоўны рэдактар
**Сяргей Календа**

Рэдактар
**Марына Весялуха**

Сябра часопісу
**Альгерд Бахарэвіч**

Мастакі
**Васіліса Паляніна-Календа**
**Валерыя Лазуровіч**
**Ганна Бундзелева**
**Натальля Зямчонак**
**Ірына Куц**

Лягатып і дызайн вокладкі
**Васіліса Паляніна-Календа**

Вёрстка
**Галіна Васілеўская**

ММЭ (Б)

# АПНОЭ

Прынята лічыць, што апноэ — гэта стан чалавечага арганізму, які характарызуецца кароткачасовым (ад 10—20 сэкундаў да некалькіх хвілінаў) спыненьнем дыханьня. Звычайна апноэ находзіць на нас, калі мы сьпім. Апноэ здараецца нават у здаровых людзей, а ў хворых можа доўжыцца да 3 хвілінаў, адбывацца па дзесяць разоў за гадзіну і наогул займаць да 60 адсоткаў часу сну.

Натуральна, усё гэта казкі. Сёньня кожны адукаваны чалавек ведае, што Апноэ — гэта злы дух, які пасяляецца ў нашых кватэрах і крадзе па начах у зьмораных людзей подых. Паводле дасьледаваньняў паўднёваасэцінскіх спэцыялістаў, дух Апноэ сьляпы і глухі, ён арыентуецца па чалавечым храпе — адчуўшы ў пакоі вібрацыю, ён проста ідзе на храп, нібы драпежнік, які адчуў пах ахвяры. Вучоныя паспрабавалі вызначыць, які выгляд мае Апноэ: хутчэй за ўсё гэта жанчына ў цёмных акулярах, зь вялікім мехам за плячыма, куды Апноэ складвае скрадзеныя ўдыхі і выдыхі, яна носіць белвестаўскі абутак на высокіх абцасах — шмат хто з пацярпелых ад Апноэ бажыўся, што, прачнуўшыся раптам уначы, чуў стукат крокаў, але кожны, вядома ж, падумаў на суседзяў. Часта тым, хто пакутуе на Апноэ, даводзіцца мяняць у кватэры падлогу — абцасы праклятага духа псуюць лямінат, пакідаюць вышчарбіны на паркеце і дзіркі ў лінолеуме.

Дзень толькі пачаўся, а вы ўжо стаміліся... Дух Апноэ падступны, ён шкодзіць спакваля, паступова. Чалавек можа не здагадвацца, што адбываецца зь ім уначы, і зьдзіўляцца ўдзень сваёй раптоўнай санлівасьці, млявасьці, зьніжэньню канцэнтрацыі, нізкай працаздольнасьці. Ён будзе пазяхаць з ранку да вечара і сам не заўважыць, як з пэрспэктыўнага супрацоўніка, якога ня грэх штомесяц прэміраваць, ператворыцца ў беспрацоўнага з рэпутацыяй вечнага ёлупня і абэлтуха. Але гэта яшчэ ня самае страшнае.

Такое абакрадзенае дыханьне ўначы наўпрост вядзе да сардэчна-сасудзістых захворваньняў, бо арганізм, які штоночы адчувае кіслародны голад, неўзабаве больш ня можа функцыянаваць нармальна. Дух Апноэ забівае чалавека за некалькі гадоў, а дактары потым толькі разьвядуць рукамі і абвінавацяць ва ўсім няправільны лад жыцьця ды кепскую спадчыннасьць. Апноэ заўсёды ідзе на храп, і таму кожнаму, хто храпе ў сьне, варта баяцца ночы — ноччу да яго прыходзіць ня толькі сон. Праблема страшнейшая, чым мы думаем — параіўшыся з паўднёваасэцінскімі дасьледчыкамі, амэрыканскія прыйшлі да высновы, што амаль да кожнага чалавека хаця б зрэдку прыходзіць гэтая карга ў туфліках ад «Белвест».

Ці ёсьць у чалавека, якога кожную ноч наведвае Апноэ, нейкае выйсьце? Можна, напрыклад, лячыцца ад храпу.

А можна наступіць на горла сваёй жаўруковай песьні і стаць «савой». Далей абыдземся без двукосьсяў.

Быць савой у дзяржаве жаўрукоў ня проста цяжка. Пакуты савы ў краіне, дзе ўсё заточана і наладжана пад радасных раньніх пташак, нікому не цікавыя. Тым ня менш лятэнтных соваў у Беларусі відавочна ня менш, чым прыхільнікаў эўраінтэграцыі. Совы ў Беларусі, ды і ў іншых краінах, зазнаюць сапраўдную дыскрымінацыю. Уначы, калі сава дасягае піку сваёй актыўнасьці, калі яе арганізм гатовы працаваць з найбольшай самааддачай, саву прымушаюць заплюшчваць яе падазрона вялікія вочы і засынаць, памаліўшыся перад сном добрым жаўрукам, якія так удала арганізавалі сьвет.

Раніцай, пад гукі бадзёрага жаўруковага гімну («Мы, жаўрукі, мірныя птушкі, з ранішняй песьняй ляцім да кармушкі...»), соннай, са сьвінцовай галавой саве трэба ляцець на працу, трэба шукаць сабе харч, трэба ўладкоўваць асабістае жыцьцё і ціскацца ў перапоўненым мэтро. Удзень, калі беднай саве нясьцерпна хочацца падрамаць недзе на схаванай ад чужых вачэй галінцы, яна, сава, павінна скакаць навідавоку, дэманструючы лаяльнасьць і адданасьць традыцыям, і ўдзячна ўсьміхацца поўным сілаў жаўрукам, якія пасылаюць саву на самыя цяжкія заданьні. А ўвечары, калі саве хочацца сказаць жаўруку,

што так жыць ёй няўсьцерп, жаўрук кажа, што ён стаміўся, што ягоны працоўны дзень скончыўся, прыёму няма і прызначае ёй на заўтра, на дванаццаць дня.

Такі падзел абумоўлены фізіялягічна. Сава не вінаватая ў тым, што яна сава. У савы дэпрэсія. У савы катастрафічна зьніжаецца самаацэнка. Сава ніколі не дасягне такіх вышыняў, як жаўрук. Саву лічаць гультайкай без музычнага слыху і пачуцьця рытму. У савы адзін шлях: ПТВ, завод, мікрараён на ўскраіне. А захочаш бегчы — няма куды... Калі сава ўсё ж будзе трымацца сваёй савінай сутнасьці, калі захоча «людзьмі звацца», то яе запішуць у багему, якую жаўрукі так ня любяць, бо багема ня сьпіць начамі, пяе свае «ніпанятные» савіныя песьні на «ніпанятнам языку», п'е зуброўку і тупае наверсе, не даючы жаўрукам спаць.

Шкада, што ў Беларусі няма сіесты. Сіеста не зашкодзіла б жаўрукам і хаця б трохі дапамагла совам.

Затое да соваў не прыходзіць Апноэ.

Дзіўная рэч — сон. У сьне мы атрымліваем зашыфраваныя паведамленьні зь іншае рэальнасьці — яшчэ невядома, якая зь іх сапраўдная. У сьне ажывае нашае калектыўнае несьвядомае, расейцам сьняцца татара-манголы, а нам — Францішак Скарына ў Празе, з кніжкамі. У сьне да нас прыходзіць ня толькі Апноэ, але і іншыя добрыя істоты. Напрыклад, да аднаго з нас, Якава, у сьне калісьці прыйшоў сам Пан Бог са складной лесьвіцай і сказаў, што тут, маўляў, табе і жыць, і нашчадкам тваім, і назваў чалавек тое месца Бэт-Эль, што значыць «дом божы»...

У Старажытнай Грэцыі і Старажытным Рыме людзі спалі ў храмах на шкурах бараноў, каб атрымаць у сьне прадказаньне аракула. У Джэймса Фрэйзэра можна знайсьці цікавую гісторыю пра тое, як нехта Пандар з Тэсаліі вырашыў паспаць у храме, каб пазбавіцца загадкавых чырвоных літар, што зьявіліся на ягоным ілбе. У сьне да Пандара прыйшоў бог, абвязаў яму лоб шалікам і сказаў зьняць, калі той прачнецца. Раніцай Пандар зьняў шалік, і чырвоныя літары засталіся на тканіне. Пандар пайшоў дамоў, пакінуўшы шалік у храме. Па дарозе ён паслаў у храм свайго слугу, каб той прынёс богу ахвяраваньне за такі цуд. Але слуга, лоб якога таксама меў на сабе літары, вырашыў забраць грошы сабе. Ён лёг спаць, спадзеючыся, што бог і яму дапаможа. Бог прыйшоў у сьне і спытаў, ці не прынёс слуга нейкіх грошай. «Не», — сказаў слуга. Тады бог сказаў слугу, каб той абвязаў сабе лоб шалікам Пандара. Раніцай слуга зьняў шалік: на ягоным ілбе цяпер былі і літары яго гаспадара, і яго ўласныя...

Нічога дзіўнага, што сон здаўна прыцягваў да сябе літаратараў — людзей-соваў, якія любяць працаваць уначы. Сусьветная літаратура — адзін бясконцы соньнік. Сон — файная мэтафара, хаця сон як прыём даўно стаў банальным і ўжываецца ў апошні час хіба што ў камэрцыйнай літаратуры. Няма, відаць, ніводнага пісьменьніка або паэта, хто не скарыстаўся б з вобразу сну, хто б не паспрабаваў пранікнуць у яго таямніцу: камусьці ўдавалася гэта лепш, у кагосьці атрымліваліся хіба што «сны Веры Паўлаўны». Не абышло пакланеньне сну і беларускую літаратуру: «Сон на кургане», напрыклад, даўно стаў клясыкай.

Але ніхто так грунтоўна не пісаў пра сон, як Зыгмунд Фройд, які меў звычку садзіцца з вудаю каля каламутнай рэчкі чалавечых сноў і пачкамі выцягваць адтуль сымбалі для пацьверджаньня сваіх сумнеўных тэорый. Пазьней, калі Фройд памёр, у яго нарэшце зьявіўся сапраўдны вораг — Уладзімір Набокаў, геній і эстэт, які кпіў зь вялікага аўстрыйца пры кожнай нагодзе. Набокаў называў Фройда «махляром у кацялку», «спадаром зь венскім парасонам», а ягонае вучэньне — «прыкладваньнем грэцкіх мітаў да дзетародных органаў».

Сон, сон, сон: у сьне мы даведваемся праўду пра сябе і іншых, выдаём таямніцы, у сьне мы дзелімся дыханьнем з тымі, каго любім, у сьне мы безабаронныя, у сьне каханыя называюць нас чужымі імёнамі, у сьне мы назапашваем сілы для таго, каб потым змарнаваць іх на змаганьне з мроямі, у сьне, у сьне...

З гадамі добры сон становіцца ўсё важнейшым: калі мне было дваццаць гадоў, я мог ня спаць некалькі начэй запар, піць, курыць, пісаць, вандраваць, кахаць, ненавідзець, і цудоўна пачуваўся. А цяпер да мяне ўначы прыходзіць Апноэ, дух, якога ўжо ніколі ня выгнаць, і зьбірае сваю даніну.

Сьвет, наладжаны пад тых, хто выспаўся, прымушае жыць па ягоных правілах. Прымушае ставіцца да сну з павагай, жадаць яго, лічыцца зь ім, слухацца ягоных вестуноў, баяцца, што сон ня прыйдзе. Адно з самых вычварных катаваньняў — калі чалавеку не даюць спаць. У некаторых мовах «сон» і «сьмерць» абазначаюцца адным словам.

Спаць могуць ня толькі людзі, жывёлы, расьліны, трактары пад сьнегам, журналісты на планёрцы, салдаты на варце, мэдсёстры на дзяжурстве...

Спаць могуць цэлыя народы, і калі розум якога-небудзь народу засынае, вакол яго, як вядома, пачынаюць пладзіцца пачвары. Вырастае калючае кустоўе да неба, празь якое да таго зачараванага замка, дзе сьпіць народ, нікому не прабіцца — усё як у вядомай казцы. Народу сьніцца, што ён квітнее, а яго даўно ўжо няма, там, дзе ён жыў калісьці, цяпер калючыя непраходныя кусты, і бог жыхарам замка ня сьніцца, а сьніцца сонечны дзень сурка, 3 ліпеня, і Апноэ складвае подыхі тых заснулых людзей у свой бяздонны мех, і ніхто не назаве гэтае месца Бэт-Эль, а назаве хіба што «западнорусскімі губерніямі» і напіша народу гэта нязводнымі чырвонымі літарамі на ілбе. І ніколі нічога ня зьменіцца, колькі б ні лёталі над кустамі вясёлыя жаўрукі, колькі б ні глядзелі з калючага гальля маркотныя совы. І можна цалаваць у тым зачараваным замку каго заўгодна, ад прынцэсы да кухаркі, любы з разбуджаных жыхароў прамармыча адно: «Што, блядзь, ня сьпіцца? Выхадны, трэцяя гадзіна ночы...», — павернецца на другі бок і зноў захрапе.

*Паводле выданьня: Альгерд Бахарэвіч. Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2011. — 320 с.*

ММЭ (Б)

# КАНТРАЦЭПЦЫЯ

Часам бывае карысна і цікава пачытаць жоўтую прэсу. «Bild», напрыклад, ці «Комсомольскую правду в Беларуси».

*«Завхоз школы убил дворника шкафом».*

*«Леди ГаГа делает трусы из писем своих фанатов».*

*«Грибы захватили власть над муравьями ещё 48 миллионов лет назад».*

Гісторыі, што хаваюцца пад загалоўкамі такога кшталту, ня толькі абуджаюць брудныя фантазіі, але часта наводзяць і на не абы-які роздум. Жыцьцё ў жоўтым сьвеце вясёлае і дынамічнае, як на Дзікім Захадзе, ніякай аднастайнасьці, ніякай шэрасьці, адна зыркая жаўцізна, кожны мае шанец стаць героем: калі не галоўным, дык прынамсі трапіць на другі плян — як сьведка, як бабулька на лавачцы ля пад'езду. Нуднае тут забаронена, кожны абавязаны мець сваю фішку, хаця б пасьмяротную.

Прыкладам, калі тут нараджаюць дзяцей, то з гэтымі дзецьмі не здараецца нічога добрага: іх ці забіваюць, ці гвалцяць, ці даюць ім імя «Адольф Гітлер», ці іхны тата сьвяткуе свой соты дзень нараджэньня; у найлепшым выпадку яны падаюць зь дзявятага паверху ці іхная мама здымаецца ў порнафільмах. Сьмерць, сьмех і сьмецьце тут заўжды ходзяць разам, як міліцэйскі патруль, і сочаць за тым, каб у жоўты сьвет не пракралася якая банальшчына.

Асабіста мне да спадобы гісторыя аднаго адстаўнога маёра, які ўсё жыцьцё адчуваў таемнае пакліканьне да стаматалёгіі. Выйшаўшы ў адстаўку, ён нарэшце вырашыў зьдзейсьніць свае мары. Узброіўшыся патрыманай бормашынай, клеем «Момент», купленымі на рынку шчыпцамі, дротам і дзіцячым плястылінам, ён узяўся лячыць зубы суседзям. Хатняя практыка існавала нядоўга — пакуль адзін з пацыентаў маёра не падаў у суд...

Страшна падумаць, што ўчыніў бы маёр, калі б адчуваў пакліканьне да хірургіі або заняўся б, скажам, гінэкалёгіяй ці ўралёгіяй, ці надумаў бы даваць парады па кантрацэпцыі. З другога боку — жаўцізна гэтай гісторыі небясспрэчная.

Той маёр-дантыст меў у сваім распараджэньні, апрача няхітрых «стаматалягічных» прыладаў, тры рэчы, безь якіх мэдыцына ніколі ня стала б мэдыцынай: няведаньне, жарсьць і веру. Зь іх усё пачыналася, менавіта яны і толькі яны былі ў руках чалавека, калі той пачынаў лячыць сабе падобных і сур'ёзна задумаўся пра тое, як не даваць ім пладзіцца і памнажацца.

Людзі нараджаюцца ня толькі жывымі, яны нараджаюцца перадусім ацалелымі. Каб чалавек зьявіўся на сьвет, першапачаткова яму трэба пазьбегнуць кантрацэпцыі. Чалавецтва складаецца з ацалелых, людзі — гэта тыя, каго не забіла кантрацэпцыя. А ацалелым заўжды прыемна даведацца пра прылады і звычкі сьмерці, якая іх абмінула. Яны любяць вяртацца туды, дзе былі на валасок ад гібелі. Сьмерць і сэкс — усё гэта зь лішкам забясьпечвае нам жоўтая прэса. Ці — зь ня меншым посьпехам — кароткая гісторыя кантрацэптываў, казка пра тое, як мы змагаліся зь няведаньнем, верай і жарсьцю.

Варта, відаць, не засяроджвацца на незаслужана пакрыўджаным біблейскім Анане (які ўсяго толькі і рабіў, што, займаючыся з жанчынамі любошчамі, праліваў спэрму на зямлю — а застаўся ў гісторыі як нейкі Піянэр Мастурбацыі) і перайсьці адразу да Старажытнага Кітаю, дзе жанчыны, каб пазьбегнуць апладненьня, глыталі кавалачкі разагрэтай у алеі ртуці — і гэта было даволі пасьпяховым сродкам, бо, як вядома, ртуць таксычная і нічога добрага празь яе з жывымі арганізмамі не адбываецца. Зрэшты, гэта, як бачым, не перашкодзіла кітайцам стаць самай шматлікай нацыяй на плянэце. У Старажытным Эгіпце галоўны мэтад кантрацэпцыі выглядаў ня так радыкальна: перад полавым актам жанчына ўводзіла ў похву сумесь кракадзілавага лайна і мёду: і вырашальную ролю тут адыгрывала лайно — з-за сваёй высокай кіслотнасьці. Увогуле, лайно кракадзіла можна лічыць першым спэрміцыдам у гісторыі чалавецтва — прынамсі, першым, чыё існаваньне зафіксаванае пісьмова.

Саран з Эфэсу, грэцкі гінэколяг, які практыкаваў у Рыме недзе ў II—III стагодзьдзі, раіў жанчынам пасьля любошчаў кашляць, смаркацца і скакаць на месцы, каб пазбегнуць цяжарнасьці. Іншыя грэцкія дактары рэкамэндавалі засоўваць у похву палавінку граната — той самы спосаб, але з кавалкам цытрыны, даволі шырока выкарыстоўваўся ў Эўропе ажно да эпохі Асьветніцтва: натуральна, у мясьцінах, дзе ў цытрынах не было недахопу. У Пэрсіі з тымі самымі мэтамі кабеты выкарыстоўвалі губку, прамочаную алькаголем, ёдам, карболам і хінінам. Арабскія намады, якія даўно высьветлілі, што камень, пакладзены ва ўлоньне вярблюдзіцы, замінае ёй прыносіць прыплод, карысталіся гэтым досьведам і ў дачыненьні да жанчын: у якасьці ўнутрыматачных кантрацэптываў ім прапаноўваліся шкляныя шарыкі, пярліны, чорнае дрэва, кавалачкі жалеза, конскі волас і іншыя прававобразы будучых дыяфрагмаў-каўпачкоў з лятэксу.

Ня ведаю, як дзе, а ў Нямеччыне бацькам кандома называюць італьянца Габрыэле Фалёпіё (нават у прозьвішчы чуецца нешта-нейкае гэткае). Сам тытул гучыць даволі недарэчна, бо доктар Кандом (або, паводле іншых крыніцаў, Контан) вынайшаў свой знакаміты кантрацэптыў толькі праз сто гадоў пасьля Фалёпіё. Доктар Фалёпіё, адкрывальнік ня толькі прэзэрватываў, але і названых у ягоны гонар трубаў у жаночым арганізме, выкладаў у Падуанскім унівэрсытэце — усяго празь некалькі дзясяткаў гадоў пасьля таго, як яго скончыў Скарына. Хто ведае, можа яны і былі знаёмыя. Адзін стаў друкаваць кніжкі, а другі выпрабаваў вынайдзеную ім прыладу на 1000 падуанцаў — вынікі былі ашаламляльныя. Прэзэрватыў Фалёпіё меў 20 сантымэтраў даўжыні, быў зроблены з ільну і завязваўся ружовай стужачкай — паводле сьведчаньняў сучасьнікаў, «каб больш падабацца жанчынам». Фалёпіё рашуча пратэставаў супраць таго, каб вынайдзеную ім прыладу назвалі ў ягоны гонар, яму было дастаткова трубаў; ён, відавочна, памятаў гісторыю з Ананам і баяўся, як бы нашчадкі чаго не наблыталі — можа, таму ў часы доктара Кандома пра італьянца ніхто і ня ўспомніў.

Праўда, першапачаткова прэзэрватыў прызначаўся не дзеля кантрацэптыўных мэтаў, а выключна для абароны ад вэнэрычных хваробаў. Выкарыстаньне яго марудна ўваходзіла ў моду яшчэ і з-за нязручнасьці. Прылада Фалёпіё была яшчэ адносна гуманная — шмат хто быў вымушаны карыстацца тоўстымі, грубымі кандомамі з кішак жывёлаў, а таксама вырабамі з рыбіных пухіроў.

Ангельскі доктар Кандом, уласна, таксама дзейнічаў ня з мэтай ашчасьлівіць чалавецтва — ён атрымаў заданьне вынайсьці сродак, які мог бы абараніць караля ад пранцаў. Ён узяў авечую кішку, змазаў яе алеем — і вось у A Classical Dictionary of the Vulgar Tongue (Лёндан, 1785) ужо зьяўляецца такі артыкул: «Кандом — высушаная кішка авечкі, якую надзяваюць мужчыны пры полавым акце, каб пазьбегнуць інфэкцыі». У тым самым стагодзьдзі, калі доктар Кандом грудзьмі стаў на абарону свайго караля, менш спрытныя ангельскія лекары пачалі першымі ў сьвеце праводзіць вазэктамію — бязьлітасна, груба і тым ня менш эфэктыўна.

Супрацьзачаткавым сродкам прэзэрватыў стаў толькі ў пачатку XX стагодзьдзя, калі мужчынская частка чалавецтва нарэшце разабралася з тым, як вырабляць якасную гуму для сваіх машын, жонак, палюбоўніц і прэзэрватываў. Парадаксальным чынам распаўсюд кантрацэптываў горача віталі фэміністкі, якія сталі іх першымі ахвярамі: прыкладам, у пачатку XX стагодзьдзя ў Нью-Ёрку ўлады зачынілі клініку, арганізаваную фэміністкай Маргарэт Сэнджэр, за амаральнасьць — там знайшлі кандомы і розную падазроную літаратуру: інструкцыі па эксплюатацыі кантрацэптываў.

А неўзабаве пасьля Другой сусьветнай вайны надышла эпоха татальнай аральнай ды бар'ернай кантрацэпцыі, што ўжо зусім ня так цікава... Ніхто ўжо не глытаў ртуць і не завязваў какетлівай ружовай стужачкай льняныя мяшэчкі. Чалавецтва канчаткова прыватызавала сэкс, і бог выйшаў у адстаўку, каб нарэшце заняцца сваім пакліканьнем — хто ведае, якім.

*Паводле выданьня: Альгерд Бахарэвіч. Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2011. — 320 с.*

# СЫН

Зіма, 1943

Адзін хірург, які стаў вядомым праз пасаду галоўнага лекара слыннай клінікі, а таксама дзякуючы сваім навуковым даследаванням, карыстаўся ўсеагульнай любоўю праз дабрачыннасць да бедных, выклікаў збянтэжанасць і здзіўленне сяброў і калег, калі развітаўся з працай на вяршыні сваёй кар'еры, падаў шлюбныя аб'явы ва ўсе газеты краіны, старанна вывучыў шматлікія прапановы, пабываў ва ўсіх гарадскіх бардэлях, заводзіў доўгія размовы з кожнай прастытуткай, даследаваў характары ды сувязі кожнай жанчыны, якую ён толькі сустракаў, выклікаў паўсюль сваімі дзіўнымі паводзінамі непаразуменне ды сумненне, ён жа лічыўся высокамаральным халасцяком, дамогся ў рэшце рэшт згоды васемнаццацігадовай прыгажуні, дачкі аднаго багатага фабрыканта, а пасля таго як заманіў яе ў свой дом, сутыкнуўшыся з самай рэзкай яе антыпатыяй, брутальным чынам гвалтоўна апладніў яе, сына ж, якога пад выключна яго наглядам яна нарадзіла ў прыватнай клініцы, звёз, не звяртаючы ўвагі на тое, што маладая жанчына сканала ад моцнага крывацёку, адразу ж пасля нараджэння ў аўтамабілі на шалёнай хуткасці ў вілу, якую ён пабудаваў сярод дзікага парку за пяцьдзесят кіламетраў ад гораду, дзе ён і выгадаваў яго без аніякай дапамогі, нават без дапамогі карміцелькі, так, што ён заўжды быў каля яго аголены, выконваў кожнае ягонае жаданне, але не даў яму ведаў пра добрае і кепскае, рабіў любыя стасункі з людзьмі настолькі немагчымымі, што сын паверыў: ён і бацька — адзіныя людзі, якія існуюць, а свет абмяжоўваецца паркам, пакуль бацька не знайшоў яму дзеўку, якую ён прывёў з аднаго вульгарнага дома, пасля чаго сын, якому толькі-толькі мінула пятнаццаць, збег з парку, без аніякіх перашкодаў з боку бацькі, голы, як быў народжаны, але праз гадзіну вярнуўся, патрабуючы вопратку, каб ўжо праз дваццаць чатыры гадзіны, за якія ён, нядоўга думаючы, забіў чалавека, які не захацеў бясплатна даць яму ежы, прыбегчы назад, загнаным паліцэйскімі і сабакамі, якія ўжо кусалі яго за пяткі, з запэцканымі крывёю рукамі і тварам, да бацькі, які прыняў яго, не задаўшы ніводнага пытання, адагнаў паліцэйскіх кулямётам, калі ж тыя зноў распачалі бойку, забарыкадаваўся ў пакоі поплеч з сынам, не зважаючы на тое, што віла, напалову разбураная ручнымі гранатамі, ужо была ахопленая полымем, раз'юшана абараняўся ад нападнікаў, якія пераважалі ў колькасці і хаваліся за дрэвамі ды кустамі парку, зноў і зноў прымушаючы іх адступаць і засцілаючы трупамі зямлю, пакуль сын, цяжка паранены куляй, якая раздрабніла яму плячо, абліты крывёй у куце пакоя, напалову захлынуўшыся дымам, зласліва праклінаючы бацьку, папракаў яго тым, што той зрабіў з яго пачвару, што людзі, ён і сам не ведае чаму, праследуюць яго як звера і цкуюць яго сабакамі, пасля чаго бацька, і вокам не правёўшы, застрэліў сына.

*Пераклаў зь нямецкай мовы Сяргей Матырка, паводле збору твораў Фрыдрыха Дзюрэнмата ў сямі тамах, том 5-ы. — Zurich: Diogenes Verlag AG, 1996.*

ІЛЬЛЯ СІН

# НЯЎКЛЮДНЫЯ СПРОБЫ ЗНАЙСЬЦІ САБЕ МЕСЦА
## (урывак з тэксту «Бэлетрыстыка»)

Закінуты рыбалоўны траўлер наўзбоч ад пачатку мола, які разьдзірае пеністае мора. Над суднам па-ранейшаму чуваць віскат чаек — хаця тут ім даўно ўжо нічога ня сьвеціць. У правым баку віднеецца іржавая прабоіна. На вільготным прыбярэжным пяску мора змывае чыесьці сьляды: два ланцужкі вялікіх, два — маленькіх і яшчэ каляіну ад ровара.

Здаецца, нібы ты чуеш гісторыю пра юную дзяўчыну, якая спрабуе выкараскацца на шурпаты хвалярэз з бурапеннай вады, драпае бэтон даўгімі пазногцямі, балюча зьбівае каленкі, але як толькі яе пальцы канвульсіўнымі спалоханымі рухамі чапляюцца за сьлізкі, месцамі пазелянелы бэтон, чыйсьці жоўты красовак дакранаецца да раскошных валасоў і трапным безэмацыйным штуршком перакрэсьлівае ўсе дзявочыя намаганьні, і далей ізноў утрапёнае змаганьне са стыхіяй, усё больш і больш канвульсіўнае, а потым ізноў безэмацыйны штуршок, а потым, празь нейкі час, ізноў, і вось тапеліца ўжо рухаецца з апошніх сіл, адчайна хапае паветра, няўклюдна боўтае па вадзе даўгімі пальцамі з дагледжанымі пазногцямі, чарнявыя валасы наліпаюць на твар, сягаючы да ружовых смочкаў… Але, зрэшты, гэта ўсяго толькі пошум мора, звыклы пошум мора.

Мора прыносіць свае сумнеўныя дары: бязладныя купы разьмяклых водарасьцяў. Камусьці іншаму, можа, закарцела б пакорпацца ў іх з надзеяй адшукаць нейкі скарб або проста сувэнір на памяць — зграбны пантофлік, які раптоўна зваліўся з ножкі Ланы праз імгненьне пасьля таго, як яна пачула гэты недарэчны сьмех, або хоку, напісанае Фэрдынандам на рэстараннай сурвэтцы, калі другая сустрэча таксама не прынесла чаканага выніку, або кавалак кафлі, які ўпрыгожваў вэранду ў іх зімовым палацы, збудаваным у год прасьвятленьня Аліцыі, або скарыстаны прэзэрватыў, выкінуты за борт парома фінскім заўсёднікам алькатураў.

Прачнуўшыся ў нетрах траўлера адным сіверным, як заўсёды пахмурным надвячоркам, ты можаш рушыць у горад. Ты будзеш ісьці супроць ветру, які ўздымае хвалі пяску, і яны будуць трапляць табе наўпрост у вочы. Сплюснутыя павекі, агідна скрыўлены твар, здатны натхніць якога-кольвечы мясцовага мунка на новы шэдэўр… Зь дзюнаў леваруч ад цябе будуць даносіцца перадсьмяротныя енкі невядомага грызуна.

Вуліцы гарадку, як заўсёды, будуць пустымі. Аканіцы многіх дамоў наглуха забітыя, зрэдзьчас нават закладзеныя цэглай, дахі сям-там прадзіраўленыя. Шурпатыя муры ў стылі правінцыйнай сэцэсіі, побач з пад'ездам дагнівае фатэль яшчэ даакупацыйнай вытворчасьці, аблезлыя зашмальцаваныя ружы, празь якія ўжо пралазіць месіва паралёну.

Спустошанасьць і пакінутасьць гэтых камяніцаў будзе выглядаць амаль дэманстратыўнай і наўмыснай. Але ты будзеш ведаць, што яна падманлівая. І сапраўды, хто ж ня ведае, што жыхары горада цэлымі суткамі хаваюцца па сваіх норах, гуляючыся ў зюлью, робячы няўклюдныя спробы ўпісацца ў мясцовы ляндшафт, зжыцца зь ім, або, як казаў Віль дэ Фрулінг, схаваць галаву ў паветра?

Кожны зь іх трымае ля ложку свае ўласныя сакрэтныя яміны, сэзамы, у якія можна ўнурыцца, каб адчуць сябе ў пазбаўленай часу прастрацыі і пазбыцца ад усіх небясьпекаў. Толькі зрэдзьчас дзесьці ў далечыні вузкай вулачкі, на ўскрайку пэрспэктывы, тваё вока ўхопіць чыюсьці постаць ? гэта тыя бедачыны, каму ўсё ж давялося пакінуць свае схроны, і яны пакрадкам, інтуітыўна шугаючыся ад ліхтароў, будуць імкнуцца да часовай мэты жыцьця — аптэкі або віннай крамы.

Па брукаванцы сівер будзе гнаць шкляны аскепак, праз імгненьне ён ізноў лёгка бдзынькне, перакуліўшыся праз свой конусападобны край, і адразу асядзе асноўнай масай, пасьля чаго твой ненатуральна абвостраны слых пачуе і лёгкае пашкрэбваньне. Побач ты заўважыш яшчэ адзін прадмет, падобны да манеты або жэтону ў мэтро.

Афіцыянтка кавярні «Мэдуза» пасьміхнецца табе сваёй зайчынай губой, і ў гэтай усьмеш-

цы ты прачытаеш нешта непрыстойнае. Заля будзе абсалютна пустой, яна падасца тандэтнай дэкарацыяй да нейкага вадэвілю — або і наогул здымачнай пляцоўкай пошлай гумарыстычнай перадачы. На кожным са столікаў ты ўбачыш штучныя кветкі — праўдападобна — валошкі кітайскай вытворчасьці. У рухах дзяўчыны будзе нейкая празьмерная мітусьлівасьць — так робяць няздарныя акторы, схільныя да «плюсаваньня». Ты зь перасьцярогай возьмеш працягнутую табе шклянку мінералкі — у цябе адразу складуцца ўражаньні, быццам у яе быў падмяшаны пурген, і сотні тысячаў гледачоў ужо затаілі дыханьне ля сваіх тэлескрыняў, рыхтуючыся выбухнуць рогатам у кульмінацыйны момант.

Але, насуперак усім чаканьням, у шклянцы акажацца звычайная халодная мінералка. Мэмбраны тваіх вушэй не скалане дружны рогат. Ты апусьціш парожнюю шклянку на стол і адчуеш расчараваньне — нематываванае і бадай не ўсьвядомленае.

*«Будучы час слова «буду» ў адзінкавай форме трэцяга ладу...»* — чамусьці пранясецца ў тваёй галаве радок з хрэстаматыйнага верша.

Афіцыянтка тым часам застыне ля барнай стойкі, дзіўным чынам высунуўшы ўперад правую нагу. Палоска скуры паміж панчошкай і сукенкай, яўна не прадугледжаная для старонніх позіркаў, зусім не падасца табе спакушальнай.

Дзяўчына будзе не стаяць і ня йсьці, на твары ані задуменнасьці, ані эмоцый. З-пад хусткі пакажацца неахайная пасма валасоў. Потым нейкі час яна будзе мерна боўтацца перад самым тварам, казычучы нос.

Ты парушыш цішыню, папрасіўшы рахунак, але гэты твой голас спляжыцца быццам вожык пад коламі грузавіку, і ты зразумееш, што вось тупік, і ўсё.

Табе давядзецца доўга прасіць рахунак, імкнучыся перакрычаць нечаканы ў гэтых мясьцінах рускі шансон, а потым, калі твой голас будзе ўрэшце пачуты, агрэгат раптоўна ўстрапянецца, яго часткі пачнуць рух — напачатку імпульсіўны, але неўзабаве ўжо больш-менш асэнсаваны. «Рахунак? Зараз, адну хвіліначку... Можа, што-небудзь яшчэ?» Зайчыная губа наблізіцца да цябе ўшчыльную, нахіліцца над самым тваім вухам, і ты раптам здрыганешся ад укусу.

На ратушнай плошчы, сярод дасканала ўладкаваных і дагледжаных клюмбаў ды старасьвецкай брукаванкі, ты ўбачыш руіны старога тэатру. Сэцэсійныя вежы, бы экраны, будуць дэманстраваць скрозь свае пустыя вачніцы фрагмэнты шызаватага неба. Парыў ветру прымусіць затрымцець дрэўцы, што пасьпелі ўжо вырасьці на даху. Чамусьці табе падасца, што галоўная дзея ў гэтым тэатры яшчэ толькі наперадзе. Ты сьвісьнеш, каб парушыць мёртвую цішыню і падбадзёрыць нябачных актораў.

На ганку тэатра ты са зьдзіўленьнем убачыш чыюсьці постаць, што напаўляжыць, прытуліўшыся да адной з калёнаў і высунуўшы ўперад абцягнутыя скуранымі штанамі ногі. Калі ты прыгледзішся, табе падасца, быццам ты запрыкмеціў лёгкае і яўна не ўсьвядомленае ўласьнікам канцовасьцяў варушэньне.

Выключна дзеля цікаўнасьці ты падыйдзеш бліжэй і паторгаеш байкера за калашыну, але ён не адорыць цябе за гэта вясёлым мацюком і піўным подыхам. Ты хутка пераканаешся, што насамрэч перад табою проста лялька з анучаў, набрынялая вільгацьцю бясконцых дажджоў. Магчыма, калісьці яна выкарыстоўвалася ў адным са спэктакляў.

Твае апладысмэнты так і не прагучаць. Затое зь неба ўпадзе колькі дробных кропель.

На нейкі момант перад вачыма будзе толькі шэры вільготны друз, ён паціху пачне напаўняць тваё поле зроку, асобныя каменьчыкі будуць адскокваць, сягаць да твайго твару, шоргаць па скуры, пакідаючы на ёй драпіны. Усё вакол раптам стане пляскатым.

Далей ізноў выгіны вузкай вуліцы з чысьцюткімі ходнікамі і спраўнымі сьветлафорамі. Ты дысцыплінавана спынішся на чырвоным, паслухаеш паліткарэктныя пацюкваньні з дынаміку і адстаіш амаль палову неабходнай хвіліны. Потым плюнеш і нахабна парушыш правілы. Ніводная машына за гэты час не праедзе.

Ты чамусьці падумаеш, што вага кожнага кубамэтра набрынялага вільгацьцю шэрага




Натальля Зямчонак

паветра над табою за апошнія паўгадзіны істотна ўзрасла, прынамсі на 20%. Ты быццам прыціснуты.

У некаторых дамах на першых паверхах абсталяваныя крамы, і ад няма чаго рабіць ты завітаеш у адну зь іх — перадусім дзеля цікаўнасьці, але таксама і каб сагрэцца. Надпіс «Жаночая бялізна» на чужой мове, зразумела, цябе ня спыніць. Ты адразу апынешся ў цэнтры ўвагі ўсіх прадавачак, апранутых у падазрона стэрыльную фірмовую ўніформу з выявамі катэтару на белым тле. Вырвацца з-пад іх апекі ўдасца не бяз цяжкасьцяў. Калі ўрэшце ты ўсё ж здолееш прашмыгнуць у дзьверы, будзе зусім няўцям, навошта ім спатрэбілася гэтак настойліва спрабаваць нацягнуць на цябе станік пятага памеру.

Неспадзеўкі ты пакінеш цэнтральную частку гарадка і апынешся на вузкіх вулачках колішняга гета для рыбакоў. Амаль усе зграбныя дамкі тут ужо абрасьлі бур'яном, на іх дзьвярах, побач з прозьвішчамі, рымскімі лічбамі напісаныя даты, і ты адразу зразумееш, што гэта гады сьмерці гаспадароў. На брукаванцы з булыжніку твой шлях неаднаразова перакрочаць каты — вальяжныя валадары гэтай мясцовасьці.

Напрыканцы вулачкі табе сустрэнецца дзіўная крама, разьмешчаная ў будынку былога касьцёлу. На ёй ня ўбачыш нават шыльды, толькі расклад працы. Ты адразу зразумееш, што за рэчы там прадаюць. Але, не зважаючы на забабонную боязь, без ваганьняў туды зьбочыш.

Старамодныя палітоны на вешалках, у каўнярах якіх нібы затаіліся галовы, саламяны капялюшык з пажухлай атляснай ружачкай, неймавернай формы летнія жаночыя пантофлі, пах нафталіну, знаёмы табе дзякуючы дзедавай шафе.

Потым ты будзеш корпацца ў вялізнай кардоннай скрыні, зьмесьціва якой дазволіць табе прадоўжыць распачаты толькі што пералік: ідэйна правільныя цацкі 50-ых гадоў, паліняны лапсердак з атэлье габрэйскага шаўца з прымацаваным да яго нумарам, паржавелая электрабрытва «Юность», да якой прыліплі некалькі скрываўленых валасінак, галянтны пасак да жаночага палітону з выявай крумкача, які сьціснуў у сваіх абдымках голуба, сподак, на якім яшчэ застаўся адбітак чыйгосьці пальца, пагрызены мольлю рыжы парык з рэшткамі скальпу... Твая рука неўзабаве апусьціцца на самае дно скрыні, каб знайсьці там танюткую кніжачку з аддзёртай вокладкай.

Яна акажацца не на тваёй мове і не на мясцовай. Але ты раптам выявіш дзіўнае валоданьне эстонскай. На пажоўклай старонцы будзе красавацца назва паэтычнага зборніку: «Прыметнікі й прыназоўнікі» (год выданьня — 1956), а трохі вышэй — імя яго аўтара — Інгмарс Ёл. Наўзгадку разгарнуўшы пажоўклыя старонкі, ты прачытаеш:

*млынова-жорнавыя ў заплаканыя блакітныя*
*зблізку парэзаныя на салодкія*
*праз вэнозны да маўклівых летуценных распырсканыя*
*нягледзячы на восеньскія цяжкі без нагоды абраны*
*дзякуючы ад утрапёны ў сувязі з*
*фрагмэнтаваны ў начны кароткі без*
*не адкалупаны каля драўлянага*
*у па-над*
*салодкі на даткліва*
*дзівосным серабрысты ля здранцьвелых*
*у сувязі з мітусьлівых*
*каля ў залежнасьці ад счазелых*
*вечаровыя ў патанулы пры ляжачым*
*ветравы рассыпаны ў разьбітыя*
*і на пад у чырвоных*

Выдзертыя з трывалых маўленчых канструкцыяў словы пададуцца табе часткай прыроды — быццам постук дажджу альбо гул ветру.

Ад чытаньня цябе адарве далікатны чых прадаўца, які выйшаў да сваёй канторкі з падсобкі, створанай у былой закрыстыі. У сполаху ты выпусьціш кніжку з рук, і яна назаўсёды патоне ў нетрах кардоннай скрыні, у няспынных вірах рознага лайна. У вышыні, пад баракальнымі скляпеньнямі, зграйка кажаноў зрушыцца зь месца.

Прадвец выцягне з вушэй пажоўклую вату і ўсім сваім выглядам пачне ўвасабляць цярплівае чаканьне. Сьвяты Францыск Асізкі з замуленай фрэскі будзе марна дакараць тваю сьвядомасьць, натхняючы на чын. Дзесьці далёка прагудзіць карабель — грузавая баржа, што прывезла на іншы бок мора чарговую порцыю ўгнаеньняў.

Прадавец будзе доўжыць сваё цярплівае чаканьне, а ты гэтым часам даткліва абдумаеш словы, зь якімі да яго зьвярнуцца.

Урэшце, пасьля недаравальна доўгай для такой сытуацыі паўзы, ты вырашыш распачаць гутарку самым банальным чынам — пра надвор'е. Твой прыглушаны голас нават табе падасца ненатуральным. Калі цябе заспакоіць маўклівая ўвага да тваіх словаў, ты спытаеш, ці ня знойдзецца тут пара цёплых тапак, якія можна ўтульна нацягнуць на нагу — бо, зважаючы на тое, што восень выдалася сёлета надзіва...

Ты абарвеш сваю фразу на паўслове — суразмоўцы, урэшце, пара было б уступіць у гутарку. Аднак цяпер празьмерна доўга чакаць давязецца ўжо табе. І калі гэты занятак абрыдне, ты зробіш некалькі крокаў у напрамку да канторкі і адразу зразумееш, што стары ціхамірна сьпіць — стоячы і з расплючшанымі вачыма, лёгка абапершыся збуцьвелымі пальцамі на паверхню стала. Потым ты ўбачыш прымацаваны да яго пінжака цэтлік, і гэтая дробная дэталь яшчэ болей павялічыць тваю ўпэўненасьць у тым, што перад табою — усяго толькі адзін з тавараў лаўкі старызьніка.

Ты без шкадаваньня пакінеш апаганены храм, але калі дзьверы за тваёю сьпінай ужо амаль зачыняцца, прадавец раптам спахопіцца і прамовіць слова «Тэйрас». Ягонае значэньне для цябе зусім невядомае, нават ніякіх здагадак.

Абярнуўшыся, ты ўбачыш няўрымсьлівае варушэньне старэчых вуснаў, не зусім падуладных ужо мозгу. Потым твой позірк сьлізьне трохі ніжэй, да стала канторкі, па якім будуць пагрукваць нібы вымачаныя ў расоле пальцы. Раптам ты прыкмеціш яшчэ адну пару вачэй, скіраваную ў твой бок. Пад старэчай рукою прытаіўся маленькі зьвярок, падобны да яшчаркі.

Стары раптам выявіць папраўдзе спартыўны спрыт, цягліцы ягонага цела імгненна напружацца, двума вялікімі скачкамі ён пераадолее апсіду крамы, каб з усяе моцы ўрэзацца галавою ў люстэрка на камодзе якогась нябожчыка. Звон аскепкаў і ўскрык ад болю натхняць цябе на хутчэйшыя ўцёкі.

— І тут мне не ўдалося знайсьці прытулку, — падумаеш ты, уцягваючы галаву ў плечы і захутваючыся шалікам. — Нейкага цёплага і сухога закутка, дзе можна было б згарнуцца шчанючком і спакойна паспаць.

Падхапіўшы парыў ветру, дзьверы з грукатам зачыняцца за тваёю сьпінай. Дзьве кірлі ў гэты час будуць з рохканьнем разьдзіраць каціны труп, што ляжыць пасярод вуліцы.

— Комплексы, шаноўны мой, менавіта комплексы і рознага кшталту мэнтальныя забабоны — вось што становіцца перашкодай у нашым няўстрымным памкненьні да паўнавартаснай самарэалізацыі, здатнай асягнуць самыя розныя бакі неабсяжнай чалавечай натуры, — распачне сваю прамову псыхааналітык Зюзь (сустрэць яго габінэт у гэтым зацішным квартальчыку было сапраўды неспадзеўкай).

У той самы момант частка чэрапу гэтага ссушанага пажылога мужчыны (кавалак ілба непадалёк ад скроні, прарэзаны вэртыкальнымі зморшчынамі) раптам адклеіцца ды пачне павольна спаўзаць па твары. Не зьвярнуўшы належнай увагі на гэтую прыкрую акалічнасьць, ён працягне свой маналёг:

— Мы дагэтуль так і не зразумелі ўсю бязьмерную веліч свайго натуральнага жыцьця ў самых розных яго праявах. І менавіта голас прыроды здатны сьцерці прытворную мяжу паміж дабром і злом, скіраваўшы нашае пазнаньне на шляхі праўды і сілы.

Сынхронна са словамі, зь яго плюгавай галавы вонкі будуць выпаўзаць тысячы рудых жамярыцаў. Пэргамінавы твар хутка цалкам імі пакрыецца.

Апынуўшыся зноў на вуліцы, ты зразумееш, што зусім згубіўся і ўжо ніколі не дасі рады выбрацца з гэтага лябірынту вулачак, якія, з надыходам цемры, сталі яшчэ вузейшымі. Паміж камянямі брукаванкі твае боты намацаюць вільготны мох.

...Але, па вялікім рахунку, можна ўвогуле адмовіцца ад ідэі гэтага шпацыру, так і застаўшыся ў нетрах абгаджанай марскімі птушкамі пасудзіны, утульна ўгрэўшыся ў калюжыне гнілой вады, чыя цеплыня была запазычаная ад твайго цела.

Або і наогул боўтацца прывязаным да якарнага ланцугу, павольна пагойдвацца разам зь невытлумачальнымі пэратурбацыямі ў тоўшчы вады, кранацца сваімі рухавымі пальцамі водарасьцяў і прыцягнуць не абы-якую ўвагу мясцовай вялікаротай камбалы — рыбы, як вядома, драпежнай.

Цягліцы твайго цела будуць па-ранейшаму напятыя, а на твары зафіксуецца той уласьцівы табе крытычна-зьедлівы выраз, які запомнілі многія ўнівэрсытэцкія сябры. Ніхто ўжо не дазнаецца, што стала яго прычынай: ці то прыжыцьцёвыя патугі пэратравіць тлусты сьняданак, ці то сьмешныя выразы твараў мітусьлівых рыбак, ці то скажэньні сьвятла, якія насяляюць ваду фантомамі.

...А можа, проста раскласьціся на розныя хімічныя элемэнты, асобныя малекулы, пазбаўленыя ўсялякай антрапагеннасьці і здатныя служыць прыродзе добрым канструктарам, зь якога яна, Божай ласкай, магчыма, створыць што-небудзь больш вартае?

# ТРИ ГЛОТКА ГРАНАТА

Нет слов, просто нет слов. Как она могла выпустить кота?

Она выпустила кота, случайно замешкавшись в коридоре: одна из огромных, несуразных стеклянных бутылок с гранатовым соком вдруг начала выскальзывать из ладони, стремиться к твердому разрушающему кафелю пола, она присела и схватилась за бутылку обеими руками — стекло было холодным, каким-то почти жидким, практически кровавым. Она так сидела минуты полторы, оцепенев, будто удивляясь случившемуся чуду — не разбилась, не превратилась в дождь из колюще-режущих гранатов — а потом обернулась и заметила, что дверь открыта и кот в нее уже ушел.

Тогда муж и мама вышли на улицу, чтобы поймать кота, а она сидела на кухне и плакала: кот совсем один, маленький серый комочек, пять килограмм паники и неживого, напуганного веса, топает тонкими лапками по льдинкам и сердце холодеет — его от пронизывающего холода, ее — от ужаса. Как ты могла выпустить кота, злым каменным голосом спросил муж, забежав в дом, он запыхался, шапка на его голове стала ярко-красной, как фонарь, под ней лица было уже не разглядеть, вся его голова вообще пылала как факел, посмотри на себя, ты тут сидишь в тепле и куришь (она посмотрела на свои пальцы и с ужасом отметила, что они сжимают дымящуюся сигарету, как успела вообще, когда?), а он, наш маленький, наверное, уже перешел дорогу и его там сбил трамвай. Спасибо, у нас в городе нет трамваев, ответила она, и тогда муж начал страшно кричать — у нас в городе теперь есть что угодно, потому что допуская недопустимые вещи, ты умножаешь количество недопустимых вещей и явлений в мире вообще! Нелепо трижды повернулась на пятке, принимая душ, и защебетала птицей — через три дома у соседей в люльке дитя черничным соком замироточило, три баночки насобирали, полезно для глаз, говорят; маникюрными ножницами с какой-то дури вырезала из вяленой рыбы квадратик и вазочку — на железнодорожной станции телефонный аппарат вдруг сказал внятным мужским голосом: «Внимание! Все мосты заминированы! Поезд превратился в чайный сервиз и весь разбился вдребезги от соприкосновения с жесткостью рельсов!»; съев мандаринку, водрузила полученную географическую карту кожуры на голову с целью просто подурить — а в городе цистерна с мясом перевернулась и залило полквартала неизвестно чем, страшно даже смотреть. И так далее, и тому подобное. Неожиданно закурила — порвалась связь времен. Обрезала себе ресницы ножом для масла — на кладбище взорвалась одна из могил, хорошо еще, что не свежая. Выпила козьего яду — проснулась в книжном шкафу небольшой колонией вшей. Что еще?

— Ты почему молчишь? — заорал муж. — О чем ты думаешь?

Отвлечься от небольшой колонии вшей не так уж и сложно — бедный кот, подумала она снова, никакими кошмарами не прикрыть этот главный кошмар. Они всегда очень осторожно закрывали и открывали дверь, потому что кот постоянно стремился на улицу, это был новый дом, новый район, коту все было интересно, что снаружи, он стоял часами у двери и тонко поводил носиком, будто пытаясь прочитать ландшафт окрестностей по тонким ниточкам, тянущимся из воздуха. Человек с сознанием курицы-гриль не имеет права анализировать мир через метафоры и воздушные нити, сказала она сама себе, приложила горящую сигарету к запястью, тонкому и бледному, как лед, и тихо-тихо завыла.

— Ненормальная! — радостно сказал муж, схватил с полки банку кошачьих консервов и убежал на улицу, откуда доносилось радостное воркование мамы. Мама ничему не радовалась на самом деле, просто ей показалось, что если она будет радостно кудахтать, котик подумает, что ей досталось что-нибудь вкусненькое и подбежит посмотреть. Но котик не подбегал. Муж и мама включили фонарь и начали бегать с фонарем по району, разбрасывая всюду какую-то мишуру из кошачьих консервов.

Надо выйти на крыльцо и там ждать кота, может быть, он узнает дом и вернется, подумала она, сняла кофту и носки, чтобы было так же холодно, как и ему там, на морозе, бедненькому, и села на крыльцо, распахнув дверь прямо в пустоту, мороз и ветер, прорезаемый лучами охотничьего фонаря, — это мама и муж добрались уже достаточно далеко, узнать что-либо о них можно было только по интенсивности и нервозному мельтешению вспышек.

«А я буду тут сидеть и ждать его, — решила она. — Он будет мерзнуть, и я тоже. Ему будет страшно, и мне тоже. Он поймет, что все закончилось, причем закончилось так глупо — и я тоже».

Она прислонилась головой к двери и закрыла глаза. Где-то вдалеке темноту прорезали прожекторы, будто война — это мама и муж добежали до пожарной станции, вдруг кот там, трам-пам-пам. Она подышала на свои руки и начала тихонечко напевать.

К дому подошел неизвестный человек в дурацкой малиновой шинели. Она напряглась, начала нащупывать в кармане связку ключей, чтобы пропустить каждый из ключей меж пальцев, идеальное оружие, дом-то открыт, заходите кто хотите.

— Ты что? — спросил человек сквозь черную бороду, вид у него был испуганный, он напоминал огромную черную птицу, напялившую карнавальный костюм какой-то другой огромной черной птицы. — Ты зачем сидишь тут? Зачем мерзнешь? Меня ждешь?

— Ты кто, кого? — спросила она, елозя рукой и ключами, сросшимися в некую единую биоконструкцию, в кармане. — Что н? Чт надо? — у нее зуб на зуб не попадал.

— Я кто, я твой муж, кто, — прошамкала черная борода. — Вот же глупенькая, застудишь все, мигом домой, ну, а если бы я позже приехал? То что бы? В больничку с пневмонией, да? Вот дурында же, дура совсем.

И схватил ее в охапку и повел, заиндевевшую и испуганную, в дом.

— Кот. Я выпустила кота, — попыталась объяснить она причину своих волнений.

— У нас нет кота, — отвечал человек в малиновой шинели, увлекая ее куда-то на кухню, к холодильнику, может, это специальный кухонный грабитель, подумала она, сейчас наберет еды и убежит, хорошо бы.

— Я выпустила кота, — тихим, ледяным голосом пропищала она. — Мой муж и моя мама пошли его искать. Вот — там за окном луч — видите? Это они с фонарем его ищут. С прожектором. И каждые пять или семь минут они подбегают к дому, чтобы проверить, не пришел ли кот сам. Сейчас они тоже придут. Поэтому вам лучше уйти. Я не одна тут.

— Вот дура же, дура-дурочка! — ласково сказал человек в малиновой шинели, распахивая холодильник и вынимая из него баночку майонеза. — Дурной зайчик замерзший. Белочка под елочкой сидела и белочку подхватила. Белая-белая белочка, да? Да?

Он выдавил на ломоть хлеба тонкую змеистую струю белого-белого, как мел, майонеза и начал энергично жевать хлеб. На его бороду сыпались крошки.

— И не приготовила ничего, — улыбался он, плюясь крошками. — Конечно, с чего бы. На крылечке в мороз посидеть, застудиться — самое то! Не то, что борщ готовить. Борщ — он кровавый! Святой и правый! — тут он запел. — Марш, марш вперееееееед! Марш, мой нароооооood!

Слова неправильные, подумала она, борода неправильная, и сам он неправильный.

— Муж с фонарем! — шипел он сквозь бутерброд. — Муж — это же я! Какой это там муж ищет какого там кота, если кота у нас нет, и муж твой — это я? И мама, ну какая мама, зайчик дурной — дурацкий, мама в Набережных Челнах, где же еще маме нашей быть?

Ну, этот муж получше того, подумала она, этот хоть не ругается, что я кота выпустила. Но все равно: чужой человек, абсолютно. И майонез этот, тьфу, неужели ему не противно.

Муж помыл руки в кухонном умывальнике, щедро полив их средством для мытья посуды, закрыл наглухо входные двери, съел еще один бутерброд с майонезом, немного пожурил ее за то, что она уже третий раз за неделю не приготовила никакого ужина, пора уже и учиться чему-то, а то сидит днями дома, он-то конечно понимает, что работа так сразу не ищется, но надо уже как-то шевелиться, три месяца уже дома сидит, ну, даже стыдно. Потом муж долго сербал горячий чай, неприятно втягивая воздух, принял душ и пошел спать, потащив ее за собой. Она послушно шла за ним по ступеням вверх, вот и спальня, подумала она, теперь нам с ним там спать, раз муж. Но муж не хотел спать с ней в общепринятом смысле.

— Ты такая холодная! — сказал он. — Даже дотрагиваться до тебя неприятно. Зачем так долго сидела на крыльце?

— Кот. Я выпустила кота, — тихо сказала она.

— У нас нет кота и никогда не было, — сонно пробормотал муж. — Наверное, ты выпустила его еще когда-нибудь в прошлой жизни, еще до рождения — вот у нас его и нету поэтому...

Она не могла заснуть, это понятно. Муж отрубился очень быстро, захрапел, разметался по простыне. За окном послышалось какое-то шебуршание, она поднялась, тихо-тихо, стараясь не скрипеть половицами, подошла к окну и посмотрела вниз. Там, у забора, в прозрачном морозном воздухе будто бы висели две фигуры — это были изначальный муж и мама. В руках у мамы был котик.

— Поймали? — спросила она одними губами.

Мама триумфально подняла котика на вытянутых руках и улыбнулась. Котик выглядел крайне недовольно, мордочка у него была сморщенная, как у старой обезьянки.

Мама и изначальный муж показали знаками: впусти нас, открой дверь. Но она показала им в ответ — тоже знаками — я не могу вас пустить, дома муж, он спит здесь со мной, ничего не выйдет, он не поймет, если я открою дверь и буду кого-нибудь впускать в дом, я не смогу ничего ему объяснить.

Но это же ты выпустила кота, ты же сама виновата, знаками показали муж и мама, поэтому ты сама должна расхлебывать все это дерьмо, спускайся уж давай, открывай. И посветили фонарем прямо ей в лицо.

Нет, ответила она знаками, это исключено, мне, конечно, очень стыдно и страшно из-за того, что я выпустила кота, но раз уж сама судьба как-то разрешила эту дурацкую, странную ситуацию, которая у нас с вами здесь возникла, — а вы ведь не будете отрицать, что все протекало каким-то странным чередом, нет? — я поддамся внутренним течениям судьбы и будь что будет.

Ну хорошо, как хочешь, тогда пока, знаками сказали ей изначальный муж и мама. Кажется, они были недовольны. Мама запихнула под мышку кота, муж — фонарь.

Она пожала плечами и спустилась вниз, открыла холодильник, достала оттуда стеклянную бутылку с гранатовым соком и налила себе стакан. Вот так удерживаешь что-нибудь, подумала она, делая ледяной глоток, удерживаешь в последнюю секунду, хватая в миллиметре от убийственной земли, чтобы не разбилось, чтобы не разрушилось — а в результате разбиваешь и разрушаешь вообще все, что за этим стоит. А так бы просто убрала осколки, помазала бы порезанный палец йодом и вымыла пол. Но раз уж одна жизнь вдруг стала абсолютно другой — поздно о чем-то жалеть. Вероятно, это был мой сознательный выбор, подумала она, но вдруг у нее так сильно защемило в груди, что она решила больше никогда-никогда не думать о том, сознательный она сделала выбор или нет. Еще три глотка — и спать. Жизнь такая жизнь.

## СКРАДЗЕНЫ ДОМ

Мы любілі наш дом, бо ён быў прасторны ды старажытны (у нашыя дні такія старажытныя дамы часта разьбіраюць, бо матэрыялы, зь якіх яны збудаваныя, можна прадаць па дужа выгодных коштах). Апроч гэтага, у доме жылі згадкі пра нашае дзяцінства ды пра нашых прадзедаў, дзеда па бацькоўскай лініі і бацькоў.

Мы зь Ірэнэ прызвычаіліся жыць удваіх, хоць гэта выглядала як шаленства, бо ў доме безь аніякіх праблемаў магло б пасяліцца чалавек восем. Устаючы а сёмай, мы разам прыбіралі дом — недзе да адзінаццатай, калі я пакідаў Ірэнэ дамываць апошнія пакоі ды йшоў у кухню. Сьнедалі мы апоўдні, заўжды у адзін і той жа час. Пасьля сьняданку нас не чакалі аніякія справы, акрамя мыцьця посуду, таму мы елі дужа нясьпешна, думаючы пра свой вялізны ціхі дом і пра тое, як нам самастойна ўдавалася падтрымліваць яго ў парадку. Часам у нас узьнікала думка, што менавіта па віне дома ніхто з нас дваіх так і не пабраўся шлюбам. Ірэнэ безь відавочных прычынаў адмовіла двум прэтэндэнтам на яе сэрца, а мая Марыя Эстэр памерла яшчэ да таго, як мы зь ёй заручыліся. Калі нам зь Ірэнэ пераваліла за сорак, мы прыйшлі да маўклівай згоды, што, пэўна, нашае суіснаваньне брата і сястры мусіць стацца лягічным завяршэньнем і тупіковай галіною нашага роду, які пачаў сваё існаваньне ў гэтым доме. Мы ўяўлялі, як аднойчы там памром: самотныя беспрытульныя кузэны, якія разабралі свой дом дазваньня, каб разбагацець за кошт зямлі ды цэглы... Ці, як варыянт, мы маглі б ўласнаручна разбурыць дом, пакуль яшчэ не было занадта позна.

Ірэнэ ад нараджэньня была дужа рахманай і нікому ні ў чым не замінала. Пасьля ранішняга прыбіраньня дома яна бавіла рэшту дня, седзячы на канапе ў сваёй спальні ды вяжучы. Ня ведаю, чаму яна так шмат вязала. Мне падаецца, для жанчынаў гэты занятак стаўся цудоўнаю падставаю, каб нічога не рабіць. Аднак Ірэнэ ў гэтым сэнсе адрозьнівалася, яна заўжды вязала толькі патрэбныя рэчы: зімовыя швэдары, гольфы для мяне, понча ды камізэлькі для сябе. Здаралася, зьвязаўшы якую камізэльку, Ірэнэ адразу ж яе распускала, калі ёй нешта ў гэтай камізэльцы не падабалася. Было прыемна дзівіцца на гурбачку маткоў воўны ў кошыку, якія, нягледзячы на сваё адчайнае змаганьне, праз некалькі гадзінаў гублялі форму. Па суботах я выпраўляўся ў цэнтр, каб набыць для Ірэнэ воўны. Яна давярала майму густу, ёй заўжды падабаліся колеры, якія я выбіраў, і мне ніколі не даводзілася вяртаць набытыя маткі. Я скарыстоўваў гэтыя шпацыры яшчэ і для таго, каб завітаць у бібліятэкі ды пацікавіцца, ці не зьявіліся якія навінкі французскай літаратуры. Усё было беспасьпяхова, бо з 1939 года да Аргентыны не даходзілі ніякія вартыя ўвагі кнігі.

Аднак жа я тут распавядаю зусім не пра сябе, а пра дом, пра дом ды Ірэнэ. Дык вось, я спрабаваў уявіць, што б рабіла Ірэнэ, калі б не займалася вязаньнем. Напрыклад, кнігу можна перачытаць. Але немагчыма, распусьціўшы гатовы швэдар, зьвязаць ягоную дакладную копію. Аднойчы ў ніжняй шуфлядцы камоды з камфоравага дрэва я знайшоў процьму хустак — блакітных, зялёных, ліловых. Яны былі закіданыя нафталінам ды нагрувашчаныя ў кучу, як у галянтарэйным аддзеле. Я так і не наважыўся запытаць Ірэнэ, што яна зьбіралася з гэтымі хусткамі рабіць. Нам ня трэба было зарабляць сабе на жыцьцё: штомесяц мы атрымлівалі прыбытак з гаспадаркі ў палях, нашыя капіталы расьлі. Ірэнэ проста падабалася вязаньне як такое, у яе гэта цудоўна атрымлівалася. Я мог гадзінамі назіраць за рукамі Ірэнэ, у якіх то ўздымаліся, то ападалі вострыя пруткі, якія нагадвалі двух вожыкаў з пасярэбранымі іголкамі. Я мог бясконца дзівіцца на клубкі воўны, што няспынна варушыліся ў адным ці двух кошыках на падлозе — тое выглядала прыгожа.

Важна таксама згадаць пра пляніроўку дома. Страўня, заля з габэленамі, бібліятэка ды тры вялікія спальні месьціліся ў дальняй частцы дома, вокны якой выходзілі на плошчу Радрыгэса Пэны. Толькі адзін калідор з масіўнымі дубовымі дзьвярыма аддзяляў гэтую частку дома ад бліжняга крыла, ў якім месьціліся лазенка, кухня, нашыя спальні і гасьцёўня, якая злучалася са спальнямі ды калідорам. Уваходзіць у дом трэба было праз вітальню, абкладзеную керамічнай пліткай; адтуль кратаваная брамка вяла акурат у гасьцёўню. Такім чынам, калі нехта заходзіў у дом праз вітальню, ён адчыняў кратаваную брамку і апынаўся ў гасьцёўні, дзе паабапал знаходзіліся дзьверы нашых зь сястрой спальняў, а насупраць — калідор, які вёў у аддаленае крыло дома. Калі ісці па калідоры, можна было патрапіць да дубовых дзьвярэй і,

прайшоўшы празь іх, апынуцца ў другім крыле дома, ці, крыху не дайшоўшы да дзьвярэй, збочыць у вузенькі калідорчык, што вёў да кухні і лазенкі. Калі дубовыя дзьверы былі адчыненыя, дом падаваўся дужа вялікім, калі ж яны былі зачыненыя, дом нагадваў адну з сучасных кватэраў-каморак, у якіх складана нават павярнуцца. Мы зь Ірэнэ жылі менавіта ў гэтым, пярэднім, крыле дома і амаль ніколі не заходзілі за дубовыя дзьверы — хіба толькі каб там прыбраць (проста неверагодна, як хутка зьбіраецца на мэблі пыл!). Буэнас-Айрэс лічыцца чыстым горадам, але гэта тычыцца толькі ягоных жыхароў, і нічога іншага. У паветры заўжды поўна пяску, і дастаткова аднога павеву ветру, каб ён асеў на мармуровых кансолях ды забіўся паміж ромбікамі дыванкоў з макрамэ. Тая яшчэ работка запыласосіць увесь гэты пясок: ён разьлятаецца ў паветры і празь імгненьне зноўку асядае на мэблі ды піяніна.

Я заўжды буду дакладна памятаць, як гэта адбылося, бо ўсё здарылася хутка й без асаблівага шуму. Была восьмая ўвечары, Ірэнэ вязала ў сваёй спальні, а мне раптоўна захацелася запарыць матэ. Я дайшоў па калідоры да прычыненых дубовых дзьвярэй ды збочыў у калідор, што вёў да кухні, і раптам пачуў нейкія гукі, якія даносіліся ці то са страўні, ці то зь бібліятэкі. Гукі былі неразборлівыя ды глухія, быццам нешта ўпала з крэсла на кілім ці быццам нехта ціха шаптаўся. У той жа момант ці сэкундай пазьней я пачуў, што гэтыя гукі набліжаюцца па калідоры ад тых дальніх пакояў да дубовых дзьвярэй. Не губляючы ні сэкунды, я кінуўся да дзьвярэй і рэзка іх зачыніў, наваліўшыся на іх усім целам. На шчасьце, ключ знаходзіўся з майго боку, а для вернасьці я зачыніў дзьверы яшчэ й на вялізную засаўку.

Затым я пайшоў у кухню і паставіў грэць ваду для матэ. Калі я вярнуўся ў пакой з падносам, то паведаміў Ірэнэ:

— Мне давялося заблякаваць дубовыя дзьверы ў калідоры: яны захапілі дальняе крыло дома.

Ірэнэ кінула вязаць ды паглядзела на мяне сваімі сумнымі стомленымі вачыма:

— Ты ўпэўнены?

Я кіўнуў.

— Ну, тады нам давядзецца жыць толькі ў гэтай частцы дома, — прамовіла яна, зноўку беручы ў рукі пруткі.

Я дужа стараўся, запарваючы матэ, аднак Ірэнэ пакаштавала яго не адразу, бо вельмі паглыбілася ў вязаньне. Я памятаю, яна вязала для мяне шэрую камізэльку, якая мне надта падабалася.

Першыя дні нам даводзілася цяжка, бо кожны з нас пакінуў у захопленай частцы дома шмат рэчаў, якія былі нам дарагія. Напрыклад, уся мая калекцыя французскай літаратуры засталася ў бібліятэцы; Ірэнэ часта згадвала пляшку «Эспэрэдыны»[1] шматгадовай вытрымкі. Даволі часта (аднак толькі цягам першых некалькіх дзён) мы зачынялі якую-небудзь шуфляду камоды і, скрушна гледзячы адно на аднаго, казалі:

— Тут гэтага няма.

І была яшчэ адна — самая галоўная — рэч, якую мы згубілі з таго боку дзьвярэй.

Аднак у сытуацыі, што склалася, былі і перавагі. Працэс прыбіраньня хаты скараціўся настолькі, што нават калі мы прачыналіся дужа позна — напрыклад, а палове на дзясятую — мы сканчвалі ўсе справы яшчэ да адзінаццатай. Ірэнэ прызвычаілася хадзіць са мной у кухню ды дапамагаць гатаваць сьняданак. Паразважаўшы, мы вырашылі, што пакуль я гатую сьняданак, Ірэнэ можа гатаваць халодныя закускі на вечар. Ідэя нам дужа спадабалася, бо нас заўжды прыгнятала неабходнасьць штовечар выбірацца са сваіх спальняў ды брацца за гатаваньне вячэры. Цяпер жа нам дастаткова было сесьці за стол у спальні Ірэнэ ды частавацца ранішнімі нарыхтоўкамі — нас гэта цалкам задавальняла.

Яшчэ Ірэнэ была радая, што ў яе зьявілася больш часу для вязаньня. Я некаторы час бадзяўся бяз справы, згадваючы свае кнігі, але, каб не засмучаць сястру, узяўся пераглядаць бацькаву калекцыю марак, што дапамагала мне забіваць час. Мы амаль увесь час бавілі разам, ва ўтульнай спальні Ірэнэ, дзе кожны з нас займаўся сваёй справай. Часам Ірэнэ казала:

[1] «Эспэрэдына» — традыцыйны аргентынскі апэрэтыў зь мятна-памаранцавым араматам.

— Паглядзі на вочка, якое ў мяне атрымалася. Яно не нагадвае табе па форме лісьцік канюшыны?

А празь імгненьне ўжо я дэманстраваў Ірэнэ маленечкі папяровы квадрацік, каб яна ацаніла каштоўнасьць якой-кольвечы маркі з краявідам Эўпэн-Мальмэдзі[2]. Нам жылося збольшага добра і пакрысе мы прызвычаіліся ня думаць. Жыць ня думаючы можна.

(Калі Ірэнэ пачынала размаўляць у сьне, я вокамгненна прачынаўся. Я так і ня здолеў прызвычаіцца да гэтага голасу, які нагадваў магнітафонны запіс ці клёкат папугая, голасу, што вырываўся наўпрост са сноў, а ня з горла. Ірэнэ ў сваю чаргу казала, што мой сон складаецца з чаргі баталіяў зь нябачнымі ворагамі, у выніку якіх нават часам звальвалася долу коўдра. Паміж нашымі спальнямі месьцілася гасьцёўня, аднак мы зь сястрой штоноч чулі розныя гукі, якія разносіліся па доме: нечае дыханьне, кашаль. Нас абодвух часьцяком пачала наведваць бяссоньніца, бо нам уяўлялася, як рука незнаёмца паварочвае ў замку ключ...

Ня лічачы начных шолахаў, у доме панавала цішыня. Удзень дом гучаў роўным гудзеньнем звычайных гаспадарчых справаў, мэталёвым дзінькананьнем вязальных пруткоў ды шэптам старонак філятэлічнага альбома. Здаецца, я ўжо казаў, што дубовыя дзьверы былі дужа масіўныя. У кухні ды ў лазенцы, якія непасрэдна злучаліся з захопленай часткай дома, мы заўжды размаўлялі грамчэй, а Ірэнэ часам сьпявала калыханкі. Любая кухня заўжды поўніцца бразгатаньнем посуду ды шыбаў, таму іншым гукам у яе прабрацца цяжка. Мы вельмі рэдка дазвалялі маўчаньню ўсталявацца ў кухні, аднак калі мы вярталіся ў свае спальні ці гасьцёўню, дом апаноўвалі цішыня ды паўцемра, і мы хадзілі ледзь не на дыбачках, каб не шумець. Мяркую, менавіта з-за гэтага я адразу прачынаўся, калі ўначы Ірэнэ пачынала размаўляць уголас.)

А потым адбылося амаль тое ж, што ўпершыню,— толькі зь іншымі наступствамі. Увечары мне захацелася піць і перад тым, як класьціся спаць, я сказаў Ірэнэ, што пайду ў кухню глытнуць вады. Наблізіўшыся да дзьвярэй спальні (Ірэнэ вязала ў пакоі), я пачуў гоман, які даносіўся з кухні. З кухні ці, можа, з лазенкі — ня ведаю, бо заварот калідору прыглушаў гук. Ірэнэ заўважыла, як рэзка я прыпыніўся і, не прамовіўшы ані слова, падышла да мяне. Мы стаялі, прыслухоўваючыся да шуму і дакладна ўсьведамляючы, што гукі даносяцца з гэтай часткі дома, з нашага боку дубовых дзьвярэй — з кухні ці лазенкі, калі не з самога калідора, які вёў да нашых пакояў.

Мы не марудзілі ні сэкунды: я схапіў Ірэнэ за руку і, цягнучы яе за сабой, пабег да кратаванае брамкі, не абарочваючыся. Гукі за нашымі сьпінамі сталі грамчэйшымі, але па-ранейшаму былі крыху прыглушанымі. Я рэзка адчыніў дзьверы і мы апынуліся ў вітальні. Адсюль нічога не было чуваць.

— Яны захапілі і гэтую частку дома, — сказала Ірэнэ. Зь ейных рук зьвісала вязаньне, і ніткі ад яго цягнуліся пад кратаваную брамку, губляючыся за ёй. Калі я заўважыў, што клюбкі засталіся з таго боку, адразу ж распусьціў вязаньне.

— Ты пасьпела што-небудзь узяць? — задаў я бессэнсоўнае пытаньне Ірэнэ.

— Не.

Мы апынуліся на вуліцы ў чым былі. Я згадаў пра пятнаццаць тысячаў пэса, што захоўваліся ў маёй шафе, аднак ужо, безумоўна, было позна.

На маёй руцэ застаўся гадзіньнік, таму я ўбачыў, што была адзінаццатая ночы. Я абняў за талію Ірэнэ (здаецца, яна плакала), і мы рушылі на вуліцу. Перад тым, як мы адышліся ад дома, мяне ахапіла шкадаваньне. Я зачыніў уваходныя дзьверы і выкінуў ключ у сьцёкавую канаву: ніводнаму дурню ўсё адно не прыйшло б да галавы ў такі позьні час абрабаваць і без таго скрадзены дом.

*Пераклала з гішпанскай мовы Дар'я Вашкевіч паводле тэксту:*
*Современные писатели Испании и Латинской Америки. // Cortazar «Casa tomada». — Москва: Московский Лицей, 2004. — С. 171—175.*

[2] Эўпэн-Мальмэдзі — нямецкамоўны раён Бэльгіі, які знаходзіцца на мяжы зь Нямеччынай.

# КАРОБКА

Быў халодны й пагодлівы красавіцкі
дзень,
гадзіньнікі прабілі трынаццаць
*Джордж Оруэл*
*«1984»*

2065-ты расьплюшчыў вочы й паглядзеў на ўваходныя дзьверы, якія былі зачыненыя на засаўку, замок быў не патрэбны й ён нават ня ведаў, што такое ключы… паліцыя дагляду забараняла зачыняцца нават у прыбіральні… была волкая раніца, яго як звычайна падняла радыё, а шостай… грымнуўшы гімнам Імперыі Ўсходніх Сялян, разварушыўшы ягоны мозг, распачаўшы са словаў: «*Мы ся-аааа-ляне, вялікія людзі, спакойна жывем на цудоўнай зямлі, жыта рыхтуем, бульбу гадуем…*» ён пазмагаўся з кропкаю на радыё, каб зрабіць цішэй, але, як звычайна беспасьпяхова… за вакном распачаўся дождж, такі ж звычайны для раніцы як і гімн… ён сеў на ўскрайку ложка, паглядзеў у падлогу, прачынаньне для яго было пакутаю… з правага боку на сьценцы радыё апошні раз прагаласіла «мы сяляне» й пераскокнула на мужчынскі бас, які вітаў зь волкаю раніцаю й абвяшчаў апошнія навіны Імперыі: «*…на сегодняшні момант збожжа ў Імперыі сабрана каля 235134 тон і на гэтым, як прамовіў старэйшы брыгадзір камбайнёраў, ніхто з працаўнікоў спыняцца не зьбіраецца… а таксама — зь візытам па азімых па краіне праедзе Міклахай Сонечны…*» дыктар яшчэ нешта баўбатаў, даволі тыповае й звыклае, кожную раніцу ён прамаўляў амаль аднолькавыя навіны, толькі мяняліся лічбы… 2065 пацягнуўся, седзячы ў ложку, й падняўшыся, выправіўся ў прыбіральню… пасьля туалету, пачысьціўшы зубы, ён прыняўся старанна галіцца, бо камеры на гальштуках-матылях, якія яны апраналі раніцаю й разьвіталіся зь імі толькі пад вечар, пільна сачылі за зьнешнім выглядам, таму што так было прапісана ў «Галоўнай кнізе»… зь няголеным тварам лёгка было патрапіць на спэцпрацу… мужчына апрануўся ў чырвоную вопратку, якая колерам адносіла яго да працаўнікоў на зямлі (камбайнёры, трактарысты й пасявальшчыкі)… была яшчэ зялёная вопратка, яе апраналі толькі тыя, хто працаваў на будоўлях Лядовых Дварцоў… і была яшчэ чорная — кіроўцы, й карычневая — прамыслоўцы й спэцпрацаўнікі…

2065-ты, як толькі апынуўся на вуліцы, адразу быў агаломшаны гоманам і лямантам з дынамікаў, якія даносіліся зь вялікіх плоскіх экранаў з усіх кутоў хат і рагоў дамоў… ён з самага нараджэньня ні адну хвілю не адчуваў сябе ўтульна ў гэтым сьвеце, быццам бы нарадзіўся ня тут і ня ў гэты час… з самага вялікага экрану, які трапляўся яму на сьцежцы да грамадскага прыпынку, лыбілася жанчына й як звычайна мовіла доўгую прапагандысцкую рэч: «гальштук-бабачка прыкрасная вешч якая не толькі дзелает вас красівымі але таксама ахраняет ваша здароўе… апранаю камеру каб жыць і каб любіць… абірайце і набывайце бяспеку толькі ў магазінах Імперыі…» мужчына крочыў да свайго аўтобусу і час ад часу дакранаўся да гальштука-матыля, які быў пафарбаваны ў зялёны колер і вакол уманціраванай пасярэдзіне камеры быў акрэсьлены чырвоным паўколам… 2065 аднойчы забыўся на гальштук і не апрануў як звычайна раніцою… потым прыйшлося адпрацоўваць на заводзе па вытворчасьці пліткі для ходніка… усё гэта было залічана па стацьці №3846 — «Неўважлівае карыстаньне прыладамі Імперыі й спроба Рэвалюцыі ў самым вольным і мірным сьвеце»… пасьля такога ён баяўся здымаць матыля нават ноччу й у прыбіральні…

надвор'е ў Імперыі амаль ніколі не мянялася, раніцою йшоў дождж, а праз дзьве гадзіны праглядала сонейка й пякло ажно да самага вечара… уся Імперыя знаходзілася пад вялікім капалам, які быў сканструяваны ў космасе й пастаўлены на краіну яшчэ ў часы Алянандра Непабядзімага, які ў «Галоўнай кнізе жыцьця сялян» тлумачыў гэта такім чынам: «*мы, сяляне, высшая нацыя, і акрамя нас больш не сушчэствует мір, таму гэты купал будзе ахраняць нас ад таго, каб мы случайна не пападалі, дайшоўшы да края зямлі Імперыі…*»

Імперыя Ўсходніх Сялян мае цэлую структуру й ні на што не падзяляецца, такім чынам правадыру Міклахаю Алянандравічу Яднанаму лёгка кіраваць краінаю й ён кожным ся-

лянскім годам, які складаецца з аднаго збору пасяўных, аб'язджае зь візытамі па калгасах усю краіну, у прынцыпе ён больш анічога ня робіць, акрамя як сядзіць у сваім Палацы й назірае праз камеры за жыцьцямі жыхароў... па чутках, ён мае ажно за сорак тысяч камер, і гэта толькі ўсталяваных на будынках, вуліцах і грамадзкіх транспартах... а пэўную колькасьць камер падлічыць цяжка, магчыма гэтыя сьведчаньні знаходзяцца толькі ў камітэце бясьпекі Імперыі, складзеныя яшчэ зь дадзеных дасьледаваньняў-падлікаў часоў першага...

2065-ты дакрочыў да прыпынку, на якім быў усталяваны вялікі тэлевізар, які перадаваў учорашнюю гульню ў хакей сярод першага цэху камбайнёраў зь пятым адзьдзелам пасявальшчыкаў... прагучаў сьвісток, і каманды разьехаліся на адпачынак, і на экране зьявіўся тоўсты дзядзька ў зялёна-чырвонай вопратцы, ён, як звычайна, займаўся сацыяльнай прапагандаю: «*сялянін ніколі не павінен забывацца на тое, што хакей і пасяўныя — аснова ягонага жыцьця, таму нумары (ідзе пералік шэрагу нумароў), якія ўчора не зьявіліся на ўсеагульным вечаровым спартовым мерапрыемстве, будуць пакараныя... кожным тыднем у нашай Імперыі будуецца новы Лядовы Дварэц, і гэтага мусіць хапаць, каб сяляне жылі лагодна й здарова й кожным вечарам наведвалі гэтыя будынкі нават хворымі... адсутнасьць на спартовых мерапрыемствах прыроўніваецца да спробы рэвалюцыі... наш карміцель, сьвяты Алянандр не дзеля таго ізаляваў краіну, каб мы гультайствам хварэлі... мы існуем тут як вынік самаахвяры аднаго чалавека дзеля нацыі!.. усім нам добра вядома, што й па гэты час вядзецца бойка зь страйкістамі й бумцамі, якія памылкова лічаць нашу Імперыю нясапраўднаю... караць, усіх караць!.. калі вы заўважыце кагосьці падазронага, абавязкова паведамляйце ў камітэт бясьпекі... мы сьпынілі міжнародныя адносіны й гандаль, бо таго жадаў Касьмічны Бог, бо сяляне былі абранаю нацыяй... яны доўга блукалі па зямлі, пакутавалі, клікалі дапамогі й абароны, але кожным разам траплялі ў пастку да якойсьці варожай культуры... Непабядзімы выратаваў нас... таму мы мусім гэта памятаць і дабраслаўляць яго кожным днём...*» 2065 не пачуў свайго нумару (першыя чатыры лічбы якога як раз супадалі зь цяперашнім годам у Імперыі) з вуснаў дзядзькі-прапагандыста й яму палягчэла і надалей ён амаль ня слухаў тэлевізар... яго аднойчы, год таму, не пабачылі на дражынках, галоўным сьвяце Імперыі пасьля Сьвята Нараджэньня Алянандра, прышэсьце якога хутка мусіла адбыцца, як прадказвала «Кніга», і таму ён кожным ранкам, ідучы на свой прыпынак, з жахам чакаў, калі пачуе свой нумар з вулічнага экрану... яму не карцела ізноў апынуцца на спэцпрацы... але што ён мог зрабіць тады, калі сапраўды захварэў, а зьвярнуцца за дакумантам аб хваробе не было да каго, бо ўсе, УСЕ мусілі быць на дражынках!!!.. і ён апынуўся ў нявыкрутцы, самотны й з тэмператураю ў ложку... да лекара ён дазваніўся толькі на наступны дзень, але той адмовіў яму ў наведваньні... лекар зьбіраўся на працу валанцёрам будаваць новы Лядовы Дварэц на месцы старога, які пад час дражынак урачыста зьнесьлі... так бы мовіць — спартовая зацікаўленасць за здаровую нацыю й здаровы лад жыцьця...

шчасьлівы ты, 2065, — прамовіў сусед на прыпынку, ім апынуўся 1313-ты, калега па працы, яны разам пасяваюць..., — я так кажу, бо хутка ў цябе дзень нараджэньня... мо цябе адзначаць на працы... хто ведае, — задуменна падагульніў 1313-ты й рамантычна ўглядзеўся ўверх, адмеціўшы заканчэньне дажджу...

пасяўнымі прыходзілася займацца кожны месяц, бо збожжа зьбіралі дванаццаць разоў за «звычайны» год, таму кожны месяц адзначаўся Новы год... імпэратар-правадыр адмяніў стары адлік гадоў і месяцаў й перавёў на спэцкаляндар... які адштурхоўваўся ад пачатку пасяўных і да іх канца...

Імперыя пад капалам хутчэй нагадвала шклярнік за краіну, вада была праведзена пад стольлю й кожную раніцу палівала зямлю... потым уключаліся, калі не было з-за хмараў сонейка, электразьбярагальныя флуарысцэнтныя лямпачкі й грэлі краіну...

да прыпынку пад'ехаў вялізны й стары аўтобус, дзьверы адчыніліся й з прыступак выскачыў малады хлопец, і на яго адразу накінуліся два паліцэйскіх, якія хаваліся за прыпынкам... «У чым справа!!! — лямантаваў хлопец. — Я маю волю размаўляць як хачу й дзе хачу!!!»... адзін зь паліцэйскіх толькі прамовіў: «*мы атрымалі паведамленьне*

*ад аднаго з пасажыраў аўтобуса, што вы размаўлялі і зьярталіся да людзей на забароненай бумскай мове, і па стацьці №235523767/13545 «Спроба гвалту Імперыі празь забароненыя гукі» вы будзеце ізаляванымі ад грамадства й адпрацуеце пэўны тэрмін на вытворчасьці пліткі для ходніку на карысьць сялянству й Імперыі»*... 2065 толькі панура паглядзеў у бок скручанай постаці хлопца… «чарговы вар'ят, якому абрыдла жыць», падумаў ён і спужаўся сваёй думкі 2065... яго нават штурханула ўсяго, быццам бы думку ён прамовіў, альбо яе маглі пачуць знутры галавы... наконт «знутры галавы» ён сапраўды быў амаль упэўнены... неўзабаве пад'ехаў ягоны аўтобус, абмінуўшы прапыркаваны паліцэйскі трактар, дзьверы адчыніліся, й людзі пачалі па чарзе напаўняць салён, яны падымаліся моўчкі, з насунутымі бровамі, ніхто ні з кім не размаўляў, ніхто нікуды не глязеў, нават не разважаў... 2065 зьнерухомеў, у яго быццам адняло адразу ўсю моц у цягліцах, пад'ём па прыступках у аўтобус раптам апынуўся па-вар'яцку вусьцішным, немагчымым... 1313-ты, сусед па працы, схапіў яго за гальштук-бабачку й прамовіў: «Гэй, 2065, ты зараз не пасьпееш у аўтобус... не дуры!»... але мужчыну штурханула, й ў суседа па працы ў руках засталася чырвона-зялёная тканіна... 1313-ты зірнуў на сваю руку, пабачыў тое, што трымаў і ажно падскочыў, спужаны будучымі пытыньнямі й судамі: «Чаму сарваў камэру зь 2065?! Чаму парушыў стацьцю!?»... усё, гамон... 2065 на адной назе крутнуўся ў супрацьлеглы бок і пабег... пабег колькі хапала моцы, як апошні раз у жыцьці... моцы ў нагах было дастаткова, каб паліцэйскія, якія да гэтага часу марнавалі час, запіхваючы бумскага хлопца ў паліцэйскі трактар «Сялянін», не пасьпелі заўважыць міні-драму на прыпынку й праміргалі 2065-ага, які зьнік з поля зроку на рагу дома нумар 2465 на скрыжаваньні вуліц Імперыялістычная з вуліцай Савецкая-рабочая...

«*Вялікі Брат, Вялікі Бацька, Надзейны Сябра, Сталы Таварыш — Міклахай Ядланы, ён даў назву й аб'яднаў былыя землі сялян-валынян з землямі смалян, ён — Галоўны Пасяўны, Кароль-Зерне, Прынц Імперыі Сялян... дай Усявышні яму здароўя на шмат год, каб ніколі не хварэў і не старэў, каб быў вечным, як і ягоны бацька Алянандр Непабядзімы, што сочыць за намі з Раю, дай яму моцы, каб радасьць нёс, ільготы павышаў, заробкі ўдваяў, пэнсіі ўзмацняў!*» — чулася ранішняя малітва з Храма Свабоды па вуліцы Камуністычная-гістарычнасьць... 2065 бег, ашалелы ад адной толькі думкі, што ён зрабіў, бег, накіраваны невядома куды... яго не цікавіў лёс ягонага суседа, якога маглі аддаць пад суд нават па стацьці №5746 «Знаходжаньне не ў тым месцы не ў той час», самай жахлівай стацьці Імперыі, бо пад яе траплялі ўсе жыхары, калі судовая справа трапляла ў нявыкрутку й каб не губляць твару Справядлівасьці — гэтая стацьця выратоўвала судзьдзяў...

у Імперыі Сялян існуюць тры дзяржаўныя ўстановы, якія цалкам займаюцца дзейнасьцю краіны: Міністэрства Дагляду — камеры, суды, паліцыя, дзейнасьць кбдрмс... Міністэрства Працы — пасяўныя, пасеў і праполка цукровых буракоў, збожжа, гадоўля жывёлы на забой... Міністэрства Гандлю — чым яно займаецца ніхто ня ведае, бо ў Імперыі няма гандлю, усё набываецца за кошт талёнаў на харчаваньне, і частка заробка даецца наборам месячнага пражываньня... 2065-ты спыніўся ў незнаёмым завулку, які выглядаў даволі самотна й меў роўную геамэтрычную структуру... раптам з гучнагаварыльніка на яго грымнуў страшэнны голас: «*Ня рухацца, 2065-ты!!! Вы парушылі стацьці №7534 «Зьняцьце пэрсанальнай камэры» й стацьцю №3463 «Знаходжаньне ў працоўны час не на працы», гэта прыказ... зьнерухомець і чакаць прыбыцьця паліцэйскага аўтатрактара!!!*»... 2065 ізноў пабег, яшчэ хутчэй чым да гэтага...

урывак зь «Кнігі»: «*Нашая краіна — Блакітныя вочы Прыроды, яе межы неабсяжныя й займаюць усю зямлю, ад краю да краю яна ласкава накрыта капалам дзеля захаваньня чыстаты паветра й добрага сасьпяваньня пасяўных... акрамя Імперыі не існуе больш месца пад Сонцам... за мяжой Імперыі — канец сьвету... бо як нам вядома зь дасьледаваньняў — Імперыя знаходзіцца на плоскай Зямлі, і за яе межамі — вусьцішная пастка — касьмічнае бязьдоньне!!!*»... з гучнагаварыльнікаў распачалася перадабедзенная лекцыя... 2065 ня спыняючыся бег... «мне трэба на скрай Імперыі!!!» — раптам выбухнула ў ягонай галаве, «калі там насамрэч нічога, толькі бязьдоньне... я гатовы буду на суд і нават на сьмерць...» мовіў ён сам сабе й бег, бег, спатнелы, зьбялелы, спужаны сваёй рашучасьці й апантанасьці... раптам ён выскачыў на Цэнтральны Пляц, як так апынулася, ён ня мог

уцяміць, бо наўмысна бег у супрацьлеглы бок… на Цэнтральным Пляцы ўзвышаўся стомятровы конны помнік Алянандру Непабядзімаму, які пагрозьліва глядзеў адначасова як наперад, так і ўніз, тапоршчачы вусы… ў архітэктара выдатна атрымалася запужаць гэтым помнікам усё насельніцтва… побач зь помнікам узвышаўся, амаль не саступаючы каню й коньніку па памерах — Цэнтральны Лядовы Дварэц, перад якім быў уманціраваны Галоўны Экран Імперыі й амаль расплюшчваў сваімі памерамі сялян унізе… якія на «пяціхвілінку радасьці» павыпаўзалі зь суседніх фабрык і заводаў… увесь натоўп спачатку кланяўся перад помнікам, а потым з экрану грымнуў гімн Імперыі й пасьля зьявілася вядучая, каб абвясьціць абедзеную гімнастыку… 2065 быў вымушаны затрымацца ў натоўпе каб прарабіць усе патрэбныя працэдуры, бо ягоны бег адразу патрапіў бы ў шматлікія камеры на пляцы й ён быў бы адразу прыкмечаны й схоплены… натоўп пачаў па адліку вядучай на экране рабіць рухі ў бакі, скокаць і прысядаць… перад 2065-ым стаялі два працаўніка зь Міністэрства й адзін другому мовіў: «*Сёньня празь дзьве гадзіны на заходняй мяжы мусіць прыехаць пусты цягнік, трэба будзе яго загрузіць пліткаю для ходніка, таму пасьля гімнастыкі трэба тэрмінова адаслаць патрэбныя дакуманты пнеўмапоштаю, каб яны пасьпелі…*» далей 2065-ты нічога больш ня чуў, бо распачалася фінальная працэдура гімнастыкі, і жанчына з Экрану, амаль пасадзіўшы голас, галасіла: «*Адзін! Два! Тры! Скокаем да гары! Чатыры! Пяць! Шэсьць!*»…

трэба было як мага хутчэй дабрацца да заходняй мяжы… «празь дзьве гадзіны»… адна гадзіна прыроўнівалася да часу, за які камбайн робіць збор збожжа ў адзін бок на Цэнтральнай Пасяўной Зямлі…

2065 бег… бег… бег… за ім некалькі разоў гналіся паліцэйскія… толькі празь дзесяць хвілін, задыханы й зьбялелы, ён скокнуў у аўтобус Міністэрства Гандлю, на якім было напісана: «У бок Заходняй мяжы»… 2065 ня ведаў, колькі трэба часу, каб даехаць да мяжы, але паводле «Кнігі» Імперыя амаль неабсяжная…

2065 ехаў сем гадзін й разважаў, што ўжо не пабачыць ніякага цягніка… да яго пяць разоў падыходзілі розныя мужчыны з адным і тым жа пытаньнем: «*Што гэта працаўнік у чырвоным працоўным касьцюме робіць у аўтобусе Міністэрства Гандлю, які рухаецца ў бок мяжы?!*» але ён адказваў, што недалёка ад мяжы зьявілася новае поле збожжа, на якое ён разьмеркаваны… яму ніхто не пярэчыў, бо гэта азначала аспрэчваць загад…

аўтобус спыніўся, дзьверы адчыніліся, 2065-ты скокнуў на ходнік і адразу адмеціў вакол сябе прастору, спрэс аточаную паліцэйскімі й аўтатрактарамі… яго адразу ўбачылі, бо ягоны чырвоны колер вопраткі рэзаў вочы, адбіваючыся ад звыклага шэрага колеру памежнікаў і працаўнікоў… «*Стаяць!!!*» — загарлапанілі амаль у адзін голас некалькі паліцэйскіх у блакітным і памежнікаў у шэрым… да 2065-ага бегам набліжаўся натоўп мужчынаў…

даведка №1: жанчыны ніколі не працавалі на пасяўных і на мяжы, і нават на спэцпрацах, мужчыны бачылі жанчын толькі для асеменяньня, увесь астатні час жанчыны жылі адным кагалам у доме рэпрадукцыі, што з правага боку коннага помніка Алянандру, на Цэнтральным Пляцы, жанчыны ў асноўным нараджалі, гатавалі наборы месячнага харчаваньня й на машынках шылі ласкуты тканінаў, робячы зь іх спэцвопратку, а таксама кожная жанчына абавязана была за сваё кароткае жыцьцё — 240 сялянскіх гадоў (20 звычайных год) зацяжарыць нашчадкам Міклахаю Яднанаму, семя якога прыносілася ім ад Міністэрства ў якасьці галоўнага падарунка на дзьвюхсот дваццаці васьмігодзьдзе… жанчыны пачыналі цяжарыць зь узросту 120 гадоў, але потым, калі ім спаўнялася 240 і яны пакідалі нашчадка імператару, яны быццам кветкі без вады, амаль за некалькі дзён вялі… хадзілі чуткі сярод бумскага насельніцтва, якое жыло пад зямлёю, але, кажуць, жыло па-іншаму й нават больш якасна й весела, што жанчыны так хутка паміралі праз неверагодна буйных нашчадкаў, якіх вымушаны былі нараджаць…

бумская незалежная даведка: па дасьледаваньнях бумскіх вучоных, семя было гэннамадыфікаванае, а па Тэорыі бумскага гісторыка Арловіца — Міклахай Ядданы — міт, каб лягчэй было ўтрымліваць у сваіх руках Імперыю тым самым палітолягам і міністрам, якія зь Маскоўальскай тэрыторыі кіруюць Імперыяй, і ўсё гэта зьдзейсьнілася яшчэ пры Аля-

нандры Непабядзімым, у якога на другім годзе кіраваньня пачалася хвароба мозгу і ён пачаў паўсюль зь сабою браць Міклушу, які на той час быў яшчэ малым падшыванцам... але Міклахай амаль кожным вечарам быў новым дзіцёнкам, бо Алянандр хваляваўся, каб сапраўднага Міклахая не застрэлілі бумскія снайперы, і такім чынам сапраўдны Міклахай быў яшчэ ў той час недзе згублены й пераблытаны зь двайнікамі... ды й увогуле, знакамітую «Кнігу» ўжо потым да канца дапісвалі маскоўальскія валадары...

дарэчы, пераход да сялянскай мэтрыкі й часаадмэру пасаваў усёй сыстэме, бо кожнаму бачылася, што яны шмат жывуць, доўга, больш за 240 гадоў — відавочная якасьць жыцьця зь вынікам доўгажыцьця...

даведка №2: сэкс карыстаецца папулярнасьцю ў Імпэрыі, мужчыны стала атрымліваюць сэксзадавальненьне ад прасталытак і спэцбрыгадаў, якія па званку альбо загадзя па замове, прыязьджаюць і прадстаўляюць пэўныя паслугі... існуюць бумскія чуткі, што гэта не сапраўдныя людзі, а спэцыяльныя істоты, клона-клоўны, ўзрошчаныя ў спэцыфічным месцы пад назваю «брмс»... але смокчуць яны даволі някепска й прафэсійна, бо іх зь цяжкімі высілкамі вырошчваюць і трэніруюць на гэтую адукацыю сярод самых старанных і імпэтных клона-відаў, гатовых на ўсё... сэкс — гэта вельмі істотна, бо толькі дзьве рэчы на сьвеце трымаюць чалавека глуханямым і няздольным на развагі й імкненьні — вар'яцкія юрлівыя жарсьці й вайна... а грамадзянская вайна, як вядома, скончылася яшчэ чатырыста год таму, калі схавалі за кратамі апошняга бумскага адваката...

даведка №3: на 2065 год у краіне налічвалася каля 13987564587 нашчадкаў Міклахая, так бы мовіць, яны ўсе былі прэтэндэнтамі на «прэстол»... усіх клікалі аднолькава — Міклахай Другі... у любым выпадку, калі ня вернецца зь Нябёсаў Алянандр Непабядзімы, Міклахай Другі будзе ўтрымоўваць у сваіх руках супакой і сьвет (капал) Імперыі, цытата зь «Кнігі»: «*захоўваючы яе (Імперыю) ў цнатлівай бялізьне й зь блякітнымі вачыма...*», а ўсіх астатніх Міклахаяў Другіх — 13987564586, колькі іх засталося безь улады, было наканавана зьнішчыць, каб не прэтэндавалі на прэстол, бо хопіць таго, што Імперыя да гэтага часу пакутуе празь бумскае насельніцтва...

2065-ты раптам закружляў вакол аўтатрактараў быццам трус, яго перасьледвалі мужчыны, гналіся за ім, з ротаў у іх ляцела сьліна й пот трапляў ім у вочы, але яны ўжо дзесяць хвілін як насіліся за звар'яцелым 2065-ым, забіваць яго нельга было, бо ён мог яшчэ пайсьці на карысьць Імперыі, тым больш зь такімі хуткімі нагамі, калі б ня парушаў законаў, быў бы «першым хлопцам-хакеістам» у сваім раёне... чырвоны камбінэзон раптам бліснуў і зьнік, ніхто ня мог яго знайсьці... памежнікі насіліся, зазіралі пад вагоны цягніка... але нідзе яго не было... 2065-ты прыціх, запоўзшы пад нейкія рэйкі і пачаў прыслухоўвацца... вось нейкі дзіўны говар, блізкі да бумскага... так, ага... вось падыйшоў нейкі іншы мужчына, у сінім камбінэзоне й забалбатаў таксама на нейкім говары, быццам блізкім да імпэрыялістычнага... напэўна, яны не самотныя ў гэтым сьвеце... файна... 2065-ты супакоіўся, сэрца спынілася бухаць, і ён пачаў плянаваць уцёк за мяжу...

неўзабаве гандаль скончыўся, вагоны былі спрэс запампаванымі пліткаю для ходніка... цягнік здрыгануўся й паступова пачаў набіраць хуткасьць, як раптам, здрыгануўшы, затармозіў... 2065-ты толькі й пасьпеў, як пабачыць дзьве пысы, якія лыбіліся яму, адну пысу ў шэрым, памежніцкім і другую — ў сінім, варожа-невядомым... потым толькі белаю маланкаю працяла па ўсім целе невядомая да гэтага боль... і ён апошні раз уздыхнуў... з гучнагаварыльнікаў жаночы голас ізноў, як па раскладзе, забалабаніў знаёмыя зь дзяцінства словы: «*Сяляне, унімацельна прысматрыцеся, якое святло сігодня в Імперыі! Эта вам не сонца, што непаніатна как свеціць пад аблокамі, эта сапраўдны цуд галактыкі — купал з светам, каторы трансліруеца не падпарадкоўваючыся надвор'ю, вы гэта ўяўляеце? І гэтую рэч прыдумаў у прамежку між управленнем цэлай страной наш Валадар, тады яшчэ не кантыненту, але краіны, наш напаўбог, напаўчалавек*!» Жыццё працягвалася... людзі ў каляровых камбінэзонах й з камэрамі на шыях працягвалі існаваць, седзячы ў каробцы... нічога не зьмянілася, толькі імёны...

10.01—15.03.2011
Ваймар

# СТЫМУЛЯТАРЫ

Першапачаткова гэты тэкст плянаваўся як штосьці кшталту панегірыка, як даніна прамоўніцкаму мастацтву, а таксама і ўзвышэньне заняпаду ў творчасьці. Але гэта было ўвосень, я тады і ўявіць ня мог, што калі-небудзь прыйду менавіта да іншай высновы, як па вучэньні Карласа Кастанэды, я раптам знайшоў пэўную кропку думкі, якая цалкам мяне захапіла, мозг, быццам у пакоі знайшоў такое месца, дзе заўсёды ўтульна...

Тэма стымулятараў, вядома, не выпадковая, я паставіў задачу выкрыць міты вакол творчасьці ня толькі бітнікаў, але й блізкіх ім па духу мастакоў. Гэтым самым я спрабую адбіць жаданьне шматлікім маладым пісьменьнікам і мастакам пошуку натхненьня ў творчасьці з дапамогай наркатычных і алькагольных сродкаў, пачынальна ад падручных — «народных», заканчваючы самымі моцнымі галюцынагэнамі, што ўжываюцца ў войсках як сакрэтная зброя. Але вядома, што такую складаную тэму цалкам раскрыць немагчыма...

Праблема, якая асьвятляецца, зусім і не зьяўляецца праблемай, а дакладней, яе ня варта разглядаць як праблему, гэта хутчэй непаразуменьне, недахоп цяперашняга пакаленьня ў «ведах і ўменьнях», калі карыстацца жудаснай тэрміналёгіяй пэдагогікі. Адчуваецца вострая неабходнасць у адукаванасьці, сьвядомасьці творцаў, бо самае істотнае, гэта як успрымаць Бероўза альбо Букоўскі — блазнамі ці геніямі...

Арцюр Рэмбо шчыра верыў у сваю тэорыю, што чалавеку для творчага шчасьця й дабрабыту неабходна стаць дзіцем Сонца. А для чыстай і вялікай паэзіі неабходна пашыраць сьвядомасць, адводзіць яе ўглыб уласнага мысленьня. Але якімі сродкамі гэтага дамагчыся, як знайсці паэзію?! І Рэмбо пачаў свае пошукі ў куфлі сакавітага віна і ў чароўным опіўме. Што ж, калі б не ягоная выключная геніяльнасьць, хто ведае, можа, ён не стварыў бы ніводнага верша, але ён здабыў са сваіх несьвядомых (ірацыянальных) досьведаў мноства карыснага. Ды так і не апраўдаў перад сабою тых намаганьняў, на якія йшоў.

Ён пазнаў праўду жыцьця, праўдзівы бруд існаваньня, але не пазнаў чыстай паэзіі, якой шукаў, паэзіі, якая выходзіць каранямі ад самога паняцьця бясконцага й несьвядомага, паэзіі Логасу, Быцьця. І ў дваццаць адзін год паставіў кропку — больш ні радка, пасля чаго ён стрымаў абяцаньне і назаўжды падаўся ў цёплыя краіны, нібы зьбег ад чагосьці, магчыма ад расчараваньня, ад спробаў Вэрлена забіць яго, ад няўдалага каханьня. Ён памёр у трыццаць зь невялікім, так і не даўшы веры таму, што чалавецтва здольнае на подзьвігі, і стымулятары ў творчасьці зьяўляюцца ідэалам для мастака...

Да яго й пасьля яго можна прыгадаць шмат асобаў, якія, як і ён, былі ў пошуках такіх жа адказаў, з такімі ж пытаньнямі на вуснах, але з гэтага нічога не выйшла, збольшага хтосьці няправільна тлумачыў дэкаданс, хтосьці не разумеў бітнікаў, а хтосьці акунаўся з галавой у несьвядомае і захапляўся сюррэалізмам, нараджаючы на сьвятло нечасаныя й шурпатыя словы, радкі, якія не пратрымаліся ў памяці мастацтва й гадзіны...

Я не сьцьвярджаю некампэтэнтнасць пакаленьняў і бессэнсоўнасьць творчасьці, а толькі агучваю памылкі мінулага, якія з дакладнасцю паўтараюцца ў кожным новым пакаленьні. Скрайнасьці не нясуць ніякіх выдатных ідэй, акрамя адзінкавых выпадкаў, як Арцюр Рэмбо, Ўільям Бэроўз, Хантэр С. Томпсан, Чарльз Букоўскі. Усе гэтыя мастакі ад Бога аб'яднаныя адным — «мэтафізычнай абсурднай творчасьцю» (тэрмін Альбэра Камю ў «Бунтары»), пошукам натхненьня ў куфлях і хіміі. Прычым кожны зь іх не дайшоў да вызначанай кропкі, кожны зь іх сарваўся, сыйшоў з аднаго шляху і праклаў іншы, хтосьці ня хутка зразумеў, што ўжо рухаецца ў іншым кірунку, хтосьці прыйшоў да гэтага адразу, але факт застаецца фактам: яны стваралі свае тэксты, калі былі ў адэкватным стане, пакідаючы пры сабе толькі выяву паводзін, стыль жыцьця.

Творчасьць пад наркатычнымі альбо алькагольнымі рэчывамі толькі машынальны

запіс успрыманьня імгненнага, калі ірацыянальная частка нашай прытомнасці распаўзаецца ў розныя бакі, яе разьдзірае на шматкі ад усяго, што яна ў той момант успрымае. Таму гэта ўжо ня творчасьць, гэта кшталту неспрактыкаванага і таннага дэтэктыву, бульварнага чытва.

Жан-Поль Сартр у рамане «Словы» пісаў: «Чым бессэнсоўней існаваньне, тым вусьцішней думка пра сьмерць»... на бітнікаў гэта распаўсюджваецца як клішэ, калі яны існавалі бязмэтна, то ў жаху разгубленасьці й сьмерці стваралі шэдэўры, яны мусілі адчуць бессэнсоўнасьць.... калі ж у іх зьяўляліся мэты, то яны пускаліся ў прыгоды і несьвядомыя экспэрымэнты, яны станавіліся ўжо ня бітнікамі, а сіндромам заняпаду, тварам сваёй эпохі, прадстаўнікамі часу між Другой сусьветнай і «халоднай» войнамі, між дэпрэсіяй і тэхнакратыяй. Таму, калі яны гублялі сябе ў струмені прытомнасьці й бясконцага чаду, зацягнутага на месяцы, яны тварам да твару сутыкаліся з бессэнсоўнасьцю і мізэрнасцю сваёй сутнасьці, што надавала ім моцы да працы, гэта скіроўвала іх да творчасьці, да чыстай сьвядомасьці, да перанясеньня на паперу таго, што прыйшло ў галаву, але часьцей таго, што склалася ў выніку досьведу філязофіі, у выніку цяжкіх патугаў разумовага працэсу...

Бітнікі — страчанае пакаленьне, пабітае пакаленьне, праклятае пакаленьне... Пакаленьне, якое зьнішчыла сябе знутры, якое прагніло наскрозь, якое апынулася ў тупіку і заняпадзе з-за сталага пошуку несьвядомага! А што такое — «несьвядомае»? Ніхто зь іх ня ведаў, але кожны бітнік быў упэўнены, што ўсё робіць правільна, што ён рухаецца ў патрэбным кірунку. Іх калектыўны бог «джанкі» прапаноўваў праўдзівасьць паводзін, абнадзейваў іх самымі казачнымі ідэямі. У іх было галоўнае — мара... Але бітнікі ніколі ня былі пэсымістамі... так, многія зь іх скончылі жыцьцё сумна, ня так, як ім хацелася, многія проста згнілі духоўна й фізычна, здурэлі ад наркотыкаў і сьпіртнога. Зараз нам лёгка з месцаў, дзе мы сядзім, ляжым, снедаем, займаемся сэксам, наўпрост жывём, сьцвярджаць, што яны памыляліся, што яны зусім заблыталіся й згубіліся ў пошуках.

Экспэрымэнты Бэроўза зь яхе, пяётлем, мэскаліта й ня толькі з прыроднымі, але й з сынтэтычнымі наркотыкамі для яго самога былі ключом ад дзьвярэй, за якімі хаваецца таямніца ўсяго ягонага жыцьця, мастацтва й літаратуры! Ён ведаў, што за дзьвярыма знаходзіцца ісьціна, але як да яе дабрацца, для яго было невядомым. Жыцьця не хапіла, каб даведацца, усе распачатыя спробы апынуліся пустымі, а пасьля бітнікі наогул сталі па-за законам: тых, хто ўжываў ЛСД, прызналі наркаманамі...

Для Гінзбэрга і Керуака бэнзэдрын і рэлігія былі таксама ключом, але ад іншых дзвярэй...

Вакол бітнікаў панавала чароўнае адчуваньне таго, што ўсё ідзе правільна і яны рухаюцца ў правільным кірунку. Для іх час быў сымбалічным, а наркотыкі зьяўляліся каталізатарам да ірацыянальнай творчасьці й ведаў. Мы ўявіць ня можам літаратуру постмадэрнізму без новаўвядзення Бэроўза — мэтаду нарэзкі тэкстаў і нелінейнага пісьма! Але хто зь іх мог ведаць, што яны адной нагой ужо былі на сьцежцы, якая вяла не да сакрэту бясконцага несьвядомага, а да бясконцай загубленасьці. Бэроўз у кнізе «Джанкі» і «Гомасэксуаліст» кажа, што ён чуў пра нейкую памылку ў сваім жыцьці, што ён шукае ня там, але ён ведаў, што ў гэтым і хаваецца выйсьце, знаходзяцца галоўныя адказы на пытаньні, менавіта празь няправільнасьць зьяўляецца адчуваньне, што ўсё робіцца так, як мае быць.

Няхай усе лічаць, што яны памыляліся, але яны здолелі стварыць свой добры сьвет надзей і пошукаў Вялікай Зьмены Сусьвету... Бэроўз раман «Джанкі» напісаў, як і ў XIX стагоддзі Томас Дэ Куінсі «Споведзь ангельца, які курыў опіўм», дзеля навучаньня й прыкладу наступным пакаленьням, такім жа страчаным... гэта ператварылася ў Эвангельле для пэўнай субкультуры...

Бітнікі стварылі й падрыхтавалі вялізную сцэну для выхаду пасьля іх наступнага пакаленьня, яны перадалі ім свой досьвед, свае пачуцьці й надзеі. І гэтае пакаленьне — Кен Кізі, Кэсадзі, Том Вулф і многія-многія іншыя...

Але калі бітнікі шукалі адказы ў джанке ды пяётле, то для наступнага пакаленьня наступіла кіслотна-сынтэтычная эпоха. Эпоха хіпі, многія ўявілі такіх валасатых дзетак, якія супраць войнаў або яшчэ чагосьці, але гэта былі людзі дзеяньня і экспэрымэнту, высокага палёту й высокіх мараў. Яны прыраўноўваюцца да бітнікаў, але я вылучаю іх як хіпі, таму што гэта ўжо зусім новае пакаленьне, прадстаўнікі якога ў вялікай колькасьці загінулі ад ЛСД. Яны ўпершыню пра сябе заявілі ў Сан-Францыска, на радзіме бітнікаў, і Лёс-Анжэлесе. Як пісаў Том Вулф у рамане «Электрапрахаладжальны кіслотны тэст»: «Так, вельмі незвычайнае адчуваньне ўзнікае, калі сядзіш у асяродзьдзі сьветавых фарбаў на жаласнай Харыет-стрыт, якая пузырыцца нарывамі, і раптам усьведамляеш, што, седзячы ў гэтым непраўдападобным хлебазаводзе-складзе-гаражы, знаходзісься ў асяродзьдзі суполкі, якая вызнае маніхейства, веравучэньне Цон-Іша-па... у атачэньні містычнага братэрства... Толькі знаходзяцца браты ў няшчаснай Амэрыцы шасьцідзясятых, заваленай поліэтыленам фірмы «Форміка», <...> без адзінага пальмавага ліста, без адзінага кавалачка хлебнага дрэва, бяз манны нябеснай, толькі ловячы флюіды, якія выходзяць з магнітафона «Ампэкс» <...> паглынаючы прыгатаваныя з матэматычнай дакладнасьцю ў лябараторыях наркотыкі ЛСД-25, Іт-290, ДМТ. А зусім не напой «сома»»... потым ён дадае: «Добрапрыстойныя людзі звалі іх бітнікамі. Магчыма, Цудоўныя людзі і падзялялі ўзрушанасць, якая валодала ў канцы пяцідзясятых гадоў біт-пакаленьнем, але ня варта забываць, што ў іх спэцыфічным багемным сацыяльным асяродзьдзі зьявіўся новы істотны лейтматыў, а менавіта — псыхадэлічныя наркотыкі. <...> У іх не было ніякай уласнай філязофіі — ім дасталіся толькі колькі будызму ад бітнікаў ды тэорыя Хакслі пра адкрыцьцё дзьвярэй розуму, ніякай адмысловай выявы жыцьця, за выключэньнем усё той жа «Бязногасьці»...

Бясьспрэчны факт — Кен Кізі галоўнага героя рамана «Палёт над гняздом зязюлі» убачыў у галюцынацыі, сумесі ЛСД й індзейскага пяётля — ядзернай сумесі, якая ледзь не накіравала самога аўтара ў псыхлякарню. Але старонку за старонкай Кізі старанна пісаў, толькі калі быў у цьвярозым розуме, ён нават ахвяраваў сямейным дабрабытам і дзеля рамана на паўгода ўладкаваўся прыбіральнікам у псыхлякарню. Гэта быў подзьвіг зь яго боку. Але фактам застаецца і тое, што пасьля выхаду рамана Кізі сабраў каманду, якую назваў Гарэзамі і, стаўшы для іх Правадыром, выправіўся ў паездку па дарогах ЗША, спыняючыся ва ўрадлівых месцах і прымаючы тонамі ЛСД. Кізі быў блізкім сябрам Цімаці Ліры, ён добра ведаў байкераў Анёлаў Пекла, якія трымалі ў жаху ўсю Амэрыку. Пра гэтых байкераў потым здымалі фільмы й Хантэр Томпсан прысьвячаў ім рубрыкі ў «Ролінг Стоўн» і кнігу... Але пасьля Гарэз Кізі як пісьменьнік амаль не стварыў нічога новага, што было б варта ўвагі, усе сілы пайшлі на незьлічоныя экспэрымэнты з наркотыкамі і жыцьцём. І толькі калі ён стаў старым, напісаў пра свае падарожжы, але гэта выглядала ўжо няўпэўнена й па-дурному, як хаўтуры па Гарэзах. Хоць Том Вулф, агульны сябра Гарэз, журналіст і пісьменьнік, наадварот, з гэтых экспэрымэнтаў вылучыў шмат карыснага й напісаў колькі раманаў, але гэта ўжо іншая гісторыя. Па сутнасці, вынік напрошваецца пэсымістычны для тых, хто лічыць сябе творчымі людзьмі, якія вызнаюць бітнікаўскую выяву жыцьця — на адных стымулятарах развіцця не дасягнеш... у кожнага чалавека закладзены пэўны патэнцыял, які трэба ўзрошчваць, дрэсіраваць яго, адукоўваць, карыстаца ім... і час ад часу даваць яму выплёсквацца калі на паперу, калі ў прастор пад узьдзеяньнем алькаголю... Кізі сваім прыкладам даказаў, што бяз працы ніякія наркотыкі не дапамогуць. Але Гарэзам належаць іншыя адкрыцьці: яны прыдумалі страбаскоп для начных клюбаў і зьнялі тысячы кілямэтраў кінастужкі а-ля канцэптуальнасць.

Гарэзы экспэрымэнтавалі з творчасьцю ў ірацыянальным ключы. Але на жаль, адбітак у гісторыі гэта не пакінула, кілямэтры знятай у наркатычным трызненьні стужкі былі незразумелыя нават ім самім, тым, хто пасьля гэтага кіслотна-жоўтага-школьна-аўтобуснага тура застаўся пры сваім розуме. Іх галюцынагенныя й п'яныя вершы не ўспрымаліся на цьвярозую галаву й гучалі як трэш... але Керуак здолеў пазьней напісаць раман «У дарозе» ды колькі энтузіястаў, такіх, як Том Вулф, атрымалі буйное прызнаньне ў багемнай кампаніі мастакоў-пісьменнікаў. Трэба адзначыць, што прызнавалася за творцаў

збольшага толькі асноўная кампанія бітнікаў і гарэз з хіпі, але большасьць мы ня ведаем, бо яны хутка загінулі, сканалі, звар'яцелі... Акрамя шызафрэніі й гістэрыі такі від творчасці нічым ня скончыўся, усе былі вымушаныя брацца за асадкі, сядаць за друкаркі і шліфаваць радкі, шмальцуючы на языку словазлучэньні ў розным парадку, пакуль скрозь пот не зьяўляўся цуд прозы альбо верша.

Рамэн Гары ў рамане «Бывай, Гары Купер!» піша: «Як я разумею маладых амерыканцаў вашага ўзросту, якія ратуюцца ад матэрыялізму сваёй краіны! Вы страчанае пакаленьне. Буг Моран гаварыў: «Кожнае пакаленьне — страчанае пакаленьне. Менавіта так яно сябе распазнае, пакаленьне гэтае. Калі ж адчуваеш сябе яшчэ больш страчаным, вось гэта ўжо дрэнна. А пакаленьні, якія не адчуваюць страчанасьці, яны поўнае лайно. Мы, дзеці мае, цалкам страчаныя! Гэта даказвае, што ў нас унутры ёсьць нешта»... творчыя людзі заўсёды ішлі на дзёрзкія экспэрымэнты са стымулятарамі, але ўсё роўна заставаліся сабою, заставаліся філёзафамі й пісьменьнікамі, якія выразна адрознівалі жыцьцё грамадскае ад жыцьця творчага, як пісаў Сяргей Даўлатаў у аповесьці «Запаведнік»: «Борка цьвярозы й Борка п'яны настолькі розныя людзі, што нават незнаёмыя паміж сабою...»

Творчасць залежыць ад стану розуму, калі б «стымулятары» дапамагалі ў мастацтве, то кожны другі алькаголік і наркаман прэтэндаваў бы на прызнаньне ў творчасьці. Але стымулятары часта неабходныя больш, чым паветра, бо дапамагаюць пашыраць досьвед і даводзяць розум да пэўнага «мастацкага» стану. Яны часта апынаюцца ключамі, калі не ад дзьвярэй, якія вядуць да адказаў на пытаньні, то хаця б да першага замка з тысячаў, што вісяць на гэтых дзьвярах, а гэта ўжо штосьці, гэта ўжо каталізатар, які надае моцы ня кінуць усё й не паслаць да чорта, але працаваць, нястомна, няспынна, плённа, зь вялікім імпэтам...

*2010*
*Менск*

# МАРУЦЬЦІ І ЯГОНЫЯ СЯБРЫ

Пакуль я застаюся ў нерухомасьці, думкі плывуць самі, роўнай плыньню. Час губляецца ў гадзінах, блытаецца ў прылівах ды адлівах. Калі б нават вельмі захацелася, усё адно ніколі не атрымалася б адключыць цыкад. Роўна як адключыць хвалі. Тым часам варта мне хіба крыху пасядзець нерухома, актыўнасьць конікаў на стале значна павялічваецца. Навакольле настойліва не дае чалавеку сябе руйнаваць. Вечар цягнецца ў далячынь вечароў, ды месяц хаваецца ў нечаканых аблоках, быццам ня хоча асьвятляць пляж. Толькі электрычнасьць. Кволае асьвятленьне рэстарацыяк, за сталамі якіх гутаркі перамяжоўваюцца гукамі гітары ды бубна. Але гэта ў цэнтры. Тут, на ускраіне, відаць, свой час. Нічога агульнага з гадзіньнікамі ён ня мае, цягнецца ад адной хвалі да другой. Шклянка гарбаты на клеенцы зьмякчае фарбы.

Маруцьці сядзіць, позірк ягоны адсутны. Задумаўся, невядома пра што, можа ён цяпер у вёсцы, ці ў суседзяў, ці ў далёкім мінулым. Ён слухае прыбой ды маўчыць, неўзабаве падхопіцца ды абвядзе позіркам тэрасу. Тэраса амаль пустая, толькі ён не засмучаецца з гэтай нагоды. У яго ёсьць бізнэс і днямі зьявіўся новы тэлефон. Пакуль ягоная постаць нерухомая, рысы твару ледзьве бачныя. Зусім слабая электрычная лямпачка ля покуці за ягонай сьпінай надае абрысам Маруцьці пэўную трагічнасьць. Калі ня ведаць загадзя, то можна пазнаць у ім пэрсанажа кінастужкі.

Праз імгненьне Маруцьці зноў трапляе на тэрасу ды аўтаматычна ўсьміхаецца. Ён усьміхаецца мне ды хітае галавой, я ветліва ўсьміхаюся ў адказ, нечакана перахапіўшы ягоны позірк. Пасьля Маруцьці глядзіць на старога, але той ужо згубіўся ў сваіх далячынях, да чаго апошнім часам мае схільнасьць. Маруцьці супакойваецца, усё ў парадку, пачынае корпацца ў паперах ды рахунках, справы ідуць добра, пакуль іх робіш ды не сумуеш. Пасьля, расклаўшы ўсе тэчкі ды нататнікі па сваіх месцах, ён падпірае галаву рукой ды зноў скіроўвае свой востры позірк некуды ў цемру, за пляж, на якім ў прадчуваньні прыліву блытаюцца ў сьцежках насьцярожаныя крабы.

Тым часам стары за апошнім столікам зьдзіўлена ажывае ды, інтэлігентна крэхнуўшы, спрабуе лакалізаваць сябе. Часам ён бывае вельмі ахвочы да размовы, але, здараецца, папросту выпадае на гадзіны. Цяпер ён, відаць, крыху стомлены — дзень быў гарачы — можа возьме яшчэ гарбаты ды пойдзе спаць. Давялося мець зь ім гутарку днямі. Гэты стары англелец, які, відаць, ужо шмат перaтрэшыў у сваім мінулым, быў чалавекам своеасаблівым. Ягонае цела, нямоглае ды хілае, перасоўвалася ў прасторы рэзкімі рухамі. Даўгія сівыя валасы, крыху брудныя, краналі плечы, падкрэсьлівалі да жаху няроўную бараду, што з аднаго боку была значна карацейшая, чым з другога. Ён сказаў, што жыў у фургоне, у UK, і што цяпер іх government хоча спыніць гэтую парнаграфію непрытульнасьці ды настойліва просіць з усім гэтым завязаць. Стары казаў ледзьве зразумела, глытаў словы ды часам змаўкаў, так і ня здолеўшы скончыць думку. Здаралася, калі быў у добрым настроі, нешта сабе напяваў, ціхенька, але расчулена. Ён яшчэ тады сьмяяўся. Сядзеў за сталом, піў гарбату і тыцкаў пальцам у нацягнутую рэпрадукцыю пляжу ў тым месцы, дзе на пяску танчыў малады гішпанец. Той выконваў сольную праграму для невядомых істотаў, ды па ўсім выглядзе хлопца можна было здагадацца, што для вельмі значных ды любімых. Гэта было да абеду, раніцай, калі сьпёка яшчэ не разагнала ўсіх па норах. Хлопец танчыў на пляжы сярод кароваў, сабакаў, гандляроў бусамі. Яго даўгія нечасаныя хайры разьляталіся ва ўсе бакі. Часам ён спрабаваў ускочыць на рукі, але доўга так пратрымацца ня мог, валіўся на зямлю.

Стары глядзеў на ўсё гэта ды сьмяяўся, казаў, што гэты малады чалавек напэўна зьеў-зьеў чаго. Мужчына паўтараў словы ды рабіў адпаведныя жэсты, падносіў пальцы да зарослага сівізной роту. Ён казаў гэта мне і Маруцьці, што стаяў паблізу, той таксама пасьмейваўся, праўда не без хваляваньня. Чалавек жа зь UK усё абарочваўся на маладога гішпанца, яму ўсё гэта падавалася толькі нечым яскравым ды сьвяточным, накшталт фэстывалю ў асобным целе. Стары казаў: «Што ж гэта ён такое зьеў, каб і мне зьесьці? Хачу таксама так скакаць! Вось бы, га?!» Я так і ня ўпэўніўся, ці сапраўды Маруцьці слушна зразумеў ягоныя словы. Той тыцкаў пальцам у небараку ды круціў пальцам ля скроні. Яму гэта падавалася нечым празьмерна ўжо дзіўным, на мяжы маразму.

Справа ў тым, што за некалькі гадзінаў да гэтага я прачнуўся ад пасьлясьняданкавага сну,

абуджаны гукамі бубна недзе на тэрасе. Нехта намагаўся выстукваць рытм. Чуліся жарты ды добразычлівая, крыху палкая гутарка. Зацікаўлены, я вырашыў выйсьці ды папрасіць гарбаты. Я не пасьпеў зрабіць яшчэ нат і першага глытка, а гэты хіпі ўжо настойліва пхаў мне ў рукі свой сувэнірны барабан ды нешта ўвесь час спрабаваў патлумачыць. Я, зрэшты, крыху сумяўся ад нечакана напружанай бамбардзіроўкі не асабліва здровага ды й папросту соннага мозгу, ды ўзяў прымітыўны рытм, на які толькі й быў здатны. Вочы хлопца павялічыліся. Ён заціраў з выглядам садху, што ня варта баяцца быць дзіўным, нічога страшнага, маўляў, у гэтым няма. У рэшце рэшт, яго, відаць, не задавальняла мая ненастойлівая маўклівая згода, ён паспрабаваў патлумачыць гэта сваё нешта Маруцьці. Той, натуральна, не зразумеў ані слова і неяк дзіўна пачаў пазіраць на хлопца. Сапраўды, хіпака ірвала. Між тым усе ягоныя варыянты перайшлі ў нейкі танец ды сьпевы. Ён выціскаў колькі мог з майго прымітыўнага падстукваньня, пасьля ўзяў яшчэ тронак, якім Маруцьці карыстаўся дзеля таго, каб выганяць жабракоў ды жывёлаў, што часам ламіліся на тэрасу. Хлопец скакаў зь ім ды, відаць, камунікаваў з навакольлем на стадыі вострага паўраспаду Атмана ў Брахмане, выкліканага нізкай талеранцыяй арганізму да ўсялякага штучнага хіпоўскага катарсісу ў пэўнай рэчыўнай форме.

Маруцьці глядзеў на ягоныя танцы, нібы зьнямелы, мне таксама было неяк няёмка. Хлопец яшчэ нешта спрабаваў гнаць, калі я, дапіўшы вялізнымі глыткамі зьмесьціва шклянкі, ажыцьцявіў усё ж такі тактоўнае адступленьне назад у апартамэнт.

На жаль, так і не атрымалася адрэагаваць на падобныя праявы чалавечага духу ніяк інакш, чым пазьбегнуць залішніх кантактаў. Думалася, што хлопец атрымаў яшчэ адзін моцны ўдар па галаве, які хіба аднойчы здараецца з кожным. У любым выпадку вядомыя і карані, і праявы, і наступствы гэтай хваробы — пошуку шляху, якім гэты маладзён добраахвотна, пад уплывам шкодных тэндэнцыяў у субкультурах празьмерна разьвітых рэгіёнаў ды іх ускраін па ўсёй планеце... Я думаў, што наўрад ці цяпер здольны на нешта падобнае, ды, як той жа Маруцьці, круціў сам сабе ля скроні, бо сапраўды, гэта ж здурнець можна.

Невядома чаму, але пэўнае дыстанцыянаваньне на нейкі час адарвала мяне ад гэтага хлопца. Можа таму, на наступную раніцу я быў не настолькі, як гаспадар рэстару, зьдзіўлены прыгодамі гішпанца. Маруцьці разгойдваўся на арэлях, што павесіў на галінах вялізнага мангавага дрэва, ды назіраў карціну. На беражку адводнай канавы сядзеў учорашні танцор-прамоўца. Ён намагаўся нешта вылавіць са струменю, што поўніўся адкідамі чалавечай актыўнасьці, відаць, нешта важнае. Можа там хавалася ягоная ўпэўненасьць у гэтым сьвеце. Хлопец пільна ўзіраўся ў ваду ды там чытаў нешта, ці мо праглядаў самаагітацыйныя кінастужкі. Маруцьці ня бачыў гэтага, але нават калі я памыляюся, то ад каментароў ён устрымаўся. Пасьля малады гішпанец самааддана пляскаўся ў хвалях. Як быў у вопратцы і гэтых сваіх непрадказальных зрокавых інтанацыях. Я якраз пачаў тады ўзгадваць нешта з таго, што так хочацца атрымаць хаця б яшчэ аднойчы. Быццам той стары джэнтльмэн з грамадзянствам UK, толькі сына няма. У таго яшчэ сын быў. Але збольшага гэта, канешне, выключная лухта. Нішто ня можа зьмяніць наяўнага моманту. Калі нешта лезе ў галаву, гэта значыць, што рана ці позна яе пакіне, як зрэшты і ўсё астатняе. Ніякай пытальнай інтанацыі можна й не надаваць увагі, праўда, нічога не паробіш, калі чалавек па сваёй сутнасьці да яе схільны. Нешта сапраўды зьмянілася б ў сьвеце, калі б скончыліся зацікаўленасьці ды міфалёгіі, праўда, гэта падалося б нечым доўгачаканым ды збаўляльным, разасланым па ўсіх паштовых скрынях, ці хаця б праз адну.

Маруцьці не кранаюць гэтыя пытаньні, ці ня так? Ён узіраецца ў мора, у дробныя зьнічкі чоўнаў ды паселішчаў на тым баку заліва. Ягоны бізнэс працуе, усё выдатна. Маруцьці азіраецца на мяне, усьміхаецца. Ён кажа «ок» ды хітае галавою, падкручвае вус. Яму зусім не абавязкова здагадвацца пра тое, што брудны хіпі madman ішоў увечары па пляжы чыста апрануты ды шчасьлівы, сьціскаў у руцэ флейту, на якой ледзьве граў. І яшчэ пасьля, калі ён зьявіўся на станцыі, у размове з адным пацыкам, што гнаў на Кералу зь гітарай ды некалькімі акордамі, ня меў пляну, акрамя як заехаць да сяброў на каляды ў Віджаянагар, сказаў сваё: «Я еду ў Варанасі...» Маруцьці не надаў бы гэтаму факту аніякага значэньня. Ён сямейны чалавек, муж, бацька, прадпрымальнік ды селянін. «Усе гэтыя рабяты сапраўды нейкія дзіўныя», — але ня больш. Я, відаць, таксама так хачу. Зь іншага боку і ён, і я, мы сутыкнуліся з жыцьцём ды выдатна ўсьведамляем, што нічога дзіўнага зь ім асабліва не паробіш. Па вялікім рахунку, Маруцьці выдатна разумее гэта нават на генэтычным узроўні, а я хутчэй за ўсё папросту аматар разводзіцца на гоніва.

# ПОЛИЦЕЙСКИЙ ОРГАЗМ

Шустрое утро выдалось в этот светлый весенний денечек. С самого рассвета он нервно бегал по просторной трехкомнатной квартире, глядя то на часы, то на свое взъерошенное отражение в зеркале. Он наспех поставил железный чайник на газовую плиту и закрыл глаза, сморщившись. Потом он начал вожделенно облизывать верхнюю губу языком, посапывая носом.

Резко раздался телефонный звонок. Он резко вскочил, опрокинув табуретку и правой рукой задев висящий на стене натюрморт. Все это с грохотом свалилось на пол. Раздалась серия слов не вполне понятного толка. А телефон все продолжал звенеть и звенеть, и без того подливая масла в огонь...

— Да! — крикнул он в эбонитовую трубку.

— Сержант Бабахов? — раздался командирский голос.

— Так точно! — ответил Саша.

— Через двадцать минут на пункт сбора! — и раздались короткие гудки...

— Есть!!! — крикнул он в трубку и со всей дури запустил телефон в бетонную стенку, выкрашенную в тускло-зеленый цвет. Черные блестящие осколки рассыпались по полу, словно крупинки бисера.

Саша побежал в соседнюю комнату, к шкафу. Резким движением открыл дверь и тут же начал раскидывать во все стороны рубашки и джинсы. На самом дне в шкафу лежала аккуратно сложенная черная форма. Она красиво блестела и переливалась в лучах утреннего солнца.

— Весна... пора любви! — сказал Саша, натягивая штаны. — Только бы все было хорошо!

Он надел черную гимнастерку и куртку, заправил штаны в берцы и, громко хлопнув дверью, вышел в подъезд. Там мыла серую площадку седая бабушка в больших круглых очках.

— Здрасьте, тетя Дуся! — бодро сказал Саша и спортивным шагом стал спускаться на первый этаж, легко семеня по мрачным бетонным ступенькам. Бабушка в ответ лишь кивнула головой и принялась дальше водить старой тряпкой по лестничной площадке.

Выйдя на улицу, Саша первым делом глубоко вдохнул свежий весенний воздух. Он издавал ароматы талой воды и выхлопных газов.

Саша сделал первые шаги по мокрому, совсем недавно расконсервированному от сурового зимнего льда асфальту. Навстречу ему шла соседская девочка с маленькой глупой собачкой, тявкающей на все подряд.

— Здрасьте, дядь Саш! — звонко сказала первоклашка. Парень кивнул в ответ головой, а собака слегка зарычала, но через секунду опять начала что-то вынюхивать в мокрой земле.

А тем временем Саша двигался, набирая обороты. Его ждало сегодня великое дело.

Как раз подъехал нужный автобус к остановке, и, слегка пробежавшись, Саша вскочил в последнюю дверь привычного средства передвижения. Металлические двери резко захлопнулись, издав приглушенный скрип, и, дав газу, транспорт двинулся с места. Саша слегка пошатнулся, но вовремя схватился за поручень. Он начал рассматривать людей, заполонивших маленькую площадку движущейся металлической коробки.

Сзади сидели пенсионеры, укутанные в столетние тулупы и державшие в руках матерчатые сумки, набитые доверху продуктами советской действительности в виде молока, хлеба и колбасы. Чуть ближе стояли девочки и о чем-то громко говорили... Еще ближе — молодые люди, и тоже со своими беседами. Ехать нужно было около десяти минут, и поэтому Саша решил послушать людей, их мнения о делах простых и глобальных.

«Работать нужно там, где тебе нравится, от работы нужно получать удовольствие...» — говорили парни между собой и были совершенно правы. Саша на миг задумался о том, любит ли он свою работу, и тут же дал ответ: конечно же, да! Ничего на свете лучшего для него просто не существовало, и поэтому он был абсолютно счастлив по жизни.

«Боже мой, как ты одета! Это тебе школа, а не дискотека!!!» — с хихиканьем рассказывала девочка своей подружке о прошедшем школьном дне и конфликтах с учителями. Девочки громко засмеялись и, дав характеристики своим учителям, вышли на следующей остановке. Саша продолжал на них смотреть из окон автобуса. Одна из девочек это заметила и в ответ на его улыбку показала средний палец. Саша широко улыбнулся.

Еще несколько остановок, шумных городских улиц, строгих трехцветных светофоров, и Саша был на нужном месте. Он вышел из автобуса и зашел в невзрачное кирпичное здание преклонного возраста.

Там, в широком зале с запотевшими стеклами, сидели такие же молодые люди, как и он. Атлетического телосложения, с грубыми ладонями, выбритыми головами и волчьими глазами. С ртами, выдающими нецензурную брань и неприятный запах. Саша сел на свободную лавочку. Он пришел как раз вовремя. Инструктаж вот-вот должен был начаться. Так оно и произошло.

В другом конце зала, там, где располагалась доска для «писанины», а на стенке висели портреты каких-то незнакомых людей, появился седоватый дядя с круглым животом и слегка кривым грубым носом.

— Приветствую вас, бойцы! — сказал, а точнее, промычал он гнусавым голосом. — Сегодня у нас очень важный приказ: следует пресечь антигосударственный митинг, который будет проходить на одной из площадей столицы...

Саша не стал дальше дослушивать. Он был настолько рад взяться вновь за любимую работу, что на несколько минут погрузился в мечты о предстоящем задании...

— На экипировку, бойцы! — услышал он последнюю фразу тучного офицера внутренних войск в поношенном берете.

Он поднялся вместе со всеми и побрел со скоростью толпы на экипировочный пункт. Там его ждал жилет из углеводородной нити с несмываемой надписью «ОМОН» на спине, номерная телескопическая дубинка — «гуманизатор» — и, конечно же, шлем образца космических путешественников из золотого периода американской кинофантастики.

За несколько минут Саша экипировался и опустил на свои бегающие тревожные глаза тонированное забрало шлема.

Они все выстроились в очередь, словно получать хлеб по карточкам где-нибудь в умирающей провинции... Постепенно они наполняли черные ревущие машины, рассекающие громом моторов привычное щебетание легковушек... поехали... Саша сидел в машине, держа в руках резиновую дубинку и слегка постукивая ей по коленной защите. За стеклом шлема не было видно его глаз и бешеной улыбки человека, заставшего второе пришествие.

Они вышли в одном из дворов. Саша ступил в своем новом облике на твердую землю, оглядел пустые гниющие деревянные беседки, покосившиеся двери подъездов и исписанные ересью стены. Затем они встали в один ряд и строем пошли к тому самому месту, где было очень много «общественно-полезной работы». Этим местом оказалась площадь с небольшим скоплением людей, в основном молодежи с мегафонами. Эта толпа не сразу заметила, что их окружили солдаты в черном... так себя, возможно, чувствовали немцы, взятые в кольцо на холодных руинах Сталинграда. Только у людей на площадях был вполне мирный вид, и цели воевать у них не было. Вероятно, они просто хотели лучшей жизни. А может, и еще чего-то. Саша крепко сжал в руках дубинку, встав за спиной товарища со щитом. И тут вся милицейская команда двинулась на людей, отбивая ритм

дубинками по щитам. Шаг за шагом, первые визги и крики... Первая кровь. Саша резко поднял руки и бегом ринулся в толпу молодежи, прикрываемый щитами. Он махал дубинкой налево и направо. Он бил по лицам, по спинам, животам, рукам и ногам. Ему нравилось, когда рука чувствовала, как в нее переходит энергия от удара.

Чуть позже, в атмосфере всеобщего хаоса, Саша выбрал свою последнюю жертву. Возбужденный, и в состоянии эйфории, он легкими шагами помчался за девушкой, бегущей прочь в глубину дворов в образовавшуюся брешь оцепления.

Он нагнал девушку и со всего размаха ударил ее по ноге. Нога девушки дернулась в болезненной судороге. Ее красивое бледное лицо сморщилось, а из зажмуренных глаз покатились слезы.

— Не бейте меня, — прошептала она сквозь боль и отчаяние... она обхватила руками место ушиба на ноге... но «боец» уже ничего не слышал.

Когда все ехали обратно, на лице Саши читалась удовлетворенность и радость жизни. А еще бесконечная любовь к своей работе и безразличие ко всему остальному. Саша был счастлив. Он это понимал и продолжал улыбаться...

# НІКА

Цяпер, калі ейнае лёгкае дыханьне зноў расьсеялася ў сьвеце, у гэтым воблачным небе, у гэтым халодным веснавым ветры, і на маіх каленях ляжыць цяжкі, як сылікатная цагліна, том Буніна, я часам адрываю позірк ад старонкі і гляджу на сьцяну, дзе вісіць ейны здымак, які выпадкова захаваўся.

Яна была нашмат маладзейшаю за мяне; лёс зьвёў нас выпадкова, і я не ўважаў, што ейная прыхільнасьць да мяне выкліканая маімі вартасьцямі; хутчэй я быў для яе, калі карыстацца тэрмінамі фізыялёгіі, проста раздражняльнікам, што выклікаў рэфлексы й рэакцыі, якія засталіся б нязьменнымі, быў бы на маім месцы фізык-фундамэнталіст у акадэмічнай ярмолцы, прадажны дэпутат ці любы іншы, гатовы ацаніць ейную смуглявую паўднёвую пекнату і зьмякчыць ёй цяжар існаваньня ўдалечыні ад старажытнай радзімы, у галоднай паўночнай краіне, дзе яна зь непаразуменьня нарадзілася. Калі яна хавала галаву ў мяне на грудзёх, я павольна праводзіў пальцамі па ейнай шыі і ўяўляў сабе іншую далонь на тым жа пяшчотным выгіне — танкапалую і бледную, з маленькім чэрапам на пярсьцёнку, або непрыстойна валасатую, у сініх якарах і датах, што гэтак жа павольна спаўзае ўніз, — і адчуваў, што гэтая зьмена зусім не закранула б ейнае душы. Я ніколі не называў яе поўным імем — слова «Вэраніка» для мяне было батанічным тэрмінам і выклікала ў памяці задушліва-пахкія белыя кветкі з паўднёвай клюмбы, што засталася далёка ў дзяцінстве. Я абыходзіўся апошнімі складамі, ёй было ўсё роўна; чуйнасьці да музыкі мовы ў яе не было зусім, а пра сваю цёзку-багіню, безгаловую й крылатую, яна нават ня ведала.

Мае сябры неўзьлюбілі яе адразу. Магчыма, яны здагадваліся, што велікадушнасьць, зь якой яны — хай нават на колькі хвілінаў — прымалі яе ў сваё кола, заставалася проста не заўважанай. Але вымагаць ад Нікі іншага было б гэткаю ж бязглуздасьцю, як чакаць ад пешахода, што ідзе па асфальце, пачуцьця ўдзячнасьці да рабочых, якія калісьці праклалі дарогу; людзі вакол былі для яе нечым кшталту гаваркіх шафаў, якія зь неспасьцігальных прычынаў зьяўляліся побач зь ёю і з гэткіх жа неспасьцігальных прычынаў зьнікалі. Ніка не цікавілася чужымі пачуцьцямі, але інстынктыўна ўгадвала стаўленьне да сябе — і калі да мяне прыходзілі, яна часьцей за ўсё ўставала і ішла на кухню. Вонкава мае знаёмыя не былі зь ёю грубымі, але не хавалі пагарды, калі яе не было побач; ніхто зь іх, вядома, не лічыў яе роўнаю сабе.

— Што ж твая Ніка на мяне й глядзець ня хоча? — пытаў мяне адзін зь іх з усьмешачкай.

Яму не прыходзіла да галавы, што акурат так яно і ёсьць; зь дзіўнай наіўнасцю ён лічыў, што ў глыбіні душы Нікі яму адведзеная цэлая галерэя.

— Ты зусім ня ўмееш іх дрэсіраваць, — казаў другі ў прыступе п'янай шчырасьці, — у мяне яна рахманаю была б праз тыдзень.

Я ведаў, што ён выдатна цяміць у гэтай справе, бо жонка дрэсіруе яго ўжо чацьвёрты год, але менш за ўсё ў жыцьці мне хацелася стаць чыімсьці выхавальнікам.

Ня тое каб Ніка была абыякавая да выгодаў — яна з паталягічнай заўсёднасьцю апыналася ў тым жа фатэлі, куды мне карцела сесьці, — але рэчы існавалі для яе, адно пакуль яна імі карысталася, а потым зьнікалі. Напэўна, таму ў яе не было практычна нічога свайго; я часам думаў, што акурат такі тып і спрабавалі выгадаваць камуністы старажытнасьці, не разумеючы, якім будзе вынік іхніх высілкаў. На чужыя пачуцьці яна не зважала, але не праз кепскі склад характару, а таму, што часьцяком не здагадвалася пра існаваньне гэтых пачуцьцяў. Калі яна выпадкова разьбіла старасьвецкую цукарніцу кузьняцоўскага фарфору, што стаяла на шафе, і я праз гадзіну пасьля гэтага нечакана для сябе даў ёй поўху, Ніка папросту не зразумела, за што яе выцялі, — яна выскачыла прэч і, калі я прыйшоў перапрасіць, моўчкі павярнулася да сьцяны. Для Нікі цукарніца была проста ўсечаным конусам з бліскучага матэрыялу, набітым паперкамі; для мяне — чымсьці кшталту скарбонкі, дзе захоўваліся сабраныя за ўсё жыцьцё доказы рэальнасьці быцьця: старонка з даўно ня існага нататніка з тэлефонам, на які я так і не патэлефанаваў; квіток

у «Ілюзіён» зь неадарваным кантролем; маленькая фатаграфія і колькі незапоўненых аптэчных рэцэптаў. Мне было сорамна перад Нікай, а перапрашаць было глупствам; я ня ведаў, што рабіць, і таму казаў мудрагеліста й блытана:

— Ніка, не сярдуй. Хлам мае над чалавекам дзіўную ўладу. Выкінуць якія-небудзь трэснутыя акуляры азначае прызнаць, што цэлы сьвет, убачаны праз іх, назаўжды застаўся за сьпінай, ці, наадварот, і тое ж самае, апынуўся наперадзе, у валадарстве блізкага небыцьця... Ніка, калі б ты мяне разумела... Аскепкі мінулага стаюцца падабенствам якараў, якія прывязваюць душу да ўжо няіснага, з чаго відаць, што няма й таго, што звычайна разумеюць пад душой, таму што...

Я з-пад далоні зірнуў на яе і ўбачыў, як яна пазяхае. Бог ведае, пра што яна думала, але мае словы не пранікалі ў ейную маленькую прыгожую галаву — з гэткім жа посьпехам я мог гаварыць з канапай, на якой яна сядзела.

У той вечар я быў зь Нікай асабліва пяшчотны, і усё-ткі мяне не пакідала пачуцьцё, што мае рукі, сьлізгаючы па ейным целе, для яе ня шмат чым адрозніваюцца ад гальля, якое датыкаецца да ейных бакоў у час нашых супольных шпацыраў па лесе — тады мы шчэ хадзілі на шпацыры ўдваіх.

Мы былі побач штодня, але ў мяне хапіла цьвярозасьці зразумець, што па-сапраўднаму мы ня станем блізкімі ніколі. Яна нават не здагадвалася, што ў той момант, калі яна прыхінаецца да мяне сваім па-кацінаму пругкім целам, я магу знаходзіцца ў зусім іншым месцы, поўнасьцю забыўшыся на ейную прысутнасьць. Зрэшты, яна была вельмі пахабнаю, і ейныя вымогі былі чыста фізыялягічнымі — набіць трыбух, выспацца і атрымаць неабходную для добрага страваваньня колькасьць ласкі. Яна гадзінамі драмала ля тэлевізара, амаль ня гледзячы на экран, багата ела, — дарэчы, аддавала перавагу тлустай ежы — і вельмі любіла спаць; ані разу ня памятаю яе з кнігаю. А прыроджаная зграбнасьць і маладосьць надавалі ўсім ейным праявам нейкую ілюзорную адухоўленасьць; у ейным жывёльным — калі ўдумацца — быцьці быў водбліск найвышэйшае гармоніі, натуральнае дыханьне таго, за чым безнадзейна гоніцца мастацтва, і мне пачынала здавацца, што сапраўды прыгожы й асэнсаваны менавіта ейны просты лёс, а ўсё, на чым я грунтую ўласнае жыцьцё, — проста прыдумкі, ды шчэ й чужыя. Пэўны час я марыў даведацца, што яна пра мяне думае, але дамагацца ад яе адказу было марна, а дзёньніка, які я мог бы таемна прачытаць, яна не вяла.

І раптам я прыкмеціў, што мяне насамрэч цікавіць ейны сьвет. У яе была завядзёнка доўга сядзець ля вакна, гледзячы ўніз; аднойчы я спыніўся за ейнай сьпінай, паклаў далонь ёй на патыліцу — яна ледзь уздрыганулася, але не адхіснулася — і паспрабаваў угадаць, на што яна глядзіць і чым для яе ёсьць тое, што яна бачыць.

Перад намі быў звычайны маскоўскі двор — пясочніца, у якой калупалася колькі дзяцей, турнік, на якім выбівалі дываны, каркас чума, звараны з чырвоных мэталічных трубаў, бярвеністая хатка для дзяцей, памыйніцы, вароны і мачта ліхтара. Больш за ўсё мяне прыгнятаў гэты чырвоны каркас — напэўна, таму што калісьці ў дзяцінстве, шэрым зімовым днём, мая душа храбуснула пад цяжарам вялізнага гэдээраўскага альбому, прысьвечанага даўно зьніклай культуры паляўнічых на мамантаў. Гэта была дзіўна ўстойлівая цывілізацыя, якая існавала, зусім не зьмяняючыся, колькі тысячаў гадоў дзесьці ў Сібіры — людзі жылі ў невялікіх, абцягнутых мамантавымі скурамі паўкруглых хатках, каркас якіх акурат паўтараў геамэтрыю цяперашніх чырвоных пабудоваў на дзіцячых пляцоўках, адно рабіўся не з жалезных трубаў, а са зьвязаных біўняў маманта. У альбоме жыцьцё паляўнічых — гэтае рамантычнае слова, дарэчы, зусім не пасуе да нямытых вылюдкаў, якія раз на месяц заваблівалі вялікую даверлівую жывёліну ў яміну з колам на дне — было выяўленае вельмі падрабязна, і я са зьдзіўленьнем пазнаў шмат якія побытавыя дэталі, краявіды й твары; тут я зрабіў першую ў сваім жыцьці лягічную выснову, што мастак, без усялякага сумневу, пабыў у савецкім палоне. З тае пары гэтыя чырвоныя кратаваныя паўсфэры, што ўзвышаюцца амаль у кожным двары, сталі здавацца мне рэхам культуры, якая нас нарадзіла; іншым ейным рэхам былі маленькія статкі парцалянавых мамантаў, што зь цемры тысячагодзьдзяў брыдуць у будучыню па мільёнах

савецкіх буфэтаў. Ёсьць у нас і іншыя продкі, думаў я, вось, напрыклад, трыпольцы — не ад слова «Трыполі», а ад «Трыпольле», — якія ці не чатыры тысячы год таму займаліся земляробствам і жывёлагадоўляй, а ў вольны час выразалі з каменьня маленькіх голых баб зь вельмі тоўстым азадкам, — гэтых баб, «Вэнэраў», як іх зараз называюць, засталося шмат — відаць, яны былі ў чырвоным куце кожнай хаты. Апроч гэтага, пра трыпольцаў вядома, што іхныя бярвеністыя калгасы мелі вельмі строгую пляніроўку з шырокай галоўнай вуліцай, а хаты ў мястэчках былі чыста аднолькавыя. На дзіцячай пляцоўцы, якую разглядалі мы зь Нікай, ад гэтай культуры засталася бярвеністая хатка, строга арыентаваная па баках сьвету, дзе ўжо гадзіну сядзела млявая дзяўчынка ў гумовых ботах — саму яе не было відаць, адно боўталіся пяшчотна-блакітныя халявы.

Божухна, думаў я, абдымаючы Ніку, а колькі я мог бы сказаць, да прыкладу, пра пясочніцу? А пра памыйніцу? А пра ліхтар? Але ўсё гэта будзе маім сьветам, ад якога я парадкам стаміўся і зь якога мне няма куды падзецца, таму што разумовыя пабудовы, як мухі, аблепяць выяву любой рэчы на сятчатцы маіх вачэй. А Ніка была цалкам вольнаю ад прыніжальнай неабходнасьці суадносіць полымя над сьмецьцевым бакам з маскоўскім пажарам 1737 году альбо стасаваць паўадрыжку-паўкарканьне сытай унівэрсамаўскай вароны са старажытнарымскай прыкметай, згаданай у «Юльяне Адступніку». Але што ж тады такое ейная душа?

Мая кароткачасовая цікавасьць да ейнага ўнутранага жыцьця, у якое я ня мог пранікнуць, дарма што сама Ніка напоўніцу была пад маёй уладай, тлумачылася, відаць, маім імкненьнем зьмяніцца, пазбавіцца ад думак, што заўсёды грукочуць у галаве, дзе яны пасьпелі накатаць каляіну і зь якой ўжо не выходзілі. Зрэшты, са мною ўжо даўно не адбывалася нічога новага, і я спадзяваўся, знаходзячыся побач зь Нікай, пабачыць якіясьці незнаёмыя спосабы адчуваць і жыць. Калі я прызнаўся сабе, што, гледзячы ў вакно, яна бачыць папросту тое, што там знаходзіцца, і што ейны розум зусім ня схільны да падарожжаў па мінулым і будучыні, а здавольваецца сучаснасьцю, я ўжо разумеў, што маю справу не з рэальна існаю Нікай, а з наборам уласных думак; што перада мною, як гэта заўжды было й будзе, аказваліся мае ўяўленьні, што набылі ейную форму, а сама Ніка, якая сядзіць за паўмэтра ад мяне, недасяжная, як вяршыня Спаскай вежы. І я зноў адчуў на сваіх плячах бязважкі, але невыносны цяжар адзіноты.

— Ведаеш, Ніка, — сказаў я, адыходзячы ўбок, — мне зусім напляваць, навошта ты глядзіш у вакно, і што ты там бачыш.

Яна паглядзела на мяне і зноў павярнулася да вакна — відаць, яна пасьпела прызвычаіцца да маіх выбрыкаў. Апроч таго — хаця яна ніколі не прызналася б у гэтым, — ёй было зусім напляваць на ўсё, што я кажу.

З аднае скрайнасьці я кінуўся ў іншую. Пераканаўшыся, што загадкавасць ейных зеленаватых вачэй — зьява выключна аптычная, я вырашыў, што ведаю пра яе ўсё, і мая прывязанасьць разбавілася лёгкай пагардай, якую я амаль не хаваў, уважаючы, што яна яе не прыкмеціць. Але неўзабаве я адчуў, што яе гняце замкнёнасьць нашага жыцьця, яна становіцца нэрвовай і крыўдлівай.

Была вясна, а я амаль увесь час сядзеў дома, і ёй даводзілася бавіць час побач, а за вакном ужо зелянела трава і скрозь шэрую смугу падобных да туману аблокаў, што захінулі ўсё неба, мігцела размытае, удвая большае за звычайнае, сонца. Я ня памятаю, калі яна ўпершыню пайшла гуляць безь мяне, але памятаю свае пачуцьці з гэтай нагоды — я адпусьціў яе без асаблівага хваляваньня, адкінуўшы млявую думку пра тое, што трэ было пайсьці разам.

Ня тое, каб мяне абцяжарвала ейная кампанія — проста я паступова пачаў ставіцца да яе гэтак сама, як яна з самага пачатку ставілася да мяне — як да ўслона, кактуса на падваконьні ці круглага воблака за вакном. Зазвычай, каб захаваць ілюзію ранейшага клопату, я праводзіў яе да дзьвярэй на лесьвічную клетку, мармытаў ёй усьлед штосьці неразборліва-павучальнае і ішоў назад; яна ніколі не спускалася ліфтам, а нячутнымі хуткімі крокамі зьбягала па сходах уніз — я думаю, у гэтым не было ані каліва спартовага

какецтва; яна насамрэч была такая маладая і поўная сілаў, што ёй лягчэй было тры хвіліны імчацца па прыступках, амаль іх не кранаючыся, чымся марнаваць гэткі ж час на чаканьне трунападобнай, залітай дрыготкім жоўтым сьвятлом скрыні, што сьмярдзіць мачой і славіць гурт «Depeche Mode». (Варта сказаць, Ніка была надзвычай абыякавая і да гэтага гурта, і да року ўвогуле — адзінае, што на маёй памяці выклікала ў яе цікавасьць, — гэта тое месца на «Animals», дзе скрозь аблокі знаёмага дыму вайсковай трохтонкай каціць да лініі фронту далёкі сынтэзатар і задумліва брэшуць яшчэ не прыкормленыя Барысам Грабеншчыковым электрычныя сабакі).

Мяне цікавіла, куды яна сыходзіць, хаця й не настолькі, каб я стаў за ёй віжаваць, але ў дастатковай ступені, каб прымусіць мяне выходзіць на балкон зь біноклем у руках праз колькі хвілінаў пасьля ейнага сыходу; перад самім сабой я ніколі не ўдаваў, што тое, чым я займаюся, прыстойна. Ейныя простыя маршруты ішлі па перасечанай сцежкамі алеі, паўз лаўкі, шапікі з напоямі й спіральны пад'ём у стол замоваў; потым яна паварочвала за рог высокага зялёнага шаснаццаціпавярховіка — туды, дзе за доўгай пыльнай пусткай пачынаўся лес. Далей я губляў яе і — Божа! — як жа мне было шкада, што я ня мог на колькі сэкундаў стацца ёю і пабачыць па-новаму ўсё тое, што сталася для мяне незаўважным. Ужо потым я зразумеў, што мне хацелася проста перастаць быць сабой, то бок перастаць быць; туга па новым — гэта адна з самых звычайных формаў, якія набывае ў нашай краіне суіцыдальны комплекс.

Ёсьць такая ангельская прымаўка: «У кожнага ў шафе схаваны свой шкілет». Ангельцам, якія, зрэшты, думаюць слушна, штосьці замінае зразумець канчатковую ісціну. Сама жахлівае тое, што гэты шкілет «свой» ня ў сэнсе права маёмасьці ці неабходнасьці яго хаваць, а ў сэнсе «свой уласны», і шафа тут — эўфемізм цела, зь якога гэты шкілет калі-небудзь выпадзе з тае прычыны, што шафа зьнікне. Мне ніколі не прыходзіла да галавы, што ў той шафе, якую я называў Нікай, таксама ёсць шкілет; я ані разу не ўяўляў ейнай магчымай сьмерці. Усё ў ёй было супрацьлеглым сэнсу гэтага слова; яна была згушчаным жыцьцём, як бывае згушчанае малако (аднойчы, ледзяным зімовым вечарам, яна зусім голая выйшла на пакрыты сьнегам балкон, і раптам на парэнчы апусьціўся голуб — і Ніка прысела, нібы баючыся яго спудзіць, і замерла; прайшла хвіліна; я, любуючыся ейнай смуглявай сьпінай, раптам са зьдзіўленьнем зразумеў, што яна не адчувае холаду ці проста забылася на яго). Таму ейная сьмерць не зрабіла на мяне асаблівага ўражаньня. Яна ня трапіла ў зьвязаную з пачуцьцямі частку сьвядомасьці і ня стала для мяне эмацыйным фактам; магчыма, гэта была своеасаблівая псыхічная рэакцыя на тое, што прычынай гэтаму стаўся мой учынак. Я не забіваў яе, зразумела, сваёй рукой, але гэта я штурхнуў нябачную ваганетку лёсу, якая нагнала яе праз шмат дзён; гэта я быў вінаваты ў тым, што пачаўся доўгі ланцуг падзеяў, апошняй зь якіх сталася ейная пагібель. Патрыёт са сьлінявай пашчай і зарослым поўсьцю спусьцістым ілбом — апошняе, што яна пабачыла ў жыцьці, — стаў канкрэтным увасабленьнем ейнае сьмерці, вось і ўсё.

Бессэнсоўна шукаць вінаватага; кожны прысуд сам знаходзіць прыдатнага ката, і кожны з нас — саўдзельнік безьлічы забойстваў; у сьвеце ўсё зьнітавана, і прычынна-выніковыя сувязі неаднаўляльныя. Хто ведае, ці не выракаем мы на голад дзяцей Занзібара, саступіўшы месца ў мэтро якой-небудзь злоснай бабулі? Абсяг нашага прадбачаньня і адказнасьці занадта вузкі, і ўсе прычыны ўрэшце сыходзяць у невядомасьць, да стварэньня сьвету.

Быў сакавіцкі дзень, але надвор'е трывала напраўду ленінскае; за вакном вісеў лістападаўскі чорнабушлатны туман, скрозь які ледзь прасьвечваў іржавы зігхайль пад'ёмнага крану; на блізкай будоўлі раённай аўроркай пагрукваў агрэгат для забіваньня паляў. Калі паля ўваходзіла ў зямлю і грукат цішэў, у тумане нараджаліся п'яныя галасы і мацюкі, прычым асабліва вылучаўся адзін высокі віброўны тэнар. Потым зноў штосьці пачынала пабразгваць — гэта цягнулі новую рэйку. І ўдары раздаваліся зноў.

Калі надышло зьмярканьне, стала крыху лягчэй; я сеў у фатэль насупраць Нікі, якая расьцягнулася на канапе, і стаў гартаць Гайто Газданава. У мяне была завядзёнка чытаць

уголас, і тое, што яна мяне ня слухала, ніколі мяне не турбавала. Адзінае, што я дазваляў сабе, гэта крыху вылучаць некаторыя месцы інтанацыяй: «*Яе нельга было назваць утойлівай; але працяглае знаёмства або цесная духовая блізкасьць былі неабходныя, каб даведацца, як дагэтуль праходзіла ейнае жыцьцё, што яна любіць, чаго яна ня любіць, што яе цікавіць, што ёй падаецца вартым у людзях, зь якімі яна сутыкаецца. Мне не даводзілася чуць ад яе выказваньняў, якія б яе характарызавалі, хаця я размаўляў зь ёй на самыя розныя тэмы; яна звычайна моўчкі слухала. За многа тыдняў я даведаўся пра яе трохі болей, чымся ў першыя дні. Разам з тым у яе не было ніякіх прычынаў хаваць ад мяне што-кольвек, гэта было проста наступствам ейнае прыроджанае стрыманасьці, якая не магла не здавацца мне дзіўнай. Калі я яе пытаўся пра што-небудзь, яна не хацела адказваць, і я гэтаму нязьменна зьдзіўляўся...*»

Я нязьменна зьдзіўляўся іншаму — амаль усе кнігі, амаль усе вершы былі прысьвечаныя, калі разабрацца, Ніцы — як бы яе ні звалі і якое б аблічча яна ні набывала; чым разумнейшым і танчэйшым быў мастак, тым невырашальнейшаю і містычнейшаю станавілася ейная загадка; найлепшыя сілы найлепшых душаў ішлі на штурм гэтай маўклівай зеленавокай неспасьцігальнасьці, і ўсё разьбівалася аб нябачную або проста няісную — а значыцца, напраўду неадольную — перашкоду; нават ад бліскучага Ўладзіміра Набокава, які пасьпеў у апошні момант захінуцца лірычным героем, засталіся толькі пара сумных вачэй ды фаляс даўжынёю ў фут (апошняе я тлумачыў тым, што свой знакаміты раман ён ствараў удалечыні ад Радзімы). «*И медленно, пройдя меж пьяными, всегда без спутников, одна*, — мармытаў я скрозь дрымоту, разважаючы над таямніцай гэтага маўчаньня, што нясецца празь вякі, у якім адбілася столькі непадобных сэрцаў, — *был греческий диван мохнатый да в вольной росписи стена...*». Я заснуў над кнігай, а прачнуўшыся пабачыў, што Нікі ў пакоі няма.

Я ўжо даўно заўважаў, што па начах яна кудысьці ненадоўга сыходзіць. Я думаў, што ёй патрэбны невялікі мацыён перад сном ці колькі хвілінаў зносінаў з гэткімі ж нікамі, што па вечарох зьбіраліся ў коле сьвятла перад пад'ездам, дзе заўсёды граў невядома чый магнітафон. Здаецца, у яе была сяброўка Маша — рудая й жвавая; пару разоў я бачыў іх разам. Ніякіх пярэчаньняў супраць гэтага ў мяне не было, і я нават пакідаў дзьверы адчыненымі, каб яна не будзіла мяне сваёй валтузьнёй у цёмным калідоры й бачыла, што я ў курсе ейных начных шпацыраў. Адзіным пачуцьцём, якое я адчуваў, была мая звічайная зайздрасьць з той нагоды, што я зноў губляю нейкія грані сьвету, — але мне ніколі не прыходзіла да галавы пайсьці разам зь ёю; я разумеў, да якой ступені буду недарэчны ў ейнай кампаніі. Мне наўрад ці здалася б цікавай ейная кампанія, але ўсё-ткі было крыху крыўдна, што ў яе ёсьцека сваё кола, куды мне няма доступу. Калі я прачнуўся з кнігаю на каленях і ўбачыў, што ў пакоі я адзін, мне раптам захацелася ненадоўга спусьціцца ўніз і выпаліць цыгарэту на лаўцы перад пад'ездам; я вырашыў, што калі й пабачу Ніку, дык не пакажу нашае сувязі.

Спускаючыся ў ліфце, я нават уявіў, як яна пабачыць мяне, ўздрыганецца, але, заўважыўшы маю індыфэрэнтнасьць, павернецца да Машы — чамусьці я лічыў, што яны будуць сядзець на лаўцы побач — і працягне ціхую, зразумелую толькі ім размову.

Перад домам нікога не было, і мне раптам стала незразумела, чаму я быў упэўнены, што сустрэну яе. Проста каля лаўкі стаяў спартовы «Мэрсэдэс» карычневага колеру — часам я заўважаў яго на суседніх вуліцах, часам пад сваім пад'ездам; тое, што гэта адна і тая ж машына, было зразумела па запамінальным нумары — якомусьці «ХРЯ» ці «ХАМ». З другога паверху даносілася ціхая музыка, кусты ледзь пагойдваліся ад ветру, і сьнегу навокал ужо зусім не было; хутка лета, падумаў я. Але ўсё ж было яшчэ халодна.

Калі я вярнуўся ў дом, на мяне неўхваляльна падняла вочы падобная да сухой ружы бабуля, што сядзела на варце ля дзьвярэй, — ужо быў час зачыняць пад'езд. Падымаючыся ў ліфце, я думаў пра пэнсіянэраў з былога актыву, якія нясуць у пад'езьдзе апошнюю жывую галінку зачахлай агульнанароднай вахты — па іхнай трагічнай засяроджанасьці было відаць, што далёка ў будучыню яны яе не зацягнуць, а перадаць зусім няма каму. На лесьвічнай клетцы я апошні раз зацягнуўся, адчыніў дзьверы на лесьвіцу, каб кінуць

недапалак у вядро, пачуў нейкія дзіўныя гукі на пляцоўцы пралётам ніжэй, нахіліўся над парэнчамі й пабачыў Ніку.

Чалавек з больш вытанчанай псыхікай вырашыў бы, магчыма, што яна выбрала менавіта гэтае месца — за два крокі ад уласнае кватэры, — каб атрымаць задавальненьне адмысловага кшталту, асалоду ад зьдзеку зь сямейнага агменю. Мне гэта да галавы не прыйшло — я ведаў, што для Нікі гэта было б занадта складана, але тое, што я пабачыў, выклікала ў мяне прыступ інстынктыўнай агіды. Два целы, што зьліліся і шалёна рухаліся, у дрыготкім сьвятле сапсаванай лямпы здаліся мне жывой швейнай машынай, а вішчаньні, якія было цяжка прыняць за гукі чалавечага голасу, — рыпеньнем нязмазаных шасьцярэнькаў. Ня ведаю, колькі я глядзеў на ўсё гэта, сэкунду ці колькі хвілінаў. Раптам я ўбачыў вочы Нікі, і мая рука сама падняла з памыйнага вядра іржавую накрыўку, якая праз імгненьне з грукатам ляснулася ў сьцяну і звалілася ёй на галаву.

Відаць, я вельмі іх спалохаў. Яны кінуліся ўніз, і я пасьпеў пазнаць таго, хто быў зь Нікай. Ён жыў дзесьці ў нашым доме, і я колькі разоў сустракаў яго на лесьвіцы, калі адключалі ліфт, — у яго былі невыразныя вочы, пахабныя бескаляровыя вусы і выгляд, поўны ўласнае годнасьці. Аднаго разу я бачыў, як ён, не губляючы гэтага выгляду, рыецца ў сьметніцы; я праходзіў побач, ён узьняў вочы і нейкі час уважліва глядзеў на мяне; калі я спусьціўся на колькі прыступак і ён пераканаўся, што я не складу яму канкурэнцыі, за маёй сьпінай зноў пачулася шамаценьне бульбянага лушпіньня, у якім ён нешта шукаў. Я даўно здагадваўся — Ніка падабае акурат такіх, як ён, жывёлаў у поўным сэнсе слова, і яе заўсёды будзе цягнуць да іх, да каго б яна сама ні была падобная ў месяцовым ці якім-небудзь там яшчэ сьвятле.

Зрэшты, сама па сабе яна ні да каго не падобная, падумаў я, адчыняючы дзьверы ў кватэру, бо, калі я гляджу на яе і яна здаецца мне па-свойму дасканалым творам мастацтва, справа тут ня ў ёй, а ўва мне, якому гэта здаецца. Уся прыгажосьць, якую я бачу, заключаная ў маім сэрцы, бо менавіта там знаходзіцца камэртон, зь невыказнай нотаю якога я параўноўваю ўсё астатняе. Я заўсёды ўважаю самога сябе за самога сябе, думаючы, што маю справу зь нечым вонкавым, а сьвет наўкола — усяго толькі сыстэма розных крывізною люстраў. Мы дзіўна ўладкаваныя, разважаў я, мы бачым толькі тое, што зьбіраемся пабачыць — прычым у найменшых дэталях, ажно да твараў і паставаў, — замест таго, што нам паказваюць насамрэч, як Гумбэрт, які ўважае тлусты сацыял-дэмакратычны локаць у вакне суседняга дому за калена замерлай німфэткі.

Ніка не прыйшла дадому ўначы, а з самага ранку, зачыніўшы дзьверы на ўсе замкі, я зьехаў з гораду на два тыдні. Калі я вярнуўся, мяне сустрэла ружовавалосая бабулька з вахты і, пазіраючы на трох іншых бабуляў, што паўколам сядзелі ля ейнага стала на прынесеных з кватэраў крэслах, гучна паведаміла, што колькі разоў прыходзіла Ніка, ды не магла трапіць у кватэру, а апошнія колькі дзён яе не было відаць. Бабулькі зь цікаўнасьцю глядзелі на мяне, і я хутка іх абмінуў; усё-ткі якаясь заўвага пра маё маральнае аблічча дагнала мяне каля ліфту. Я пачаў турбавацца, таму што зусім не ўяўляў, дзе яе шукаць. Але я быў упэўнены, што яна вернецца; у мяне было багата справаў, і да самага вечара я ані разу не ўзгадаў пра яе, а ўвечары зазваніў тэлефон, і бабулька з вахты, якая відавочна вырашыла ўзяць удзел у маім жыцьці, паведаміла, што яе завуць Тацьцяна Рыгораўна і што яна толькі што бачыла Ніку ўнізе.

Асфальт перад домам увачавідкі цямнеў — імжэў дробны дождж. Каля пад'езду колькі дзяўчынак з рытмічнымі крыкамі скакалі цераз гумку, нацягнутую на ўзроўні іхніх шыяў — нейкім цудам яны прымудраліся перакідваць праз яе ногі. Вецер пранёс над маёй галавой ірваны плястыкавы пакет. Нікі нідзе не было. Я павярнуў за рог і рушыў у бок лесу, шчэ ня бачнага за дамамі. Куды менавіта я іду, я дакладна ня ведаў, але быў упэўнены, што сустрэну Ніку. Калі я дайшоў да апошняга дому перад пусткай, дождж амаль скончыўся; я павярнуў за рог. Яна стаяла перад карычневым «Мэрсэдэсам» з хамскім нумарам, прыпаркаваным зь піжонскай зухаватасьцю — адно кола было на ходніку. Пярэднія дзьверы былі адчыненыя, а за шклом паліў падобны да маладога Сталіна чалавек у прыгожым паласатым пінжаку.

— Ніка! Прывітаньне, — сказаў я, спыняючыся.

Яна паглядзела на мяне, але быццам не пазнала. Я нахіліўся наперад і абапёрся далонямі ў калені. Мне часта казалі, што такія, як яна, не даруюць крыўдаў, але я не ўспрымаў гэтых словаў сур'ёзна — напэўна таму, што раней яна даравала мне ўсе крыўды. Чалавек у «Мэрседэсе» пагардліва павярнуў да мяне твар і трохі нахмурыўся.

— Ніка, даруй мне, га? — намагаючыся не зьвяртаць на яго ўвагі, прашаптаў я і працягнуў да яе рукі, з сумам адчуваючы, як жа я падобны да маладога Чарнышэўскага, які па патрэбе заскочыў у пецярбургскі пад'езд і з жэстам братэрства падняўся з кукішак насустрач дзяўчыне, што забегла з марозу; мяне крыху суцяшала, што такое параўнаньне наўрад ці прыйдзе да галавы Ніцы ці грузіну, які ўжо ашчэрыў іклы за ветравым шклом. Яна апусьціла галаву, быццам раздумваючы, і раптам па нейкай невызначальнай дробязі я зразумеў, што яна зараз пойдзе да мяне, пойдзе ад гэтага скрадзенага «Мэрсэдэса», кіроўца якога сьвідраваў ува мне дзірку сваімі падабранымі пад колер капоту вачыма, і праз колькі хвіляў я на руках пранясу яе паўз бабуляў у сваім пад'езьдзе; у думках я ўжо даваў сабе слова нікуды не адпускаць яе адну. Яна мусіла пайсьці да мяне, гэта было так жа зразумела, як тое, што церусіў дождж, але Ніка раптам адхіснулася ў бок, а ззаду пачуўся спалоханы дзіцячы крык:

— Стой! Каму кажу, стаяць!

Я азірнуўся і пабачыў вялізнага сабаку-аўчарку, што моўчкі нёсься да нас па газоне; яго гаспадар, хлапчук у кепцы з аграмадным брылём, размахваючы нашыйнікам, крычэў:

— Патрыёт! Назад! Да мяне!

Выдатна памятаю гэтую расьцягнутую сэкунду — чорнае цела, што нясецца нізка над травой, постаць з узьнятай рукой, якая нібы сабралася выцяць кагосьці бізуном, колькі мінакоў, што спыніліся і глядзяць у наш бок; памятаю і думку, якая мільганула ў мяне ў гэты момант, што нават дзеці ў амэрыканскіх кепках размаўляюць у нас на памежналягерным жаргоне. Ззаду рэзка завізгаталі тармазы і загаласіла нейкая жанчына; шукаючы і не знаходзячы вачыма Ніку, я ўжо ведаў, што адбылося. Машына — гэта была «Лада» кааперацыйнага кшталту зь яркімі налепкамі на заднім шкле — зноў набірала хуткасьць; відаць, кіроўца спалохаўся, хаця вінаваты ён ня быў. Калі я падбег, машына ўжо зьнікла за паваротам; краем вока я заўважыў сабаку, які бег назад да гаспадара. Вакол невядома адкуль узнікла колькі мінакоў, што з прагнай увагаю глядзелі на ненатуральна яркую кроў на мокрым асфальце.

— Вось сволач, — сказаў за маёй сьпінай голас з грузінскім акцэнтам. — Далей паехаў.

— Убіваць такіх нада, — паведаміў іншы, жаночы. — Скупілі ўсё, панімаіш... Да, да што вы на мяне так... У, да вы, я віжу, тожа...

Натоўп ззаду рос; у размову ўступілі яшчэ колькі галасоў, але я перастаў іх чуць. Зноў пайшоў дождж, і па лужынах паплылі бурбалкі, падобныя да нашых думак, надзеяў і лёсаў; вецер, што ляцеў з боку лесу, прыносіў першыя летнія пахі, поўныя невыказнай сьвежасьці, якія быццам абяцаюць штосьці такое, чаго яшчэ не было ніколі. Я не адчуваў гора і быў дзіўна спакойны. Але гледзячы на ейнае цела, якое нават пасьля сьмерці не згубіла свае таемнае сіямскае прыгажосьці, я ведаў, што як бы ні зьмянілася маё жыцьцё, якім бы ні было маё заўтра і што б ні прыйшло на зьмену таму, што я люблю ці ненавіджу, я ўжо ніколі ня буду стаяць ля свайго вакна, трымаючы на руках іншую котку.

*Пераклаў зь расейскай мовы Зьміцер Цярэнцьеў паводле кнігі Пелевин, В. О. Все рассказы. — Москва: Эксмо, 2005. — 512 с.*

# МАГАЗІНЫ, ЦУМЫ, ПІЎНУХІ

Мы з братам вельмі любім хадзіць па магазах. Але мы ня бабы — мы бедныя толькі фінансава. У магазінах усё блясьціць і пахне, а дома — гніль і галадранства.

Асоба мы абажаем цумы — эта такія магазы, дзе можна многа спізьдзіць. Там мільён паверхаў, лахоў і лампачэк на высокам паталке. Аднажды ў разьдзявалке мы з маім саседам, Пашай Печанюшкай, адымелі адну красотку, а патом скралі ў аддзеле санцехнікі ёршык і шнур ад дожджыка.

У сектары цілівізараў мы з братам усягда смотрым бясплатна мульцікі і вапшчэ ўсё, што ідзе. Бо ўдома баця целек наш пакалоў на драва і спаліў у печцы. Каб арганізавацъ сабе чай з мятай, а нам — скандал і дзябош. Я панімаю, што жызьнь яво і так пакідала і памяла. Але са злосьці мы з брацельнікам Гендосам намялі яму бака і паставілі качаргой на лапатке кляймо.

Аднажды мы прынyслі ў цум касету з парнухай. І паставілі там у відзік. Сначала прадаўцы атпізьдзілі нас. А патом недавольныя пакупаціл адмяцелілі іх. Прыбеглі два мянта. Дасматрэлі спакойна з намі касету. І на 15 хвілін завіслі ў прымерачнай. Ня ўверэн, што яны там усяволіш ананіравалі.

Мне очэнь нравяцца люстры ў сьвяцільнікавых аддзелах. Ані как мама — красівыя, сьветлыя і дарагія. Ані даюць нам сьвятло. І жруць. Люстры — электрычаства, а мама — вінішча і нашы пяльмені. Мамка кадата даўно была паштальёнам. А ціпер разносіць па людзям толькі дурную славу і заразу. Але мы сіраўно іё любім. Бо эта мама, а ні папа. Гэты хуй ціпер там, дзе яму і паложана — на тым сьвеце. І папробуйце дакажыце, што эта нашых рук дзела.

Сама сільна я люблю ташнілаўкі і кулінарыі. Бо толькі там сабіраюцца нармальныя мужыкі і луччыя кулінары. Ані вас накормяць за капейкі і напояць за рублі. Там цараць пабрацімства і панібрацтва. Там німа пошлава інцілігентнава «Вы» — там главенствуе прастое і мудрае «ты». Там фразы, как узмах тапара — рэзкія і точныя. А судзьбы, как паказаньні рэцыдзівістаў — хрэн распутаеш і дабярэсься да ісьціны. Вець мужыкі ў піўнухах — эта рыцары бяз страху і папроку. Геніі чыстай красы, хаця і ходзяць у гразных трусах і тэніскаx. Школу і падгатавіцельныя курсы жызьні я прайшоў імінна пад іх патранатам. Бо мая СШ №24 была как сталовы нож — тупой і нінужнай. Бо хто і дзе вас ішчо навучыць выпіваць 0,7 бырла за 3,5 глатка. Бо маладзёж закаляецца не ў сьцярыльных кабінетах, а ў заблёваных падваротнях і скверах. Маладзёжы нужны ні знанія, работы і ідзіалогіі, а рулетка ў серцы і мельніца ў душы.

Вось многія думаюць, што ў прадавольсьцьвеных прадаюць галёнкі, рулеты і прочае. Ашыбачка. Там прадаюць радасьць, каторай яўляюцца маладыя сатрудніцы. У іх красівыя шчокі і пальцы. Іх улыпкі слоўна хурма. Настолька вязкія, што нівазможна аткрыць рот і завязаць разгавор. Эці дзяўчонкі проста прынцэсы, затачонныя ў сваім душным магазінным царстве.

Маленькія магазіны — эта ішчо і атракцыоны. Глаўнае — імець фантазію і муць у галаве. Дрыблінг капустай з точным пападаньнем касіршы ў галаву — у авашчных тарговых пунктах. Ігра ў бэрыка булачкамі — у прадуктовых. Хованкі — у мебельных. «Морэ валнуецца раз» — у бюрах рэтуальных услуг.

Я шчытаю, што нада на поўную катушку жызьнь пражываць, а ня ўныла поле пераходзіць. Вець распізьдзяйская жызьнь, ана как магніт — прыцягівает многа інцірэсных вішчэй. І хоць збольшага ані беспалезныя, але затое даюць цібе купу новых ашчушчэній і мысляў. А бяз этава луччэ і ні прасыпацца.

# ВІКТАР ІВАНАВІЧ, РАМАНЦІК З КРЫВОЙ ТРАПІНКІ

## I. Соплі на штанах

Віктар Іванавіч жыў у горадзе. У яво было дзьве рукі. А вот сяброў не была. Паэтаму абнімаць іму было некава. І смысла ў эціх руках не была ні на санціметр. Нахуя, спрашываецца, рукі? Па плячы не пахлопаеш, у нос па-дружэскі ня даш. Канешне, намяць гармошку можна любому прахожаму. Але Віктар Іванавіч шчытаў эта за дурны тон — порціць сваімі рукамі чужы арганізм. Для гэтага ж ёсьць міліцыя і пішчэвая прамышленасьць. Акрамя рук, ні пользы, ні радасьці не прынасілі Віктару Іванавічу і вухі. Што, бляць, за прыхаць прыроды?! — думаў ён. — Ладна бабам там, ачкарыкам, гамасекам. А я-та, я-та! Нармальны мужык — і с эцімі підарскімі бездзялушкамі! Із-за этава ён заўжды хадзіў у шапцы. Праўда, спачатку хацеў нахуй іх адрэзаць. Але самому рэзаць нязручна. Папрасіць некава. Ды і начальства не зразумее.

Ішчо былі ў Віктара Іванавіча дзьве нагі. Але ногі — эта такое... Імі хаця бы хадзіць можна.

Віктар Іванавіч жыў адзін. Бяз жэншчыны. Без коцікаў, сабачак, ёжыкаў, хамячкоў і рыбак. Патаму явоны палавы орган таксама нёс сваю трудавую вахту ўхаластую. Работаў Віктар Іванавіч прарабам. На стройке. А там самі знаеце — народ непрасты. Соплі аб штаны выцірай, а плакаць ня смей. Або, як кажуць варшчыкі бітума, — «не пазорся сьлязамі, калі груць з валасамі». А Віктар Іванавіч любіў грусьціць. Нават у сральні. І пабальшому калі, і калі па-маленькаму. Але не панімалі рабочыя ўсяленскай макраты у яво вачах. Вець грусьць — эта када харашо ад таво, што хуёва. А варшчыкам бітума харашо бывала толька ад воткі. А када харашо ад воткі, то ніхуя эта ні грусьць. А абычная, маць іё, бытавая таска. Такой таскі вам любы наштампаваць можа.

І вот аднажды заібала Віктара Іванавіча ўсё. Этат бляцкі горад з фанарамі. Эта публіка ў кружаўных польтах. Наканец, эта сука Анжэла Данілаўна із бугалцерыі, каторую пяць месяцаў вадзіў па пяльменных і румачных, у кукальны театр і дажэ на канцэрт у дом афіцэраў, а та ўсяму трэсту распізьдзела сваімі бяздарнымі губамі пра явонае паэцічэскае нутро. Карочэ, поняў ён, што міла яму прырода. А ў гарадах хай жывуць усякія абізяны і алкаголікі. Бо ў каменных джунглях толькі два выхады і ёсьць. Стаць этай самай тупой абізянай або збухацца ў гаўно. Прадаў ён кварціру, сеў і паехаў у сельскія ебяні. Пузаты райцэнтраўскі аўтобус, слоўна ігрывы слонік, мчаўся ўдоль пшанічных палей. У душы Віктара Іванавіча цьвіла чаромуха. А пад ім прыятна рыпела. І цяжка было сказаць, што іменна рыпела. Пухлае дзерманцінавае сідзеньне, недавольнае ачэрэдной жопай. Ілі эта сама жопа Віктара Іванавіча па-мальчышэскі выплёсківала свой анатамічэскій васторг. Вець, як пісаў класік, — «прастор ня толька пціцы любяць».

## II. 12 вілак

Прыехаў Віктар Іванавіч. Устроіўся ў калхозе калхозьнікам. Бо на тое ён і калхоз, каб там калхозьнікі работалі. Эта тока ў горадзе: у сталовай — электрыкі, у дурдоме — санцехнікі, у школе — псіхі. Ніякай красаты і гармоніі. Удзень іх вазілі на пладатворныя палі палоць буракі. А ўвечары Віктар Іванавіч чысьціў сьвінарнікі і закрываў іх да раніцы на замок. Как-та затрымаўся ён да глубокава пазна. Бо работы было не па шчыкалатку, как абычна. А па самы локаць. І вось арудуе ён віламі. Сьвінкі ў вальерах сапяць пятачкамі. Матылькі б'юцца аб шкло і падаюць у неакуратныя шакаладныя купы, накладзеныя пад сьценамі сьвінафермы п'янымі трактарыстамі. Банды вожыкаў рыхтуюць мышам генацыд. Кажаны праветрываюць дупы ў небясах. І тут, карочэ — хопа! У адным з вальераў рэзкі хлапок. Быццам мачавы пузыр лопнуў. Віктар Іванавіч падарваўся туды. Глядзіць, а там замест розавай сьвінкі — ахуенная баба! Голая і з цыцкамі. Так не па сабе яму стала, ажно ў штанах шакаладам запахла. А тая супакойвае: «Ня сцы, панегаспадару. Не сатана я і не баба ёжка. Проста закалдована я. Сьвятая Папандосія наказала мяне. Бо ў сельса-

веце работаючы, пасіціцелям грубіла, начальніку давала, пенсіянерам не памагала. Грэшніца я. Гнілая памідорына на гасподнім агародзе. Жырная гусеніца на дрэве міласердзія». Закалацілася серца ў Віктара Іванавіча. Загарэліся вухі пад шапкай. Вытрахнуў ён з парткоў свой шакаладны страх. Падашоў рашуча. І пацалаваў красотку ў губы малыя. «Вот ты какая, любоў!» — прашаптаў Віктар Іванавіч. «Калі точна, то Любоў Сяргееўна», — паправіла грэшніца.

З тых пор кожнай ночы Віктар Іванавіч браў з дому харошы турэцкі чай. І яны пад бублікі дзіліліся сакравенным да первых пятухоў. А інагда дажэ і да ўтарых. Люба расказвала яму рэцэпты салатаў і сікрэты кансервіраваньня. А Віця чытаў каханай свае сьціхі, напісаныя красівымі столбікамі:

*Мы вазляжам з табой уабнімку*

*Як ляжаць у каробцы бацінкі.*

Люба млела і смушчонна прыкрывала піську ладошкай.

Але так не магло прадаўжацца. Піць чай з бублікамі на сьвінаферме можа і раманціка. Але ж мала чаго. Загляне сторож — а тут голая баба са свінямі. Я б таксама многа чаго падумаў. Карочэ, пайшоў ён да заацехніка, Монькі Лысамордага. Дамаўляцца, каб сьпісаў адну сьвініху па балезьні. Ну і сашліся, што той скацінку. А Віця яму — польскую дублёнку і штруксы з адлівам. Плюс пару бутляў самагона.

Зажылі Віця з Любай як у кінах савецкіх. Днём Любоў Сяргееўна на траўке пасёцца, вечарам — у краватке з любімым трасёцца. У Віктара Іванавіча лоб паразавеў, маршчынкі са шчок прапалі. Бо нашоў наканец-та сваім беспалезным органам работу. Насажалі ані ў агародзе брусьнікі з памідорамі, арэхавых кустоў з апятамі. Каб жылося сытна, а не хуй ведае як. Але праз нейкі час захварэў Віктар Іванавіч. Пячоначнай інфлюэнцай. Павязлі яво ў раён лячыць. Ляжаў ён там месяц. Ужо і зіма скончылася. Пцічкі пачалі ў лужах купацца. Сельскія мужыкі — па п'яні ў рэчках тануць. А Віктар Іванавіч валнуецца за любімую. Бо ўродзе і наліў ёй памыяў у карыта пра запас, але ўсё раўно сярдзечка ёкае — як яна там адна? Як выпісалі — мігам рвануў дадому. Забег у хлеў з шакаладнай пліткай, а ў хляву — пуста. Настолькі, бляць, пуста, што нават сьвінячы дух, і той выветрыўся. Схваціла тут Віктара Іванавіча гора за машонку і павяло па вуліцах шукаць нінаглядную. Ідзе ён, павесіўшы ўсё, што можна. І тут чуе — крыкі, рогат, сьвіст, мацюкі, ламбада, твіст. Глянь — а ў Монькі вясельле. Усё сяло зубамі сьвяркае. Заходзіць ён, ямуналіваюць, ішчо наліваюць. Сядзіць ён і пра Любу кручыніцца. Жуе мяска, хлебушкам закусуе. І тут пацямнела ў вачах і блювота палезла з горла. Бо ў руке явонай сьвіное вуха. А ў вухе — сярожка, што Любке падарыў после первава раза. Акінуў ён вокам стол, а там — сала, кумпякі, кілбасы, кравяначка. Закруціўся тут мір перад ім. Наліліся вочы чырвоным, а кулакі белым. Узяў нажа і давай куралесіць. Моньке па горлу, нявесьце па носу, гасьцям ужэ куда папала. А тыя самаво яво — вілкамі са ўсіх бакоў. І толька сьляпыя баба Валя і дзед Нічыпар працягвалі кружыцца ў старонцы ў павольным-павольным танцы.

# ДЗЕ ТОЙ ШЛЯХ

Надышоў той вечаровы час, калі да мяне завітвае Якаб. Ён прыходзіць каля 10-й, грукае ў дзверы і акуратна вешае сваю куртку, шалік і шапку на спінку крэсла ў маёй кухні — зіма выдалася халодная, і мне гэта падабаецца. Ён заўсёды прыносіць сабе нешта паесці, часцей за ўсё з кітайскае рэстарацыі, напэўна, ён думае, у мяне дома няма ежы, але ён ніколі пра гэта не пытаўся. Мы сядаем на падлогу ў залі, ямо рыс і гародніну з пластыкавых талерак; тое адчуванне няёмкасці, што находзіць на мяне, калі я мушу есці з тым, каго кахаю, здаецца, зусім невядомае Якабу. Ён есць з вялікім апетытам, я раблю выгляд, нібыта ем, а ён даядае тое, што я пакідаю. Даеўшы, ён кладзецца на жывот, запальвае цыгарэту і падтрымлівае твар левай рукой. Ён заўсёды здымае абутак. Часам у калідоры звініць тэлефон, я ніколі не адказваю, але падымаюся і ўключаю аўтаадказнік. Калі я вяртаюся ў пакой, Якаб глядзіць на мяне. Мы шмат гамонім. Тады я звычайна гляджу на сцяну. Аднойчы я сказала, што, напэўна, стамілася б зноў і зноў распавядаць старыя гісторыі пра мінулае, дзяцінства, першае і апошняе каханне, важныя моманты, шчасце — усё тое, што зрабіла мяне такой, якая я ёсць. Я ня ўпэўненая, што ён мяне зразумеў. Я часта ня ўпэўненая, што ён мяне разумее, але гэта не ўплывае на маю захопленасць Якабам. Ён пытае: «Цябе турбуе маё мінулае?» — ён мае на ўвазе ягоных жанчынаў, — я адказваю: «Ды не». Я б хацела спытаць: «Ці турбуе цябе маё мінулае?», я хацела б сказаць: «Маё мінулае вартае таго, каб турбаваць цябе», але гэта было б занадта фанабэрыста і да таго ж няпраўдай, я маўчу. Рукі Якаба вялікія, мяккія і цёплыя, нязвыклыя. Ён карыстаецца парфумай, хаця я кажу яму, што гэта зусім неабавязкова. Ён часам занадта каротка стрыжэ валасы і, у адрозненне ад мяне, ніколі не п'янее. Пры развітанні мы абдымаемся, ён пытае: «Ты яшчэ можаш гэта трываць?», я кажу: «Чаму ты пытаешся?», ён адказвае штучна і неахвотна: «Табе сумна?», я кажу: «Не». Ён сыходзіць, я зачыняю за ім дзверы.

І няхай я стамляюся распавядаць адныя і тыя ж гісторыі, я не магу стрымацца і распавядаю. Я распавядаю Якабу апошнюю гісторыю. Цяпер снежань, яшчэ колькі дзён да Новага году, і Якаб цікавіцца, як я адзначыла гэтае свята ў мінулым годзе, ён цікавіцца, з кім. Я кажу, што паехала ў Прагу. Я кажу, што тады, калі я з Пэтэрам на Новы год паехала ў Прагу, я была закаханая ў Лукаса. Лукас быў у мяне зусім не закаханы, але Пэтэр кахаў мяне, ён быў сябрам Лукаса. Калі я не магла бачыць Лукаса, я бачылася з Пэтэрам, я выкарыстоўвала яго, каб заглушыць сум па Лукасе, Пэтэр трываў гэта. У снежні я амаль не сутыкалася з Лукасам. Ён аддаліўся ад мяне, калі я тэлефанавала, ён не падымаў слухаўку, калі я грукалася ў дзверы, ён не адчыняў. Дні былі марозныя, чыстыя і халодныя. Я не спрабавала прымусіць яго, і я пакутавала не па-сапраўднаму, няшчаснае каханне проста было маім станам у той час. Перад Калядамі мы выпадкова сустрэліся ў парку, стаялі адно насупраць аднаго нібы чужыя, я спытала: «Ну і што ты робіш на Новы год?», я ўсё яшчэ не магла пазбавіцца ўяўлення, як мы разам сустрэнем новы год, як сімвал таго, што ў наступным годзе ўсё будзе добра, як і ва ўсе ранейшыя гады. Лукас адказаў: «Нават ня ведаю. Пэўна, буду проста сядзець і глядзець тое, што будзе ісці па тэлевізары», ён глядзеў паўз мяне кудысьці ўверх, на голыя галінкі таполяў. Я сышла і накіравалася да Пэтэра, які чакаў мяне на Грэльштрасэ, я ішла павольна, горад здаваўся пустым, нібы ўсе з'ехалі, паехалі дадому. Я пагрукалася ў дзверы, Пэтэр адчыніў адразу, нават калі ён здзівіўся майму прыходу, то не падаў выгляду. У пакоі было цёпла, Пэтэр сядзеў у водбліскаx свечак і святле тэлевізара, здавалася, ён можа існаваць і без мяне, я здзівілася гэтаму. Я села каля яго на канапу, і мы моўчкі глядзелі на палёты лыжнікаў. Пэтэр узяў маю руку і паклаў яе на сваё калена, я пакінула руку ляжаць там. «Ты яшчэ збіраешся ехаць з Сарай і Міхам на Новы год у Прагу?» Пэтэр выдаў нейкі гук, які ён даўно ўжываў замест слова «так». Я падумала колькі хвіляў і прамовіла: «Я б таксама з радасцю паехала. Я еду з табой на Новы год у Прагу». Пэтэр кіўнуў, пры гэтым ён глядзеў у тэлевізар, ён не павярнуўся да мяне, магчыма, ён баяўся, што я распушчуся ў паветры, калі ён зірне на мяне. Ён ня ведаў, што ў тыя дні я не была здольная на такія фокусы.

Якаб заўсёды кажа: «Усё, што я бачу, я хачу перажыць з табой, я хачу, каб ты бачыла

тое, што бачу я, а калі гэта немагчыма, я хачу распавесці табе тое, што адбываецца са мной без цябе». Яшчэ ён гаворыць: «Я пакутую ад таго, што не магу 24 гадзіны на дзень бачыць свет маімі і тваімі вачыма». Я з захапленнем слухаю. Я спрабую зразумець гэта, я паўтараю сабе: я пакутую, я пакутую. Я ўвесь дзень думаю пра Якаба, мне радасна думаць пра яго, але я ведаю, што гэтая радасць можа нечакана абарвацца. Чаканне гэтага, страх і імкненне робяць мяне шчаслівай. Я стараюся запамінаць тое, што бачу, я страюся дзяліцца з ім тым, што бачу, я вельмі стараюся. Бяздомны на аўтобусным прыпынку, які просіць у нейкай дзяўчыны цыгарэту, дзяўчына аддае яму сваю, напалову недапаленую і садзіцца ў аўтобус, бяздомны дапальвае цыгарэту. Цікава, ці настолькі гэта інтымна для яго, як і для мяне. Касірка, якая адчыняе мне дзверы ў супермаркеце, і ейнае гучнае «калі ласка», маё ціхае, здзіўленае «дзякуй» і мой страх, што тая не пачула гэтае «дзякуй». Хлопчык на вуліцы, з баскетбольным мячом пад левай рукой, пачкам кукурузных шматкоў у правай, які яшчэ доўга азіраецца на мяне, не зацікаўлена, хутчэй раззлавана. Святло, што пранікае ранкам у пакой праз жалюзі. Музыка Ры Кудэра. Чырвоныя агні машынаў, светлафоры, ліхтары, неонавае святло рэкламы, іхнія адбіткі на мокрым ад дажджу асфальце. Мая сяброўка Ганна, што стаіць ля вакна ў сваёй кватэры — мы елі разам, пілі віно, дзяліліся ўсім — кажа, стоячы спінай да мяне: «Я ведала, што мы будзем вось так сядзець, калі міне лета». Сказы, як гэты. Пах вільгаці, дажджу і вугалю на лесвіцы. А яшчэ тое, што я, ня ведаючы, халодна ці цёпла на двары, заўсёды мёрзну, заўсёды сонная. Яшчэ адзін сказ, кінуты па дарозе: «Гэта яшчэ нічога, вось я быў некалі знаёмы з адной жанчынай, яна жыла над кітайскай рэстарацыяй, акурат над ёй...» і абсурдная думка: я б з задавальненнем была б гэтай жанчынай. Ці магу я распавесці пра ўсё гэта Якабу?

У тую зіму, калі я вырашыла паехаць з Пэтэрам на Новы год у Прагу, Міха быў закаханы ў Сару. Сара кахала Міху, а Міраслаў, які кахаў Сару, жыў адзін у Празе і ніколі не падымаў жалюзі на вокнах. Дзякуючы яму, я ведаю адно чэшскае слова — smutna, smutna — значыць сумна. Міраслаў патэлефанаваў Сары і сказаў: «Не хацела б ты прыехаць у Прагу на Новы год? Ідзе снег, Влтава замёрзла. Мы зможам залезці на дах і глядзець на феерверкі». Сара адказала: «Я прыеду, але толькі калі разам з Міхам, цяпер я нікуды без яго ня езджу, магчыма, са мной прыедуць іншыя людзі», Міраслаў пакорліва прамовіў: «Бяры з сабой каго хочаш». Сара распавядала потым, што ягоны голас здаўся ёй тады вельмі далёкім, нібы ён тэлефанаваў аднекуль з Месяца ці з Манголіі. Яна, здаецца, сама ня ведала, які варыянт ёй больш даспадобы. Сара і Міха паехалі ў Прагу на машыне. Яны вырашылі паехаць адны, таму што Міха набыў сабе пісталет і хацеў пастраляць у чэшскіх лясах, мы з Пэтэрам паехалі цягнікам. Мы сустрэліся з ім позна ўвечары 30-га снежня на берлінскім усходнім вакзале, было цёмна, здавалася, светла ўжо ніколі ня будзе. Усходні вакзал перабудоўвалі, я доўга блукала ў часовых пераходах і тунэлях, пакуль нарэшце не знайшла Пэтэра каля касы, ён стаяў у чарзе, на ім была шапка-аблавушка, ён выглядаў нейкім чужым і ўпэўненым, нібы дакладна ведаў, куды едзе. Насуперак усялякаму розуму я развіталася з Лукасам, стоячы ля дзвярэй — ён толькі злёгку прыадчыніў іх. Я сказала: «Я еду на Новы год у Прагу, зайшла развітацца», Лукас зірнуў на мяне і стомлена адказаў: «Ну тады бывай». Я хацела яшчэ нешта сказаць, але ён ужо зачыніў дзверы, і я пайшла. Цяпер, калі я падышла да Пэтэра, я кранула яго за руку, сказала: «Вітанкі» і злёгку ўсміхнулася, ён быў па-дзіцячы сумным і сур'ёзным. Мы набылі квіткі, ваду і піва, цыгарэты і цукеркі. Мы селі ў двухпавярховы вагон, пад столяй зіхацелі неонавыя лямпачкі, сядзенні былі бэзавага колеру, мой твар у адбітку на шкле вакна быў зялёным і страшным, я бачыла наскрозь праз сябе вечаровы горад, па-зімоваму змрочны, ягоныя вуліцы, прыгарад, дарогі, фабрыкі і заводы, а потым увогуле нічога, палі, мачты электрастанцыяў, асобныя агеньчыкі ў цемры. Пэтэр, седзячы каля мяне, чытаў «Bild», ужо шмат гадоў ён чытае «Bild» (такая тупасць раздражняе), час ад часу ён зачытваў мне нешта надзвычайнае, тады я брала яго за руку і прытулялася да ягонага пляча галавой. Калі ён выпіў усё піва, мы пайшлі ў вагон-рэстарацыю. У мяне было такое адчуванне, што людзі таропіліся на нас; жанчына ў карычневым паліто з футраным каўняром і мужчына з даўгімі, нерасчасанымі валасамі, што ўжо пасівелі на скронях, у спартовай куртцы з нейкае барахолкі, з апошняй бляшанкай піва ў руцэ. Мы выглядалі разгублена. Мне было файна з Пэтэрам

у гэтым вагоне-рэстарацыі, за сталом з ільняным абрусам, з плямамі, падстаўкі для шклянак мяккія і абтрапаныя, пластыкавая сальніца, шэрыя камячкі солі ў ёй. Мы сядзелі адно насупраць аднаго, гаманілі мала, я піла гарбату, Пэтэр — піва, афіцыянт быў ці то п'яны, ці то абыякавы, з маленькай кухні даносілася музыка з радыё. Кожны погляд у вакно так і заставўся поглядам на мой твар. «Кінь гэта, — пяшчотна сказаў Пэтэр. — Звонку Грынляндыя ці Кіргізія, ці стэп, што заўгодна, усё, што ты пажадаеш», але звычайна ён быў, як ён сам кажа, дзелавы. Я распытвала яго пра Міраслава, Міху і Сару, я цяжка ўяўляла, як яны ўтрох збіраліся сустракаць Новы год. «Але ж Міраслаў сам так захацеў, гэта сапраўды так», — упарта казаў Пэтэр і не разумеў мяне. Потым мы маўчалі, я глядзела на яго, ён абводзіў позіркам сваіх цёмных вузкіх вачэй вагон-рэстарацыю, я хацела запытаць: «Пра што ты думаеш?», але не пыталася нічога, час ад часу мы ўсміхаліся адно аднаму. Ля Шоны цягнік праехаў нямецка-чэшскую мяжу і ненадоўга спыніўся ў Дэчыне, рэйкі здаваліся замеценымі снегам, жоўтае святло ліхтароў, праваднікі стаялі на платформе і дыхалі на рукі. Ніхто не хацеў правяраць нашыя пашпарты, маладая дзяўчына за суседнім сталом павольна фарбавала вусны чырвонай памадай, Пэтэр ціхенька спяваў і стукаў падстаўкай для шклянкі па стале, афіцыянт сядзеў, 30 снежня, 20 гадзін 10 хвілін. Яшчэ дастаткова часу, каб падумаць, якім быў гэты год і якім будзе наступны, увогуле дастаткова часу, мне вельмі захацелася пакласці маю галаву, якая раптоўна стала цяжкой, на плямісты абрус. Афіцыянт узняўся, пайшоў на кухню, вярнуўся і нават без замовы паставіў перада мной другі кубак ледзь цёплай гарбаты, не адказаў на маю ўсмешку. Цягнік зварухнуўся, паехаў далей, дзяўчына за суседнім сталом без прычыны засмяялася. «Пабачым, што будзе», — сказаў Пэтэр, нібыта я яго пра штосьці запытала. Я думала пра святкаванні мінулых гадоў. Я чамусьці ніяк не магла ўспомніць, дзе я раней адзначала Новы год. На нейкай вечарыне? На моры? Адна дома? У таксі па дарозе немаведама куды? Новы год — гэта адзіны дзень у годзе, калі я дакладна нешчаслівая, штогод па-іншаму і штогод аднолькава. Я хацела нешта сказаць пра гэта, але твар Пэтэра быў, нібы месяц, праз які трэба глядзець, каб сапраўды пабачыць яго. Лукас сядзеў у сваім зялёным фатэлі ля каміна і чакаў чагосьці, што можа адбыцца, Пэтэр не чакаў увогуле нічога, а я для сябе яшчэ ня вырашыла. А 22 гадзіне 48 хвілін цягнік прыбыў на чыгуначны вакзал у Празе, мы ўзялі таксі да Міраслава і аддалі за дарогу палову нашых чэшскіх грошай. Пэтэр лаяўся, мне было ўсё адно, перад домам, у якім Міраслаў здымаў кватэру, стаялі Міха і Сара, яны выглядалі шчаслівымі. Першыя ракеты ляцелі ў начным небе, Влтава была цёмна-чорнай і зусім не замёрзлай. «Файна, што вы тут», — сказала Сара, а я разгублена адказала: «Так. Файна, што мы змаглі прыехаць».

Якаб вельмі вялікі. Здаецца, ён лічыць сябе большым, чым ёсць, ён нахіляецца і звычайна прыгінае галаву, нібы так ён будзе выглядаць меншым. Магчыма, ён і выглядае меншым. Калі ён сядзіць, складана ацаніць ягоны рост. Ён кажа, раней ён быў худы, але не цяпер, ягонае цела стала пругкім і шырэйшым, я доўгі час баялася ўпершыню пабачыць ягонае голае цела. Ягоная скура белая, такі белы колер здаецца мне непрыемным. Ці будзе ягонае цела такім жа навобмацак, як ягоныя рукі? Якаб непрыгожы, мяне зусім не цікавіць, ці прыгожы ён. Упершыню я пабачыла яго аголеным на Хэлзэе, увечары, улетку. Я па тэлефоне прапанавала паехаць купацца пасля абеду, я злавалася, таму што ведала, што я хутчэй за ўсё ўпершыню пабачу яго аголеным, а ён мяне. Але я ўсё адно, ці менавіта для гэтага, хацела ехаць купацца, каб хутчэй перажыць гэта. Якаб, да майго здзіўлення, адразу пагадзіўся і вельмі ўзрадавана сказаў: «Гэта выдатная ідэя». Увечары мы на машыне паехалі да Хэлзэе, гэта была ягоная прапанова, ён не здагадваўся, што я даволі добра ведаю гэтае возера. Гэта было ўлюбёнае возера Лукаса. Мы пакінулі машыну на вясковай дарозе, я б спынілася ля цаглянага завода, але Якаб, відаць, ня ведаў такой мажлівасці. Хэлзэе знаходзіцца далёка ў лесе, трэба прайсці пешкі ладны кавалак, каб дабрацца да вады, там няма сапраўды зручных месцаў для купання. Але калі доўга ісці па сцежцы ўздоўж берага, то можна дайсці да выспы, да якой вядзе мост, вось на гэтай выспе ёсць добрае месца для купання. Якаб ведаў пра гэтую выспу. Мы ішлі адно за адным па лясной дарозе, дарога была надта вузкай, каб ісці побач, хіба што калі ісці вельмі блізка адно да аднаго, узяўшыся за рукі, але мы не зрабілі так. Я ішла за ім, я прымусіла ісці так, я б не змагла ні за што ў свеце ісці перад ім і адчуваць ягоны погляд на сваёй патыліцы ці

яшчэ дзе, мне было млосна ад нервовасці і я не магла вымавіць ні слова. Было спякотна, нібы перад навальніцай, у мяне цэлы дзень балела галава, але цяпер боль адпускаў, я ведала, што ў халоднай вадзе ён зусім знікне. Калі мы дабраліся да возера, мосту ўжо не было, Якаб сказаў, што тры гады таму ён яшчэ быў, я не сказала, што ён быў яшчэ год таму. Пратока паміж выспай і берагам была вузкай, шырынёй каля трох метраў, яна здавалася багністай і глеістай, зусім неглыбокай. З выспы да нас даляталі галасы, Якаб сказаў: «Яны ж неяк дабраліся туды», у гэтых словах ён з цяжкасцю хаваў расчараванне, што акрамя нас на выспе будзе нехта яшчэ. Я зняла боты, правай нагой наступіла на слой глею і лісця, ён падаўся, я не магла сказаць, наколькі глыбока тут было. Я выцягнула нагу з вады. Якаб назіраў за мной. Я нерашуча хадзіла ўздоўж берага, мне здалося, я знайшла месца, дзе можна было адным вялікім крокам пераступіць на іншы бок. Я ненавідзела такія выпадкі. Якаб пачаў выцягваць вялікія галіны з зарасніку і нерашуча апусціў іх долу, ён выглядаў бездапаможным. Я сказала: «Можа ты пойдзеш першым?», ён адказаў: «Натуральна», пэўна, ягоны цынічны непрыемны тон, маўляў, ад цябе ды іншых жанчынаў больш няма чаго чакаць, прымусіў мяне рухацца наперад. Якаб застаўся чакаць, я зноў апусціла правую нагу ў ваду. Дно падалося. Я задрала вышэй спадніцу, у правай руцэ трымала боты, у левай — сонечныя акуляры і пачак цыгарэтаў і адштурхнулася ад берага. Я зрабіла вялікі крок, амаль дастала да супрацьлеглага берага, але зямля, на якую я паставіла сваю левую нагу, асела, то бок яе проста ня стала, мая нага крочыла ў пустэчу, у ціну і багну, у якой я на дзіва хутка патанала. Я апусцілася да грудзей, тапталася на месцы, кінула боты, сонечныя акуляры і цыгарэты на выспу, удыхнула, у паніцы спрабуючы плысці. Я пачула, як Якаб хутка ўвайшоў у ваду. Я павярнулася да яго і закрычала: «Не падыходзь да мяне блізка» — сказ, які ён потым будзе ўвесь час паўтараць, захлёбваючыся ад смеху, яшчэ больш прыніжальнай перспектывай, чым патанаць на ягоных вачах у твані, мне здавалася дазволіць яму выцягнуць мяне з гэтае твані. Я цягнулася да галінаў і раслінаў, што тырчэлі над паверняй, усё асядала і паддавалася, пры гэтым яшчэ булькатала, так што я проста апусцілася ў ваду па горла і даплыла да берага. Я вылезла з вады, запэцканая з ног да галавы ў чорны глей і гнілое лісце, далонямі я выцерла бруд з твару, потым павярнулася да Якаба. Ён стаяў на іншым беразе і ўжо паспеў зняць штаны. Ён быў смешны, я ня ведаю, якой была я. Мы адначасова гучна зарагаталі. Ён закрычаў: «Я паплыву да выспы! Кіну табе сваё адзенне!» — потым ён зусім распрануўся, скруціў сваю кашулю, штаны і боты, я нават не звярнула ўвагу на тое, як ён выглядаў. Ён кінуў мне свае рэчы, але кепска пацэліў, і яны ўпалі ў ваду, адразу патанулі, і мне давялося зноў лезці туды, я гучна лаялася, Якаб не адрэагаваў на гэта, ён бег уздоўж лясной дарогі, я больш не магла яго бачыць. Галасы, якія мы чулі раней, цяпер набліжаліся, я паспрабавала схавацца, але не паспела, яны ўжо стаялі перада мной, дзве здзіўленыя дзяўчыны, якія з непрыхаванай цікаўнасцю на тварах глядзелі на мяне. Я выпрасталася, павіталася і пайшла далей, калі я была даволі далёка, я азірнулася. Яны трымаліся адна за адну і за галінкі і перайшлі на той бок у іншым, крыху аддаленым і, відаць, не такім глыбокім месцы. Я пайшла далей да месца купання. Цяпер на выспе нікога не было. Я пабачыла галаву Якаба над вадой далёка, вельмі далёка. Ён памахаў, я не памахала ў адказ. Мае цыгарэты цяпер можна было толькі выкінуць. Я зняла з сябе мокрыя рэчы і паласкала іх у возеры, рэчы Якаба таксама. Потым я развесіла іх на дрэвы, але бессэнсоўна, таму што сонца акурат схавалася за лесам на другім баку возера, ужо нічога ня высахне. Я зайшла ў ваду і паплыла, вада была цёплая, Якаб плыў да мяне, ягоны твар выглядаў смешным, ягоныя валасы на аголеных плячах былі мокрымі, ён смяяўся, я адплыла ад яго, мне таксама хацелася смяяцца, але было складана плыць і смяяцца адначасова. Нейкі час мы плюхаліся ў вадзе, ён паўтараў за мной: «Не падыходзь да мяне блізка!», ён так і трэсся ад смеху. Мне здаецца, мы былі крыху напалоханыя, радасныя, збянтэжаныя. Потым я вылезла з вады і села на траву. Спачатку мне было халодна, потым ужо не, я падцягнула калені да тулава, мне хацелася паліць, я была аголеная, тут ужо нічога ня зменіш. Якаб прыйшоў крыху пазней, зараз я магла глядзець на яго, ягонае аголенае цела выглядала такім, якім я яго сабе ўяўляла. Гэта было ня страшна. Ён сеў каля мяне і паклаў сваю руку мне на плечы, ён стукаў зубамі, я глядзела на возера, на ваду, над якой нібы стаяў ледзь заўважны слой пылу. На іншым баку рыбак выцягваў сеткі, вечарэла. Час ад часу мы ціха смяяліся. У нейкую хвіліну ён пачаў цалаваць мяне, мае плечы, рукі, шыю, я адчувала

ягоны пах, ягоны салодкі пах. Ён абняў мяне, а я яго, праз напаўзаплюшчаныя вочы я бачыла ягоны чэлес, які набрыняў і палохаў мяне гэтым. Якаб злёгку цiснуў на мае плечы, пакуль я не апусцілася на спіну, лёг на мяне, ён глядзеў мне ў твар, ягоны твар зблізу здаваўся мне зусім чужым. За ім я бачыла вершаліны дрэваў, не ў першы раз я бачыла іх на гэтай выспе менавіта з такога становішча. Якаб глядзеў так, нібыта хацеў пра штосьці даведацца, я заплюшчыла вочы. Ён паспрабаваў пераспаць са мной, але не атрымалася. Я ня бачыла, як ягоны чэлес зноў паменшыўся, лепш бы я гэта бачыла, каб супакоіцца. Доўгі час ён яшчэ ляжаў на мне. Потым стала зусім цёмна і халодна, мы падняліся, склалі мокрыя рэчы і перайшлі па вадзе акурат там, дзе гэта зрабілі тыя дзяўчаты колькі гадзінаў таму. Аголеныя, мы ішлі праз лес назад да машыны, мы нікога не сустрэлі па дарозе, цяпер мы трымаліся за рукі, прытуліўшыся адно да аднаго. Якаб дастаў з багажніка нейкую куртку і старую кашулю, даў кашулю мне, і мы паехалі назад у горад, усю дарогу я не хацела адпускаць ягоную руку. Свяціў серп месяца. Мы прыпыніліся каля дома Ганны, яна без пытанняў працягнула мне праз дзверы швэдар і штаны. Потым мы паехалі да сябра Якаба Сашы, дзе Якаб на дзве гадзіны знік у ванне і сушыў фенам свае рэчы, пакуль я з Сашам сядзела на кухні і прагна піла чырвонае віно. Некалькі разоў Саша нецярпліва пытаў: «Чаму ён ня можа апрануць маю кашулю?», я нічога не адказвала. Якаб нарэшце выйшаў з ванны і выглядаў так, нібыта нічога ня здарылася. Мы далей пілі віно, што дазволіла мне сказаць яму: «Я хачу правесці з табой жыццё», ён вымавіў маё імя. Мы сышлі на світанні.

Пэтэр сказаў: «Калі мы будзем у Міраслава, мы мусім падняцца на тысячу пяцьсот прыступак, і тады ты атрымаеш найлепшую магчымасць паглядзець на Влтаву». Прыступкі былі каменнымі, можа быць, іх было больш за тысячу пяцьсот, таму што калі мы нарэшце апынуліся наверсе, я больш не магла дыхаць і не хацела ўжо глядзець на Влтаву, якую мне паказваў Пэтэр (хутчэй са шкадаваннем, чым з трыюмфам) праз вакно на лесвічнай пляцоўцы. З лесвічнай пляцоўкі вялі шматлікія дзверы, у адной з іх стаяў Міраслаў, маленькая постаць, ён пакланіўся нам, але не збіраўся адыходзіць ад дзвярэй і сказаў пяшчотным, ледзь чутным голасам: «Сардэчна запрашаю!», Сара адштурхнула яго. Кватэра была надзіва вялікай, пяць пакояў, усе амаль пустыя і неабжытыя, акрамя залі, у якой каля тэлевізара цясніліся канапа і пяць фатэляў. Паветра было задушлівым і цяжкім, гарэлі свечкі, тэлевізар працаваў бяз гуку. Міраслаў зваліўся на канапу і адразу заплюшчыў вочы. Вакол канапы ляжала куча няведама чаго, я потым зразумела, што гэта шалупінне гарбузовых і сланечнікавых семак, фісташкаў і арахіса. Сара заняла ўсе пакоі, акрамя кухні, раскідаўшы паўсюль свае курткі, боты, шапкі і пакеты з ракетамі. Яна ігнаравала Міраслава, прагна цалавала Міху, заўсёды, калі ішла паўз яго, на Міху находзілі прыпадкі іранічнай, абыякавай весялосці, здавалася, што ён п'яны ці «пад кайфам». Я падышла да вакна, цяпер мне ўсё ж хацелася паглядзець на Влтаву і Прагу, залаты горад. Я хацела ўпэўніцца, што гэта было правільна, прыехаць сюды, быць з Пэтэрам, пакінуць Лукаса аднаго, я дакладна ведала, што Лукасу падабаецца адзінота, у любым выпадку яму падабалася быць без мяне. Жалюзі на вокнах былі апушчаныя, Сара падняла іх адну за адной, энэргічна, рэзка. На даляглядзе дыміліся трубы фабрыкаў. Влтава была чорнай і бліскучай, далёка ўнізе, вельмі далёка адсюль. Я чула цяжкое, стомленае дыханне Міраслава. Пэтэр крануў мяне за руку, я павярнулася і пайшла за ім праз усе пакоі да самага апошняга, дзе стаяў ложак, невялічкая лямпа на падлозе — больш нічога. «Хочаш спаць тут?» — спытаў Пэтэр, не падымаючы на мяне вачэй, ложак быў занадта вузкім для дваіх. Я з удзячнасцю адказала: «Так». Ён паставіў маю сумку ля ложка, а калі я яго абняла, паклаў галаву мне на плячо і ціха сказаў: «Міраслаў больш няшчасны, чым я». Міраслаў наліў сабе гарэлкі, поўную шклянку, ён падняўся і глядзеў на ўсё яшчэ маўклівы тэлевізар, у якім па снезе бег воўк. Сара сядзела на руках у Міхі. Міраслаў перавёў позірк з тэлевізара на мой твар і сказаў: «Мяне завуць Міраслаў. Хочаш выпіць гарэлкі?», я вельмі выразна адказала: «Не, дзякуй», ён пацiснуў плячыма і адвярнуўся. Я села ў адзін з запыленых фатэляў, ня ведаю чаму, але я ўсё яшчэ не здымала паліто. Пэтэр прынёс мне шклянку чорнае горкае гарбаты. Нейкі час ён хадзіў туды-сюды, здаецца, прыбіраў, потым сеў каля мяне. Сара нешта казала Міху на вуха, час ад часу яна паварочвалася да Міраслава, крычала на яго, той не рэагаваў. Аднекуль здалёк былі чуваць выбухі святочных ракетаў. Увесь пакой прапах бехераўкай, гашышам і цыгарэтамі,

усе напіліся і сварыліся адно з адным, і Мірaслаў, і Пэтэр, які таксама грубіў і крыўдзіў; я ўзяла яго за руку, мы сядзелі, злыя, побач, я з гонарам адказвала на п'яны погляд Міраслава. На світанні Міраслаў выключыў тэлевізар і паставіў чэшскія дыскі, пад якія пачалі танчыць Сара і Міха, цесна прыхінуўшыся адно да аднаго — адзіная постаць перад бліскучымі шэрымі вокнамі, я пайшла спаць. Я ішла праз усе пакоі і не зачыніла за сабой ніводныя дзверы, я зняла з сябе толькі боты і паліто, легла на ложак на спіну і слухала, слухала музыку, смех Сары, апантаны, нібы заклінаючы голас Пэтэра, спеў Міхі.

Якаб не баіцца зноў і зноў пачынаць гаворку пра каханне. Яму падабаецца гаманіць пра каханне, пра нашае і пра каханне ўвогуле, ён ніколі ня кажа тое, пра што потым пашкадуе, ён не шкадуе. Ён сцвярджае, што ніхто ніколі ня скажа пра нас: «Яны расталіся з-за кахання». Яму відавочна прыемна казаць гэта, а я дзіўлюся, я ўвогуле яшчэ ня думала пра расстанне. Якаб упэўнены, што мы маем час, шмат часу, увесь час свету. Ён ведае, што ўсё тое, што нас бянтэжыць, што мы ня кажам і пра што дарэмна пытаемся, усё, што застаецца незразумелым, крыўдным, ужо ёсць каханнем у ягонай першаснай форме. Ён ведае больш за мяне. Ён кажа: «Я хачу пастарэць з табой», потым ён паварочваецца і сыходзіць, гэта лепшае, што ён можа зрабіць.

Я не магу дакладна ўзгадаць, як доўга я спала тады там, у Празе, у перадапошнюю ноч таго года. Калі я прачнулася, пакой поўніўся сонечным святлом, нехта накрыў мяне коўдрай, пакуль я спала. У залі сядзелі Міха, Міраслаў, Сара і Пэтэр, нібыта яны і ня клаліся, перад імі на стале стаяў посуд ад сняданка, кубкі з-пад кавы, падстаўкі пад вараныя яйкі. Міха сказаў: «Дабранак» — ён упершыню звярнуўся да мяне з самага нашага прыезду. Я вітальна падняла руку і хутка пайшла ў ванны пакой, зачыніла за сабой дзверы і села на край ванны. Я ня ведала, як я выглядала. Я прыслухалася. Мне было неяк цяжка знаходзіцца побач з Сарай, Пэтэрам, Міхам і Міраславам. Я то адкрывала, то закрывала кран. Пэтэр пагрукаў у дзверы і спытаў: «Кава, гарбата ці сок?», на нейкі момант мяне ўзрадаваў ягоны голас, ягоная прысутнасць. На сняданак я з'ела тры маленькія пыльныя чэшскія булачкі, бананы і шматкі, выпіла чатыры кубкі кавы, потым яшчэ вады, у мяне было такое адчуванне, што я не змагу спыніцца. Зноў працаваў тэлевізар. Міраслаў ляжаў з напаўзаплюшчанымі вачыма на канапе, Міха глядзеў тэлевізар, Сара корпалася ў ракетах, час ад часу яна казала нешта пяшчотнае Міраславу, які толькі злёгку ўсміхаўся. Пэтэр сядзеў каля мяне, паліў, маўчаў. Я ведала, што ў горад мы ня пойдзем. Мы ня пройдзем па Карлавым мосце ў Ёзафаў, ня пройдзем праз Вацлаўскую плошчу, не наведаем Градчаны, ня будзем сядзець у кавярні «Славія» і піць гарачы шакалад з вяршкамі і глядзець на Влтаву, мы не пастаім ля магілы Кафкі, не падымемся ўгору па падвяснай дарозе, было б смешна рабіць усё гэта. Тое, што мы былі ў Празе, ня мела аніякага значэння. Былі б мы ў Маскве, у Загрэбе ці Каіры, ці яшчэ дзе, Пэтэр вось так жа адкаркаваў бы піва, глынуў бы, уздыхнуў, прыбраў бы яго і скруціў бы сабе новую цыгарэту. Ён сказаў: «Толькі ў Мехіка я б сядзеў з радасцю, папіваючы гарэлку на ўзбочыне пыльнай вясковай дарогі ў паўдзённую спёку, таму што толькі ў Мехіка я змагу проста зваліцца з крэсла і больш не ўставаць, ніколі». Мне магло стаць прыкра ад гэтых словаў, але ня стала, я разумела гэта, разумела нешта ў гэтым. Міраслаў, здаецца, яшчэ не зразумеў гэтага. Ён падняўся, прыгладзіў валасы, пазяхнуў, працёр вочы і спытаў: «Ну, і чым бы вы хацелі заняцца?», ён размаўляў па-нямецку з прыглушаным чэшскім акцэнтам. Я баялася акурат гэтага моманту. Міха і Пэтэр маўчалі, Сара адарвалася ад ракетаў і сказала: «Есці клёцкі і свіную зажарку. Вось гэтым мы заняліся б з задавальненнем», Міраслаў не зусім зразумеў і перапытаў: «У старым горадзе?», Сара адказала: «Толькі ня там. Лепш за ўсё ў той кавярні, што ля в'етнамскага кірмаша, за рагом вуліцы». Міха ўсміхнуўся, Пэтэр падняўся і выйшаў з пакоя. Міраслаў зірнуў на Сару: «У мяне такое адчуванне, што я цябе не зусім правільна зразумеў. Ты ў Празе і хочаш абедаць ля в'етнамскага кірмаша, за рагом, ты нічога не жадаеш бачыць, ты не жадаеш пабачыць мой горад?», Сара спакойна адказала: «Не. Не жадаю. І ня думаю, што гэтага хацелася б іншым», тады Міраслаў скінуў левай рукой увесь посуд са стала, Міха сказаў: «Ты чаго?», Сара пачала крычаць. Я таксама паднялася і пайшла шукаць Пэтэра, які сядзеў на падваконні ў маленькай цёмнай кухні і глядзеў праз вакно на сцяну ў заднім двары, ён сказаў: «Даруй. Я мусіў цябе папярэдзіць, што так будзе», ён не глядзеў на мяне. Я прытулілася да сцяны побач з ім, таксама паглядзела на двор, сцяна за вакном была

шэрая і гладкая, я сказала: «Не прасі прабачэння, я б усё адно паехала», Пэтэр засмяяўся так, нібыта ён мне не паверыў. У пакоі Сара і Міраслаў крычалі адно на аднаго, Міраслаў крычаў па-чэшску, праз нейкі час нехта зрабіў тэлевізар гучней, пэўна, гэта быў Міха. Мы чакалі ў кухні, моўчкі, газавая калонка над мойкай з пыхценнем уключалася і выключалася. На кухоннай паліцы стосікамі ляжалі пакецікі з фісташкамі і арахісам побач з незлічонымі пляшкамі гарэлкі. Ляснулі дзверы ў кватэру, мы ўсё яшчэ чакалі, ветліва і ляніва, потым у калідоры з'явілася Сара і сказала: «Мы можам ужо выходзіць». Мы сышлі ўніз на паўтары тысячы прыступак, Міраслаў знік, нават здавалася, нібыта яго ўвогуле не было. На дварэ было халодна і сонечна, з фабрычных трубаў слупом уздымаўся ў паветра шэры дым, я спяшалася за Сарай, Міхам і Пэтэрам, міма нас грукаталі машыны, караблі цягнуліся па Влтаве. За маёй спінай быў стары горад, панарама мастоў і царкоўных вежаў, Градшын высока на гары, я не азіралася. В'етнамскі кірмаш быў у квартале адсюль, брудная стаянка, у якой патанаюць хісткія буданы, снег, пра які Міраслаў распавядаў Сары, замёрз у глыбы. В'етнамцы цесна стаялі вакол бочак, у якіх дрыжэла полымя, і паводзіліся так, нібыта ня мелі аніякага дачынення да стракатых рэчаў, што звісалі з навесаў іхніх буданоў. Там былі шчоткі для рондаляў, іконы Божай маці, вязаныя швэдары, пакаёвыя фантанчыкі, кансервавыя бляшанкі, дзіцячыя піжамы. Па плошчы праляцеў вецер, зачапіў навесы і загрукатаў пластыкавымі вешалкамі, полымя ў бочках узвілося ўвышыню. Сара ішла наперадзе між буданоў праз завулкі і трымала рукі ў кішэнях ейнае нібы вайсковае курткі, Міха ішоў за ёй, на твары гонар і трыюмф. В'етнамцы не звярталі на нас увагі. Мы замовілі ў нейкім бараку без святла гуляш з мяса дзіка з клёцкамі, і адразу перад намі на стале без усялякіх пытанняў з'явіліся 4 шклянкі бехераўкі, я адсунула сваю Пэтэру, ён, ня доўга думаючы, спустошыў яе. З-за стойкі выглядвалі падлеткі з вузкімі вачыма. Мы мала раўмаўлялі міжсобку, соўгалі падстаўкі для піва туды-сюды па абрусе ў кратку, я скручвала цыгарэты, зацягвалася і пускала іх далей. Афіцыянт паставіў ежу проста на край стала, і мы перадавалі адно аднаму талеркі, мяккае мяса ў карычневай поліўцы і нешта падобнае да сухіх кавалкаў белага хлеба. «Гэта хлеб», — сказаў Міха. «Гэта клёцкі, — сказаў Пэтэр, — і яны мусяць быць такімі». Я ела і бязглузда думала: «Усё правільна. Усё правільна, усё так, як мусіць быць, усё выдатна», мне давялося перастаць жаваць, таму што мяне трэсла ад смеху, але больш ніхто не смяяўся. На дварэ ішоў брудны дождж. Афіцыянт прыбраў са стала і сказаў: «Было вельмі смачна», потым зноў наліў бехераўкі, упарта і настойліва. Мы сядзелі гадзіну, дзве, разлічыліся і пайшлі, стала змрочна, в'етнамцы збіралі свае рэчы. Я спытала ў Пэтэра, ці святкуюць яны ўвогуле Новы год, і ён паблажліва адказаў: «Феерверкі паходзяць з В'етнаму. Новы год паходзіць з В'етнаму. Натуральна, яны святкуюць Новы год, толькі ў іншы час і, пэўна, ня так як мы. Яны носяць перад сабой драконаў. Але пакуль гэты час не прыйшоў, яны назіраюць за намі», я ўзяла яго пад руку, мне хацелася, каб ён і далей вось так нешта распавядаў. У адным шапіку з упрыгожаннямі Сара набыла два металічныя пярсцёнкі. Міха набыў ракеты і хлапушкі ў в'етнамца, захутанага ў футра, з дзіцячым тварам эскімоса, ракеты былі загорнутыя ў чырвоную паперу, мокрую ад дажджу. Удалечыні звінелі званы, на бараку-кавярні зазіхацелі зялёныя і блакітныя агеньчыкі. Плошча цяпер была апусцелай і бруднай, Міха прабег праз нейкі завулак, падкінуў хлапушкі ў паветра і закрычаў, в'етнамцы нахіляліся і разбягаліся па кутках. Залаты і сярэбраны дождж, зорныя піраміды, чырвоныя слупы полымя, недзе далёка хрыпіць і зрываецца Міхаў голас. Пэтэр пацягнуў мяне з аднаго завулка ў іншы, я не хацела ведаць, чаму ён раптам пабег, я бегла таксама. Мы беглі паўз лабірынт навесаў і драўляных каркасаў, жанчыну з цюрбанам на галаве, што схілілася над старым чыгунком, сабакаў, што рвалі мяхі са смеццем, увогуле ніякага святла больш, вялізныя лужыны, адчуванне ў маім страўніку, нібыта я сплю, і потым зноў вуліца, Влтава, рух, святло ліхтароў на рацэ. Неба цяпер чорнае, невялікі месяц між фабрычных трубаў. Прага, 31 снежня, сем гадзін вечара.

Я знаёмая з Якабам амаль год. Я не задумваюся, ці доўга гэта. Якаб кажа, што мы заўсёды будзем разам, гэта мяне непакоіць, таму ўжо цяпер усё паміж намі складаецца з успамінаў. Аднойчы я была з Якабам на выставе. Выстава была ў замку на беразе возера, у той мясцовасці, дзе ён жыў ў дзяцінстве. Мы паехалі на машыне, ён паказваў мне свае мясціны, калі мы пераязджалі нейкую рэчку, ён з гонарам сказаў: «Гэта Шпрэ», мне стала зразумелым значэнне нашае паездкі. Пад вечар мы прыехалі да замку. Замкавы парк быў

апусцелым, на стаянцы ніводнае машыны, на лузе ля возера нейкі чалавек усталёўваў праектар для адкрытага кінатэатра. Здавалася, мы былі адзінымі наведвальнікамі, дзяўчына ў касе ўздрыгнула, калі мы ўвайшлі ў залю і адарвала квіткі так, нібыта рабіла гэта ўпершыню. На працягу ўсяго дня Якаб казаў, што сярод пяцідзесяці кепскіх карцінаў знойдзецца адна добрая, і гэтую добрую мы не маглі знайсці. Карціны былі жудаснымі, інсталяцыі, відэапраекцыі, а таксама скульптуры. Мы ішлі праз залі, узяўшыся за рукі, адкрывалі скрыні шафаў, таемныя дзверы, створкі вокнаў, што выходзілі на возера. Замак быў прыгожым, развaленым, шафы пустымі, за таемнымі дзвярыма пластмасавыя вёдры, сродкі для дэзінфекцыі і мётлы, парчовыя шпалеры, пакрытыя карычневым лакам, паркет, пакрыты шэрым лінолеўмам. Час ад часу мы спыняліся і абдымаліся, здавалася, што Якабу добра, мне таксама было добра, хаця гэтая бездакорнасць усяго дня зрабіла мяне замкнёнай, абыякавай, я ўжо нічога не чакала. Мы абдымаліся і зноў адпускалі адно аднаго, ішлі далей, не гаварылі пра тое, што бачылі, нашыя меркаванні супадалі. Апошняя інсталяцыя ў апошняй залі, перад якой вісела чорная фіранка з футра, называлася «Дзе той шлях». Я адсунула фіранку, і мы ўвайшлі ў пакой, які ўвесь быў пакрыты драўлянымі рэйкамі, яны амаль дасягалі столі і толькі ўверсе прапускалі вузкую шчыліну святла. Было цёмна, святло лунала пад столлю, малочнае і пыльнае, толькі на правую сцяну падаў маленькі, ззяючы, залаты, прастакутны прамень вечаровага сонца. Было цёпла, крыху задушна, можа, нібы на гарышчы ўлетку, гэта цеплыня, якая ўваходзіць у цела і робіць яго безабаронным. Нейкі час мы стаялі там і глядзелі на той простакутнік, потым Якаб выйшаў, я пайшла за ім. Пазней, уночы па дарозе дадому, мы гаманілі пра гэта. Якаб сказаў: «Творца, хутчэй за ўсё, ня ведаў нічога пра гэтую пляму святла. І гэтая інсталяцыя ня стала бессэнсоўнай толькі таму, што акурат у той момант, калі мы ўвайшлі ў пакой, вечаровае сонца стварыла, мушу прызнацца, даволі прыгожы эфект на сцяне». Ён выкарыстаў словы «эфект» і «мушу прызнацца», але ня гэта прымусіла мяне потым задумацца над тым, што мы ідзем рознымі шляхамі. Гэта было характэрнае адрозненне ў нашых светаўспрыманнях, у тым, ува што мы верылі ці ўва што гатовыя былі паверыць. Я была ўпэўненая, што справа была менавіта ў гэтым прастакутніку святла. Вечаровае сонца, чыстае неба, пэўны прамень і кароткі момант, ён і я, дарога праз замак і той час, у які мы выпадкова зайшлі ў гэты пакой, не пазней і не раней, і пытанне, дзе той шлях, я, здаецца, ведала адказ. Якаб ня ведаў адказу, і ён ня думаў пра яго. І нават калі адзін чалавек, якому мы пазней расказалі пра гэта, сказаў, што яшчэ ў пірамідах былі збудаванні, зробленыя так, што ў пэўны час у іх перакрыжоўваліся промні, Якабу нельга было нічога давесці, ён ня верыў у гэта. Мы паехалі назад у горад, сланечнікі на заднім сядзенні і аўтамабільная попельніца, поўная нервова выпаленых цыгарэтаў, усведамленне таго, што мы разам правялі дзень, вытрымалі гэта і былі шчаслівымі, зрабіла нас сытымі, лянівымі і няўклюднымі. Мы прыехалі апоўначы ў Берлін, схадзілі выпіць віна, пасварыліся, Якаб сказаў: «Мы мусілі застацца, мы мусілі застацца знадворку», магчыма, але ж мы не засталіся. Я ўзгадваю гэта. Час ад часу.

У кватэры, паўтары тысячы прыступак над Влтавай, на кухні стаяў Міраслаў і мыў посуд. Працаваў тэлевізар, гурба шалупіння ад арахісу вакол канапы вырасла. Міха і Сара стаялі перад кухоннымі паліцамі нібы ў супермаркеце, пасля доўгага роздуму засунулі ў кішэні куртак дзве пляшкі гарэлкі і зноў зніклі. Я ведала, што яны хацелі заручыцца да канца года, «Каля моста, ля ракі», сказала Сара тонам, які не дапускаў аніякіх пытанняў. Я ня ведала, ці ведаў пра гэта Міраслаў. Пэтэр адчыніў усе вокны, зрабіў тэлевізар цішэй, лёг на канапу і заплюшчыў вочы. На дварэ шумеў рух, шамацела шалупінне ад арахісу, я нерашуча сядзела на краі канапы, потым пайшла на кухню да Міраслава. Ён усё яшчэ мыў посуд, Сары, Міхаў, Пэтэраў і мой, я ўзяла з крэсла ручнік і пачала выціраць. Я чакала, што ён скажа: «Табе не абавязкова рабіць гэта». Ён задуменна памыў сподачак, адкашляўся, павярнуўся і сказаў: «Табе не абавязкова рабіць гэта». Я ветліва ўсміхнулася яму і сказала: «Я ведаю», я не сказала: «Я ведаю, але мне шкада цябе, і ў мяне такое адчуванне, што я мушу зараз выціраць посуд, каб ты не пачуваўся поўным ідыётам, так што дазволь мне выціраць і пакінь мяне ў спакоі». Мы глядзелі адно на аднаго ў паўзмрочным святле лямпы над мойкай, потым ён адвярнуўся. Ён выкарыстоўваў занадта шмат сродку для посуду. Мы доўга маўчалі, ён зноў адкашляўся і сказаў: «У цябе ня ўсё добра». Я адказала адразу і з упартасцю ў голасе: «Так. Але ж твае справы зусім не абавязкова лепшыя за мае», ён

каротка ўсміхнуўся і зрабіў нейкі птушыны рух галавой. Я ўжо ня ведаю, ці хацела я з ім размаўляць. Цяпер ён даваў мне адразу ў рукі вымытыя талеркі і кубкі, пры гэтым ён штораз выдаваў нейкі прабачальны гук. Зблізу я магла бачыць, наколькі старым і стомленым быў ягоны твар. Ён сказаў: «Вы сустракаецеся з Пэтэрам?», мяне здзівіла, што ён думаў пра нас. Я прамовіла, наколькі гэта было магчыма, абыякава: «Не, не сустракаемся», і ён ветліва нічога не казаў яшчэ доўгі час. Калі я выцерла ўвесь посуд, ён выцер стол, правёў далонню па крэсле і запрасіў мяне сесці, я паматала галавой. Ён пакутліва ўсміхнуўся. Я круціла ў руках ручнік, мне здавалася, што я зрабіла для яго ўсё магчымае, але ён не хацеў мяне адпускаць. Ён сеў, зноў падняўся, адчыніў халадзільнік і спытаў: «Ты галодная, можа павячэраем разам, рыбныя палачкі, хлеб, віно, што скажаш?», я нічога не адказала. Ён выцягнуў патэльню з шафы, разарваў пачак з рыбнымі палачкамі, парэзаў хлеб, я чула, як ўздыхае Пэтэр у пакоі, здавалася, ён уздыхаў у сне. Міраслаў уключыў радыё, алей шыпеў на патэльні, шумеў газ, ён ствараў процьму гукаў і, калі было ўжо дастаткова гучна, ён спытаўся нараспеў: «А з кім жа ты сустракаешся?» Я адказала: «З Лукасам. Ты яго ня ведаеш, і насамрэч мы не сустракаемся, я толькі хачу, каб так было». У мяне было такое адчуванне, нібыта я казала зусім не пра сябе, а хутчэй пра яго. Ён высыпаў замёрзлую рыбу на патэльню, адскочыў, таму што алей пырскаўся, сказаў: «Ты прыгожая. Ты не дурная. Што такое, чаму ён ня хоча быць з табой?», я сказала амаль мякка: «Міраслаў. Гэта дурное пытанне. Ён ня хоча гэтага, таму што ён мяне не кахае, гэта ўсё», Міраслаў паматаў галавой як клоўн. Па радыё гучала чэшская народная музыка. Зараз я ўжо села, не таму, што я хацела працягваць гэтую размову, а таму, што мне раптоўна стала блага. Я думала пра Міху і Сару пад нейкім мастом ля вады, пра маленькія металічныя пярсцёнкі, пра рух, які імчыць над імі, пра гнілы пах ракі, пра твар Сары. Я пыталася ў сябе, ці паабяцаюць яны нешта адно аднаму, калі абмяняюцца пярсцёнкамі, тое, што абяцаюць, калі ладзяць заручыны, можа, я магла спытаць у Міраслава, мне здавалася, ён будзе гэта ведаць. Я глядзела на яго, ён стаяў ля пліты, пераварочваў рыбу, рэзаў памідоры, пасыпаў соллю і перцам, потым ён перапыніў мае думкі і сказаў: «Ты можаш пераехаць сюды. Ты можаш проста пераехаць сюды, ты можаш жыць тут са мной, ты можаш паспрабаваць. Мы навучымся гэтаму. У мяне ёсць цярпенне і праца, ты будзеш упэўненая, мы можам вучыцца, кахаць адно аднаго, магчыма ж гэтаму навучыцца». Я сказала: «Так. Я магла б. Але ня буду», маё сэрца білася цяпер павольней. Ён паглядзеў на мяне. Я глядзела паўз яго на сцяну за вакном, якую цяпер нельга было адрозніць ад неба. Я разважала над ягонай прапановай. Я сядзела і разважала над гэтым і ўяўляла нешта, так падрабязна і балюча, як толькі магчыма. А потым мы больш не размаўлялі адно з адным.

Напачатку года, калі я пазнаёмілася з Якабам і, магчыма, ужо кахала яго, адразу кахала, ён пазбягаў мяне, а я начамі сядзела ў барах і чакала яго. Я давяралася лёсу і выходзіла, ішла ў які-небудзь бар, у адзін з тых, дзе ён часам выпіваў. Я садзілася ля стойкі, замаўляла келіх віна і чакала яго. Я глядзела праз запацелыя вокны на двор, і калі там праходзіў нехта, падобная да ягонай постаць, нібыта ягоны сілуэт, які запавольваў хаду, спыняўся, адчыняў дзверы і ўваходзіў, маё сэрца падскоквала. Часам гэта быў ён, часам не. Сёння, калі мне ўжо ня трэба чакаць Якаба, таму што ён мяне больш не пазбягае, бываюць ночы, калі я сяджу побач з ім у нейкім бары, а нехта звонку праходзіць каля вакна і запавольвае крок, заглядае праз запацелыя шыбы, паварочваецца і ідзе далей. Маё сэрца зноў заходзіцца ў звыклым сполаху, і толькі потым я зноў разумею, што гэта ня мог быць Якаб. Бываюць ночы, калі я даволі дакладна і ясна думаю: «Патэль Якабу, спытай, ці ня хоча ён куды-небудзь схадзіць, ноч такая цёплая, мы можаш разам выпіць, толькі адзін келіх віна», а потым я паварочваюся да яго, я не магу яго спытаць, ён ужо тут.

Каля дзявятай гадзіны вечара я і Пэтэр пакінулі Міраслава аднаго. Сара і Міха не вярнуліся, і Міраслаў патлумачыў, што ён не збіраўся ні з кім падымаць келіхі апоўначы за Новы год, яму няма чаго жадаць і ён ня хоча чуць аніякія пажаданні яму, маўляў, мы можам ісці. Мы пасядзелі з ім, пакуль ён сам не даеў сваю рыбу, памідоры і цыбульны хлеб, мы сядзелі злева і справа ад яго і не казалі ні слова. Потым мы сышлі, пакінуўшы яго сядзець на канапе, на ім былі пантофлі, вязаная кофта, шалік вакол шыі, ён выглядаў нібы стары прывід. *Janáčkovo nábreží, Smetanovo nábreží, Masarykovo nábreží*. Мы трымаліся за рукі і ішлі ўздоўж

Влтавы, я памятаю, як Пэтэр сказаў: «Гэтыя чэхі могуць цудоўна размяркоўваць зычныя ў сваёй мове», ён сказаў: «Я люблю Прагу», што мяне здзівіла. Я спытала: «Чаму ты любіш Прагу?», ён адказаў: «Чаму ты пытаеш?», я моцна сціскала ягоную руку. Я думаю, мы тады ня верылі словам, мы хацелі, каб за нас гаварыла нешта іншае, але што? Влтава, рэчка, зімовая халадэча, карагод промняў ад ліхтароў, які з'яўляўся, калі прымружыць вочы, усё гэта і ўсе пытанні без адказаў, усе высновы без пытанняў, мы былі разам, заўтра ўжо ня будзем, больш не было чаго сказаць. Я так думала. Я ня ўпэўненая, ці думаю зараз так сама. Мы блукалі па вуліцах пакуль нам ня стала халодна, мы пілі піва і гарбату ў нейкай чэшскай рэстарацыі, у якой я, схадзіўшы ў прыбіральню, доўга не магла знайсці Пэтэра, настолькі мала ён адрозніваўся ад іншых. Чэхі сядзелі ціха адно каля аднаго, здавалася, Новы год ня вельмі важны для іх. Толькі а палове на дванаццатую адчулася лёгкае хваляванне, некаторыя разлічыліся і сышлі, я б хацела даведацца, куды. Недзе апоўначы мы стаялі на нейкім мосце цераз Влтаву, у нас не было шампанскага, ракетаў і гадзінніка. Мы былі паміж гадамі, непрымацаваныя, недзе, потым выбухнулі ракеты над Градшынам, і ўсе вакол нас абдымаліся, мы таксама абняліся. «Шчаслівага Новага году, Пэтэр. Усяго найлепшага. Усё будзе добра, патрэбны толькі час, і не сумуй, досыць таго, што сумую я». «І табе ўсяго найлепшага», — сказаў Пэтэр. Каля першай гадзіны мы пайшлі назад, каляровая папера ад навагодніх выбухаў пафарбавала снег на ўскрайку дарогі ў чырвоны і блакітны колер, мае рукі былі халоднымі, ногі таксама, я стамілася, я ведала, заўтра я паеду назад, дадому, Новы год мінуў, перажыты. Кватэра была перагрэтая, Міраслаў ляжаў у ванне, Міха сядзеў на канапе з папяровай шапачкай на галаве і глядзеў тэлевізар, Сары не было. На падлозе ляжала бруднае канфеці. Мы падселі да Міхі і чокнуліся гарэлкай, так, між іншым, «шчаслівага Новага году», я зрабіла маленькі глыточак, які яшчэ доўга гарэў на языку. У ванне пляскаўся Міраслаў, у тэлевізары танчыў чэшскі балет перад старой марской кулісай. Міха ціхенька напяваў сам сабе, адсутна, непахісна, на ягонай левай руцэ блішчэў маленькі металічны пярсцёнак. «Дзе Сара?» — спытаў Пэтэр. «На дварэ, запускае свае ракеты, — адказаў Міха. — А дзе вы былі?» Міраслаў прабег перад намі ў халаце. Ракеты па чарзе выбухалі ў начным небе, аддаленыя адна ад адной. Мы ўтраіх сядзелі на канапе і глядзелі тэлевізар, час ад часу Міха казаў нешта кшталту: «Ну вось і мінула гадзіна», мы елі арахіс, чыпсы, бананы, карамелькі і салёныя агуркі, а потым я паднялася і сказала: «Дабранач».

Калі я апошні раз ездзіла з Якабам у вёску, мы спыніліся на запраўцы на вясковай дарозе, таму што мне трэба было ў прыбіральню. Я выйшла з машыны і спытала, ці ня трэба нечага ўзяць, ён адказаў: «Так, шакаладку». Я ўвайшла на запраўку, тоўстая запраўшчыца не павіталася са мной і ўзяла адну марку за карыстанне прыбіральняй, яна спытала: «А яму ня трэба?», гэта насмяшыла мяне, я адказала: «Не, ня трэба». Я набыла шакаладку. Калі я вярталася з прыбіральні, тоўстая запраўшчыца стаяла ля адзінай калонкі, склаўшы рукі перад сабой і каменным тварам, Якаб ад'ехаў бліжэй да выезду і выйшаў з машыны, цяпер ён абапіраўся на адчыненыя дзверы машыны і глядзеў на дарогу. Я ішла да яго і адчувала позірк запраўшчыцы на маёй спіне. Я бачыла тое, што і яна — машыну з расчыненымі дзвярыма, мужчыну, які чакае, жанчыну, жанчына сядае на пярэдняе сядзенне, ён таксама садзіцца ў машыну, дзверы хлопаюць, ён ціснe на газ, яны з'язджаюць, машына аддаляецца, у хуткім часе яе ўжо не відаць зусім. У рэшце рэшт гэта быў адзіны момант, калі я адчувала сябе і Якаба — у гэтым позірку запраўшчыцы на старой запраўцы ля вясковай дарогі.

Некалі ў першыя гадзіны новага году ў Празе я прачнулася. Я прачнулася і пэўны час ня ведала, дзе я, пакой быў цёмным, я чула дыханне нейкага іншага чалавека, глыбокае і спакойнае. Неба за вакном было чорным, ні зорак, ні месяца. Я села. Каля майго ложку, на падлозе, скруціўшыся як дзіця, спаў Пэтэр у спальным мяшку, ягоная галава ляжала на далонях. Недзе здалёк я чула ціхія галасы і музыку. Я паднялася, падлога была халодная, дошкі рыпелі, я ні ў якім выпадку не хацела разбудзіць Пэтэра, інакш мне давялося б прасіць яго легчы са мной на гэты вузкі ложак, падлога была занадта халодная. Я на дыбачках ішла праз пустыя пакоі, дзверы былі адчыненыя, толькі апошнія, ў пакой Міраслава былі зачыненыя, праз шчыліну падала зялёнае святло. Я выпіла на кухні шклянку вады з-пад крану, вада мела металічны і горкі прысмак, я вельмі хацела піць і піла занадта хутка, мой страўнік здрыгануўся. Я падумала, можа, я сумую па дому, можа, гэта смутак, можа, я прысніла нешта кепскае,

а потым я падумала, што Лукас, які ніколі не хацеў размаўляць пра каханне, ўсё ж аднойчы сказаў, што каханне — гэта гвалт, ці нешта такое. Я паставіла шклянку ў мойку, прайшла па калідоры і асцярожна адчыніла дзверы ў пакой Міраслава. Зялёнае святло сыходзіла ад тэлевізара, галасы і музыка таксама, Міраслаў сядзеў у фатэлі сярод шалупіння ад арахісу, ён ня спаў і глядзеў на мяне, нібыта чакаў. Ён быў адзін, Сара і Міха недзе зніклі, магчыма, і Пэтэр не ляжаў на падлозе ля таго ложка ў іншым баку кватэры. Я спынілася на парозе, глыбока ўдыхала і выдыхала, нібы хацела запомніць гэты пах і разам з пахам гэты стан, гэты пакой, зялёны, як акварыюм, поўны дыму і нерэальнасці, непатрэбныя рэчы ў ім, канапа, стол, кніжная паліца, шклянкі і пляшкі, каменне з Волатавых гораў, фатаграфіі ў рамках, сухія расліны, Міраслаў у сваім фатэлі, постаць бяз костак і гуку, а таксама я недзе там, ў нейкую іншую ноч, і погляды паміж мной і Міраславам, погляд ад мяне да яго і ад яго да мяне, вось так мы будзем сядзець, заўсёды і заўсёды. «Хочаш, скажу табе, — сказаў Міраслаў і ягоны голас гучаў на дзіва ясна, — хочаш скажу табе, як будзе сумна па-чэшску?» «Так, — адказала я, — канечне, хачу». «Ну, — сказаў Міраслаў, і хоць пры гэтым ён не варушыўся, адлегласць паміж намі нібы скарацілася, — *smutna. smutna* — гэта *сумна*».

Якаб пытае: «А потым?» Зараз адзінаццатая гадзіна вечара, мы даелі кітайскую ежу, я ела мала, але шмат гаварыла, Якаб нічога не заўважыў. Ён запальвае цыгарэту і перадае яе мне, жэст, які мусіць шмат значыць. Ён пытае: «А потым? Што было потым?» Я бяру цыгарэту і наліваю сабе яшчэ адзін кубак гарбаты, мы ўсё яшчэ сядзім на падлозе, становішча, у якім зручна будзе цалавацца і дакранацца адно да аднаго. У пакоі цёпла, звонку халодна, яшчэ два тыдні да Новага году. Я адказваю: «Потым не было нічога. Наступным ранкам я паехала назад у Берлін. Пэтэр адвёз мяне на цягнік. Ён застаўся яшчэ, ён вярнуўся праз два дні на машыне з Сарай і Міхам». Якаб пасміхаецца з разуменнем. Пэўны час ён маўчыць, ён разважае над расказаным. Я ведаю, што ён хутка запытаецца, чым цяпер займаецца Пэтэр, дзе ён і як, Міха і Сара, ці заручоныя яны яшчэ? І ведаю, што хачу адказаць. Пэтэр сядзіць на Грэльштрасэ ў сваім прыгожым пакоі з відам на каштаны, платаны, у ягоным халадзільніку заўсёды ёсць піва і пляшка гарэлкі. Калі б я ні зайшла, ён адчыняе мне дзверы, і я саджуся побач з ім на канапу, трымаю яго за руку, кладу галаву яму на плячо. Я думаю: «Ты мусіш застацца», але не застаюся. Сара і Міха разышліся праз шэсць месяцаў пасля таго Новага году, Сара цяпер жыве з нейкім адвакатам на Курфюрстэндаме, Міха ў ліпені выпаў з вакна на другім паверсе і ледзь выжыў пасля гэтага падзення. Цяпер ён зусім іншы і кажа, што ўжо памёр і часу больш няма, і гэта яго не засмучае, не. Ці іншая гісторыя, таксама праўдзівая: ранкам у траўні Сара і Міха абрабавалі філіял «Нямецкага банку» у Райнікэндорф, потым тры месяцы не выходзілі з кватэры, а ў верасні разам з Пэтэрам паехалі ў Паўднёвую Амерыку, адтуль яны дасылалі лісты і пасылкі з кавай, гарэлкай і цукровым трыснягом. Цяпер я смяюся. Якаб глядзіць на мяне і спакойна пытае: «Чаго ты смяешся? А чым яны цяпер займаюцца — Пэтэр, Сара і Міха?» Я раблю здзіўлены твар. Я хачу сказаць: «У кожнай гісторыі свой канец». Я хачу сказаць, што нашая гісторыя таксама будзе мець свой канец і што я ведаю, які, я хачу спытаць у яго, ці хоча ён пачуць гэта, я б вельмі хацела распавесці яму. Ён выцягвае ногі і сядае крыху інакш, бліжэй да мяне, прыкладна праз тры з паловай хвіліны ён дакранецца да мяне. Можа, ён скажа: «Кажы ўжо». Можа, я адкажу: «Я не магу перастаць уяўляць сабе будучыню, Якаб. Я не магу перастаць думаць, што я некалі, можа ўжо хутка, буду распавядаць камусьці наступную гісторыю, гісторыю пра цябе». Ён уздыхае і паціскае плячыма. Потым ён глядзіць на мяне сваімі карымі вачыма, яны крыху завялікія, адкрытыя і няпэўныя адначасова, ён хутка задасць адно з тых пытанняў, на якія я ніколі ня ведаю адказу, пытанне, якое яго забаўляе: «Што табе больш падабаецца: пацалунак у патыліцу ці ўкус за шыю?» Я б хацела, каб ён не рабіў так. Я б хацела, каб ён сышоў. Ён сыдзе, але ня зараз.

*Пераклала зь нямецкай мовы Натальля Бойка паводле кнігі Judith Hermann, Nichts als Gespenster, Fischer Taschenbuch Verlag, Frankfurt am Main, 2004.*

# АПОВЕД ПРА ТОЕ, ЯК МОЙ ДЗЕД-ВЕТЭРАН ЗАКАЛОЎ ФАШЫСТОЎСКУЮ СВІННЮ

Мой дзед ня проста ціхі пенсіянер, які глядзіць БТ і тлуміць мне галаву ўвечары, не-е-е, мой дзед ветэран вайны. Ён змагаўся з фашыстамі і вызваляў Эўропу ад карычневай чумы. Ён, матка боска, герой-вызваліцель у трыко колеру хакі з падшытым каўнерыкам. На жаль, мой дзед ня надта любіць распавядаць пра тую вайну. «А вось мы ў саракавым-та годзе…» або «А вось мы пасля вайны-та…» — пра гэта ён заўжды баўбатаць гатовы. А каб пра бойкі, страляніну, трупы і танкі — пра гэта зрэдку, дый то, калі добранька так нажарэцца. Але больш за ўсё мой дзед ня любіць распавядаць пра тое, як закалоў фашыста. Закалоў штыком, як у першую сусветную ў штыкавых нападах. Прабіў наскрозь і пакінуў падыхаць на зямлі гэтую фашыстоўскую брыду. Проста капец, як цікава. Але, глядзі ж ты, ня любіць мой дзед распавядаць пра гэта, хоць ты трэсні. Вось такі ніцы мой дзед. А было там усё так. Нашы падняліся ў атаку. Далучыць штыкі! Ур-р-р-ра-а-а! За Радзіму, за Сталіна! — і ўсё такое. Фашысты, ня будзь дурнямі, пастралялі трохі дый далі ад нашых дзёру. Калі мой дзед дабег да фашыстоўскага акопа, тамака заставаўся толькі адзін тоўсты і сапрэлы фашыст. Дый той усё хацеў выпаўзці з гэтага акопа, спрабуючы перакінуць сваю тоўстую нагу праз бруствер. Раней, яшчэ да нападу, камандзір загадаў майму дзеду эканоміць патроны, і мой дзед, ня доўга думаючы, уторкнуў штык у фашыста. У спіну, трохі ніжэй за правую лапатку. Фашыст завішчаў як свіння. Ён пачаў круціцца, выгінацца і дзіка гарлапаніць, але мой дзед не адыходзіў і засаджваў штык усё глыбей і глыбей. Фашыст пішчэў, пырскаў слінай і матляў галавой. Адзін раз ён так стромка вывернуў шыю, што ягоны твар завярнуўся назад, за спіну, да майго дзеда. І тады мой дзед убачыў вочы фашыста. Гэта былі вочы свінні, якую ўсё ейнае свядомае жыццё ўдосталь кармілі, паілі, мылі і трымалі ў цеплыні, казалі ёй, што яна лепшая свіння ў свеце, казалі пра яе перавагу над іншымі свіннямі, рабілі для яе ўсё, што яна пажадае, далі ёй добрую адукацыю, хату ў прэстыжным раёне, машыну, келіх халоднага элю ўвечары. І вось у адзін цудоўны дзень гэтую свінню ўзялі і закалолі, пусцілі на мяса, злупілі скуру і павесілі на гак. І вось яна вісіць на гаку і ахуявае. Гамон, завошта!? Вочы яе поўныя шчырага неразумення, здзіўлення і крыўды. Чаму я?! Вось такімі ж былі вочы таго фашыста, якога закалоў мой дзед. Капец, праўда? Мой дзед глядзеў у гэтыя вочы некалькі секунд, а потым плюнуў і адвёў позірк. А фашыст працягваў верашчаць і біцца як рыба на лёдзе. Мой дзед усё напіраў і напіраў на вінтоўку, ды так, што штык прайшоў скрозь фашыста і ўторкнуўся ў зямлю. Фашыст апынуўся прышпіленым да зямлі як матыль да кардонкі. Побач прабягаў жаўнер з палка майго дзеда, паглядзеў на гэтую справу, харкнуў і стрэліў фашысту ў галаву. Ва ўпор з вінтоўкі Мосіна ўзору 1891/1930 гг., з калібрам патрону 7,62 мм. Галава фашыста разляцелася на шматкі, як саспелы гарбуз, запэцкаўшы гімнасцёрку майго дзеда мазгамі і крывёй. Мой дзед выцягнуў з фашыста штык і пабег далей у напад. Пасля бою яму давялося доўга адмываць гімнасцёрку ад рэштак фашыстоўскай свінні. Можа таму ён так ня любіць распавядаць пра тое, як закалоў фашыста. Праўду кажучы, мой дзед наогул пра гэта ніколі не распавядаў.

# СКОКІ НА КАСЦЯХ

Прадзіраючыся праз нізкі густы алешнік, адмахваючыся ад цяжкой хмары камароў, ён адчуваў, як стукае кроў у скронях, як непрыемна хлюпае вада ў дзіравых ботах. Ад кавалка хлеба амаль нічога не засталося. Гэта засмучала. Яшчэ больш засмучала тое, што ўжо трэці дзень ён блукае па гэтым чортавым лесе, але пакуль так і не знайшоў ніякага следу партызан. Мікалай добра разумеў, што іншага выйсця ў яго не было. Куды вяртацца, калі праклятыя фашысты, сатанінскае племя, у адзін момант адабралі ўсё, дзеля чаго варта было жыць? Што рабіць цяпер на чорным папялішчы, дзе толькі страшныя крумкачы весела бавяць свой час? І што, акрамя помсты, зможа цяпер затушыць пажар у душы? «Дзе ж ты быў раней?— пыталася сумленне. — Чаму радавалася тваё нікчымнае сэрца, калі па стане здароўя цябе не ўзялі на фронт?» Ён не ведаў, што адказаць. Паспрабаваў адмахнуцца, як ад той жамяры. Не атрымалася.

Стройныя самотныя бярозкі, падобныя да прыгажунь, чые нарачоныя гінуць пад кулямі, перахапілі, нарэшце, яго з чэпкіх лап алешын. Адарылі сухім паветрам, сонечнымі промнямі. Нават камары пачуваліся няўтульна сярод іх далікатнага хараства. Прагнаўшы гадзюку, Мікалай разлёгся на палянцы, аслабелымі пальцамі кідаючы ў рот буйныя чарніцы. Зусім побач зязюля праклінала сябе за няўдалае мацярынства. Чорны дрозд насвістваў на нябачнай флейце знаёмыя з дзяцінства мелодыі. Мурашкі цягнулі тлустага пажаўцелага вусеня, і той больш не супраціўляўся. Захацелася тут застацца і забыцца навек на тую злавесную завесу, што вісіць цяпер над кожным. Вайна? Якая яшчэ вайна, калі навокал так чароўна пахне ляснымі краскамі, някошанай травой? Але сэрца балюча кальнула — перад вачыма зноў паўстаў той бясконцы жах. Ён ніколі не паблякне, пакуль не адбудзецца адкупленне. Мікалай амаль бачыў, як разлятаецца на дробныя гнойныя кавалкі шэрая галава эсэсаўца, што рабіў падпал. Ён падняўся і пацягнуў далей сцёртыя да крывавых мазалёў ногі. Ніколі яшчэ яны яго не заводзілі ў такі гушчар.

Чапляючыся за карэнне высачэзных елак, мармычучы сабе пад нос недрукаваныя словы, ён адчуў-такі слабы водар дыму. І, быццам ганчак, пабег на яго. Калі сонца з апошняй моцы прабівалася праз цёмныя галіны аднекуль знізу, а лапікі неба над галавою сталі залатога колеру, ён выйшаў да лагеру, настолькі добра замаскіраванага, што, каб не дымок, ніколі не атрымалася б яго знайсці.

— Стой, хто ідзе? — зрэагавалі вельмі хутка на яго з'яўленне.

— Паслухайце, не страляйце, я свой!

— Па чым нам ведаць? — голас быў па-ранейшаму вельмі суворы. Трэба было добра падумаць, чым яго можна змякчыць.

— Я Мікола з Чырвонага Бальшавіку.

— Ды хоць з зялёнага. Не ведаю я ніякіх Мікол. Лепш кажы, чаго трэба, Мікола.

— Няўжо не чулі пра такую вёску? А я да вас не з пустымі рукамі, зброю прыхапіў.

Яму вельмі пашэнціла, што дзед Васіль паспеў паведаміць, дзе хаваў сваю дубальтоўку. Дзеду Васілю ўсё адно яна больш не патрэбна. Яго, мусіць, цалкам ужо абляпілі чарвякі. Там, у канаве за плотам.

— Ты гэта... Зброю апусці.

— Ды я яе і не падымаў. Праўда. Чаму вы мне не верыце?

— Ага, вам вер. Кожнаму пацуку-шпіёну. Ідзі давай.

Мікалай адчуў, як халодная руля ўзварушыла валасы на патыліцы. Але нават не ўсхваляваўся. Столькі было радасці ад дасягнутай мэты, што нічога кепскага здарыцца проста не магло. Вядома ж, зараз усё выявіцца на яго карысць.

Побач з вогнішчам сядзела восем чалавек. Ці то цёплыяваскі агню рабілі іх падобнымі адзін да аднаго, ці то сапраўды паміж імі не было аніякіх адрозненняў. Барадатыя, з

насунутымі на вочы бровамі, яны моўчкі пазіралі на кацёл, дзе нешта музычна булькала. Узнялі вочы на яго. Накіравалі запытальныя позіркі.

— Глядзі, Сямёнавіч, каго прывёў. Кажа, хоча з намі ваяваць.

Сяменавіч яшчэ раз падазрона агледзеў госця.

— А што, няхай застаецца, — і дадаў, — мы яго якраз прывяжам да гэтай хваіны. Пакуль цалкам не праверым.

— Што ж гэта вы, хлопцы? Я ж свой... — Мікола адчуў, як нешта ўсярэдзіне пачало напружвацца. «Я ж не ваяка. Я не ведаю, як сябе варта паводзіць». І калі новыя знаёмыя ўзялі вяроўкі і збіраліся ажыццявіць задуманае, з'явілася яна. Цяжка было паверыць, што ёй так будзе пасаваць зеленавата-іржавы ваенны колер. Так падкрэсліваць яе вытанчаны стан.

— Ну і што за галубок да нас завітаў?

— Серафіма!

— Мікола, гэта што, ты?

— А ты як думала?

— Адпусціце яго, я яго ведаю. Ён з маёй вёскі!

— Ага, таго ты таксама ведала, той быў таксама з тваёй вёскі, — незадаволена бурчаў Сямёнавіч, скручваючы больш не патрэбную вяроўку.

— Серафіма, ты нават уявіць сабе не можаш, наколькі я рады цябе бачыць.

— Што з вёскай?

— Няма нашай вёскі, Сіма... Адно папялішча. І хатка фельчара, дзе яны звілі свой вужатнік. Я збіраюся знішчыць яго ў бліжэйшыя дні.

— Цябе пачула — і таксама захацелася, — гнеўна насупіла яна свой бялюткі лоб. У рудых ён заўсёды вельмі белы.

— Сіма, вячэраць ідзі, пакінь свайго падапечнага, — данёсся да іх бадзёры голас з боку вогнішча.

— Вячэра. Ты, мусіць, галодны як воўк.

— Ага, яшчэ як, — Мікалай усміхнуўся ўпершыню за некалькі тыдняў.

Але брыдкаваты мужычок, падобны на ільсністую асіную лічынку, што спрабавала схаваць сваю відавочную сутнасць пад барадой, раптам запярэчыў:

— А табе мы не прапануем, у нас не пункт міласэрнасці.

— Ой, хопіць табе, Казік. Можна падумаць, ты гэтага лася заваліў і прыцягнуў мех з крупамі.

— Як сабе хочаш, але калі знойдзеш сябе пад раніцу з перарэзаным горлам, вінаваць толькі сябе. Я папярэдзіў.

— Ён у нас надта асцярожны. Але гэта добра, калі б не такія, як ён, гніць бы нам даўно пад гэтымі дрэвамі. Жукоў-мертваедаў ды ліс карміць.

Мікалай больш не слухаў, адчуваючы кожны сантыметр, які пераадольваў цёплы смачны камяк па яго страваводу.

— А ты добра гатуеш, — звярнуўся ён да Серафімы, калі міска цалкам апусцела. — Думаю, шчасце будзе такую жонку мець.

Яна задаволена прыўзняла краёчкі вуснаў:

— Вось пераможам, і абяцаю, тады я дакладна твая. Уся, цалкам. Уздоўж і ўпоперак. У любой плоскасці...

Ды зноў хрыпаты голас Сямёнавіча перарваў іх еднасць:

— За дровамі яго паслаць, ці што? — меланхалічна раздумваў ён услых, грэючы бурыя рукі над зыркім вуголлем. — Намілуецеся яшчэ. Зрабі хоць нешта карыснае, калі так хочаш дапамагчы.

Калі полымя зноў разгарэлася, ён злавіў на сабе люты позірк аднаго з партызан, бялявага і непрыкметнага, з рэдзенькай казлінай барадой. І чым меншая была адлегласць паміж ім і Серафімай, тым большай нянавісцю напаўняўся позірк. Калі б так моцна не хацелася спаць, Мікалай бы, мусіць, вельмі засмуціўся такому дзіўнаму, нязветліваму прыёму. Нават зброю адабралі.

— Усё будзе добра. Праверка — звычайны парадак. Добрай ночы, нас наперадзе чакаюць вялікія справы, — суцешыла яна, быццам алеем рану паліла. Праз некаторы час ён, аднак, прачнуўся, акінуў позіркам нізкія зоры. Побач з ім была нейкая валтузня.

— Ляжы ціха, — пачуў ён шэпт свайго сённяшняга канваіра. Той на манер павука аблытваў яго ногі вяроўкай.

## II

Раніца забіла па цвіку ў кожнае вока. Страсла жаўтаватую хвою і насякомых. Вяроўкі на нагах не было. Відаць, праверка ажыццявілася, бо ўсе навокал выпраменьвалі прыязнасць.

— Як спалася? — клапатліва запыталася Серафіма.

— Нічога. Калі пойдзем з ворагам разбірацца?

Яна засмяялася:

— Ну не так адразу. Падрыхтавацца ж трэба.

— Але прайшоў месяц! Я зброю ў руках не трымаў!

— Ты нешта блытаеш. Ты ж у нас з учарашняга дня.

— Вось, глядзі! — працягнуў Мікалай ёй галінку, спярэшчаную белымі насечкамі. Я спецыяльна адзначаў кожны свой дзень тут, бо штодзень у вас усё паўтараецца. Няцяжка і сапраўды заблытацца.

— Месяц — вельмі мала для такога сур'ёзнага плану, — толькі пахітала галавой яна.

— Але які план? Раскажы ў рэшце рэшт і мне.

— Сямёнавіч не дазваляе. А чаму ты хвалюешся? Ты думаеш выжыць? Смех адзін... Жыві, пакуль ёсць магчымасць.

— Не магу! Сэрца патрабуе помсты. Кожную ноч мне сніцца тое пякельнае полымя.

Яна хмыкнула:

— Трэба менш глядзець на вогнішча вечарамі. Думаеш, мне лепей? У мяне яны адабралі сям'ю!

— Ха, сям'ю! Ты ведаеш, што яны адабралі ў мяне? Усё загінула! Разумееш, усё! Дваццаць гадоў няспыннай працы. Я быў так блізка... І няхай той вечны рухавік... Яго лёгка будзе зноў сабраць. Але машыну часу сапраўды шкада. Пакуль вы толькі будавалі светлую будучыню, я мог бы папросту ў яе сігануць. Я і зараз бачу, як курчацца ў агні іх крохкія вантобы. Нібыта яны мае. Я ж ім тлумачыў... Быдла неадукаванае!

Серафіма нічога на гэта не сказала, папрасіўшы замест выцягнуць са спіны кляшча.

— Ведаеш, як мы зажывем, калі пераможам! — дакрануўся ён да яе гладкай спіны. — Я пабудую тэлепартатар. Мы будзем падарожнічаць ва ўсе кропкі Сусвету...

Але раптам з хмызоў вытыркнулася пыса казлабародага.

— Нешта я не разумею, Сіма, — загырчэў той. — Гэта ж мой абавязак — выцягваць з цябе кляшчоў! Значыць, усё? Зміцер больш не патрэбны?

— Калі так любіш гэта рабіць, папрасі ў Казіка. Ён проста кішыць кляшчамі, — спакойна адказала яна. Але Мікалай уставіў свае пяць капеек:

— Па-мойму, ён раўнуе.

— А па-мойму, камусьці надышоў час лячыць галаву.

Нешта, аднак, насцярожвала. Нешта было не так. Гэтыя партызаны паводзілі сябе дзіўна. Ніколі не было відаць, што тыя размаўляюць паміж сабой. Сядзяць, занурыўшыся ў свае бароды дзень пры дні. І, здараецца, нават не рухаюцца. Мікола спрабаваў пранізаць аднаго позіркам. Той прыняў позірк сваімі халоднымі вачыма рэптыліі і ў адказ зацягнуў: «Ой, бяро-озы ды со-о-сны...» Настолькі змярцвела і безэмацыйна, што ад яго голасу папаўзлі мурашкі па ўсім целе.

На вячэру зноў была густая тлустая каша. Нечакана адзін кавалак мяса апынуўся неяк добра структураваным. Калі Мікалай у прыцемках яго разгледзеў, мутная млосць адразу ж схапіла за горла.

— Што яшчэ гэта такое?! — заверашчаў ён.

— Ну, палец. Звычайны разварaны мезенец, — як заўжды абыякава адказала Серафіма. Твары астатніх яшчэ больш пазмрачнелі.

— Я не сляпы! Вы мне лепш растлумачце, што ён робіць у маёй вячэры!

— Ах, проста тут такая справа... У Віталя было моцнае раненне. Яго палец трымаўся на кавалачку скуры. Мы яму казалі, каб адарваў, бо ўсё адно не прыжывецца. Але, як бачыш, ён і не думаў нас паслухаць. Мяшаў ежу, і той сам адваліўся. Пакажы яму, Віталь.

— Вы што, зусім мяне за дурня лічыце? Усе ў яго пальцы. Ён жа яго проста загнуў!

— Тады не ведаю. Містыка нейкая, — пацiснула яна вузкімі плечыкамі. — Ты што, больш не будзеш? Хлопцам аддай.

Але Мікола не змог вярнуць сабе спакой, нават добра ачысціўшы страўнік — з усіх бакоў яго акружылі воўчыя пысы, шэрыя і бязлітасныя.

— Паглядзі! — збялелы, як кавалак вапняку, прашаптаў ён, торгнуўшы за руку Серафіму. Але тая нявінна ўскінула вочкі:

— На што?

— Яны не людзі, няўжо не бачыш? У іх звярыныя пашчы.

— Я ж цябе папярэджвала: толькі лыжку! Каб глісты перадохлі. Ты што, увесь мухаморавы адвар выжлукціў?

— Нічога я не піў, — дадаў ён дрыжачым голасам. Да зброі, пэўна, не дабрацца. Бегчы запозна. Іх вочы ўсё ярчэй загараюцца бязлітасным жоўтым святлом.

— Сіма, нам трэба адсюль выбірацца. Яны набліжаюцца. Можаш схапіць маю дубальтоўку?

— Ну што ты зноў выдумляеш? Ідзі лепш праспіся, — у яе гаворцы з'явіліся злосныя ноткі. Мікола вырашыў спадзявацца толькі на сябе. Ён схапіў галавешку, расквечаную чырвоным на адным канцы. Вывернуўся. Заехаў самаму спрытнаму паміж вачэй. Той пранізліва заскавытаў і стаў на чатыры лапы. Астатнія зрабілі тое ж самае. Відаць, звер апынуўся Сямёнавічам. Яшчэ некалькі атрымалі хуткі пачастунак кулямі.

— Што ты робіш, вар'ят пракляты! — павісла Серафіма на яго спіне. Ён скінуў яе і падстрэліў яшчэ двух. Сямёнавіч з вогненнай каронай між вострых вушэй паспрабаваў кінуцца на руку, але не пацэліў, асляплены вадаспадам іскраў са сваёй поўсці. Мікалай паклаў яго з двух стрэлаў. Мозг апошняй пачвары тасама хутка зашыпеў, трапіўшы на гарачае вуголле.

З перакошаным тварам ён, нарэшце, павярнуўся да Серафімы:

— Ты такая ж, падла? Прызнавайся!

— Іуда. Давай, страляй у мяне, чортаў здраднік! — прашалясцела яна сваімі станчэлымі вуснамі. Ён адразу ж памякчэў:

— Сіма, прыглядзіся. Яны ж не партызаны. Яны ж, відаць, спецыяльна прымалі іх воблік, каб заманьваць да сябе людзей. Як глыбакаводная рыбіна, што заманьвае ахвяр проста ў свой неабсяжны рот. Пойдзем, пойдзем ад іх хутчэй. Знойдзем сапраўдных. Мусяць жа яны быць. Мы не маем права па дурасці губляць жыццё.

Яна скінула маску абыякавасці, агаліла напружаны твар:

— Ну хто цябе прасіў гэта рабіць? Усё маё заданне пайшло да чорта! Я больш як паўгода на яго патрацІла. Атрымала давер. Уяўляеш, як мне даводзілася рызыкаваць? А якая б была дапамога, калі б у мяне атрымалася іх завербаваць. Ідэальныя салдаты. Пройдуць скрозь, дзе не здолее ні адзін чалавек. Хто будзе ў вайну чапаць ваўкоў?

— Але ж яны тачылі на мяне зубы, як я мусіў адрэагаваць?

— Ты ж усё адно збіраўся ахвяраваць жыццём. А так было б ад цябе значна болей карысці.

— Значыць, нават ты ў мяне не верыш? Я і сам пайду. Заставайся са сваім звярынцам, дакладней, яго трупамі. Краем вока ён заўважыў, як лапы мерцвякоў пачалі падрыгваць. І падрыгвалі ўсё мацней. Ён яшчэ крышачку прыбіў іх да зямлі кулямі і кінуўся ў карчы.

## III

Яшчэ не старое, не сапсаванае жыццё. Шкада яго. Адасоблены стан. Ніякага выбару. Ён смела расхінуў дзверы фельчарскай хаткі і навёў зброю на тлустага — першага ворага. У таго ад здзіўлення яешня звалілася з відэльца і павісла на падбароддзі.

«Ну чаму ты стаіш? Не марудзь!» — казаў ён сам сабе. Цела не слухалася. Усё было так эфемерна, так нерэальна. Хацелася заплюшчыць вочы. Серафіма сядзела побач з лупатым фрыцам і дасылала ўсмешкі. Ён нават не адчуў, як чыясьці спрытная рука выхапіла зброю.

— Як табе вайна? Табе не падабаецца вайна? — драпежна выскаліла яна свае бялюткія зубкі, стоячы ад яго на адлегласці разам з усім. — А ведаеш, у чым твая галоўная праблема? Ты вечны няўдачнік! Чуеш? Нават з помстай у цябе ні храна не атрымалася. Заўжды трапляеш у самае кепскае. Даруй, але гэта твой лёс. Мне ніяк табе не дапамагчы.

Нябёсы ўспыхнулі белым, каб адразу пачарнець больш, чым чорная дзірка. Накідаўшы досыць галін на месцы яго былога дома, яны зладзілі хуткую крэмацыю. «І так скрозь смярдзіць». Нешта палілі, нешта глыталі. Падкінулі дроў. Пачалі вадзіць карагоды. Свята ў самым пачатку. Попел узлятае з-пад іхніх цяжкіх ног. Вышэй і вышэй. Косці крышацца, як старая папера. Самая шырокая ўсмешка чэрапа. Навек перамяшаўся з атамамі справы сваіх рук. Знайшоў з імі еднасць. Скокі на касцях, на нікому не патрэбных чалавечых парэштках. Рыпучы грамафон грызе песню за песняй. Дзеля таго, каб зладзіць вечны рухавік, спатрэбіўся слоік ртуці. А машыне часу ледзь хапіла вядра. Ртутных кропелек не відаць з-за попелу. Іх таксічныя выпарэнні нельга пачуць у паветры, прапітаным гарам. Службы дэмеркурызацыі не дачакацца. У поўным складзе яна выехала на фронт.

ДМИТРИЙ КОПЕЙЧИК

# ОСКОЛКИ ПРОЗЫ

## Техно

Эрос и Танатос сливаются в машине. Из машины появляется Бог.

Я разговариваю бомбами. Со мной разговаривают бомбами.

Вокруг разговаривают бомбами.

Адская диалектика. *Динамит — это не ответ. Динамит — это вопрос.*

Из адской машины появляется Бог-карающий.

Трупы — это ответ. Смерть — это ответ. Змея решает загадки.

*— Я решаю все загадки, — сказала змея.*

По ту сторону удовольствия. По ту сторону добра из зла. Нить Ариадны над бездной. Никто не машет рукой с той стороны. Никто не протянет руку с той стороны, чтобы удержать падающего. Заговоренные свиньи падают в космос. Буги раскручивает Землю быстрее, быстрее, еще быстрее, еще быстрее, пожалуйста!

— Я решаю все загадки, — говорит змея.

— Забей и забей, — говорит Буги.

— Забей и вертись, — говорит Буги.

Буги божественен. Буги отождествлен. Буги с Богом. Буги — Бог. Бог — танцующий бог — Шива. Бог карающий и веселящийся. Бог — отец... папа вспомнил молодость, покрасил волосы в красный цвет: «Давай, танцуй!» Быстрее, быстрее, еще быстрее, еще быстрее, пожалуйста!

*— Хэллоу, витаминка, я тебя съем*!

Смерть от того, что подавился витаминкой.

Секс и смерть сливаются в технологии. Эрос и Танатос сливаются в машине. Из машины появляется Бог. Первая машина — это история о Боге, которую нам поведал куст. Инженеры — схоласты, евангелисты, святые отцы. Папа перестал пукать. Пусть пустит погулять по передовой, там, где взрываются бомбы. Поговорить бы с кем-нибудь охота, у меня есть бомба, у меня есть предложение, у меня есть идея, у меня есть, что подать за стол переговоров за стаканчиком водки, КРОМЕ ТОГО...

«...короче, чувак, нахуй тебе это надо?»

борьба каст, классов, цивилизаций, государств, гендеров, пацанов с района — это все хуйня.

на самом деле, человек просто неудовлетворен тем, что не знает, для чего он живет, для кого он живет, для какой цели.

и человека бесит, что он не в зуб ногой...

бедолагу нервирует ощущение, что его дергают за нитки, а он, как бройлерный цыпленок, дергается.

вот человек и пытается отомстить за это другому человеку, подергивая его за нитки, а для научной важности строит социально-политические модели, чтобы врубиться: так что же, мать его, происходит?!!

и когда в мире воцарится утопия, человечество сразу уяснит: какого такого рожна и для какого бога мы здесь! Утопия (да хоть и «анти-»!) — идеальная система, которая будет функционировать вечно, охренительный социально-политический и экономический «перпетум мобиле», когда «из жопы — прямо в рот», и — «малиной пахнет».

построй работающую модель ЗДЕСЬ, и поймешь, что происходит ТАМ. Правильный ответ — он всегда правильный и везде, для всех миров, всех утопий. И на Марсе яблони цветут так же, как где-нибудь в Воронеже, и в Африке доллар тоже зеленый. Мы гоняем мышей по лабиринтам, а сами носимся по социальным лабиринтам, и мы уже в мировых сетях, и сами являемся частью лабиринта, а тогда — какой смысл говорить о свободе и несвободе, о Я и не-Я, иметь или быть? — мы есть, нас — есть...

мы у нас есть... нас, увы, нет.

хотя это больше смахивает на антиутопию, мне кажется...

Панки, хой! No future! Проглоти гранату и взорвись!

Насчет роллов: во-первых, тебе нужно купить циновку, без нее роллы не скрутишь, во-вторых, купи нори (это водоросли сухие), затем купи специальный рис для суши, он продается в специализированных магазинах и очень дорогой; рис нужно варить 700 грамм на 300 грамм воды на слабом огне, скорее, даже не варить, а выпаривать, кастрюля, таким образом, обворачивается сверху фольгой, в которой проделываются маленькие отверстия и выпаривается... короче, это ебалово, и если ни разу не делал, то лучше не берись, ничего не выйдет...

кстати, огурец, авокадо и много-много других вещей, которые привозят из Японии и стоят которые много: икра летучей рыбы, угорь жареный в соусе терияки, сыр «филадельфия», грибы шиитаке... И все это комбинируешь по своему вкусу (креветки, например, лучше всего с авокадо и огурцом комбинировать). Короче, чувак, нахуй тебе это надо?

Буги спрашивает:

— КОРОЧЕ, ЧУВАК, НАХУЙ ТЕБЕ ЭТО НАДО?

Короче, чувак, нахуй тебе это надо?

Когда придет дед-Карачун и... короче, чувак, нахуй тебе это надо? Когда за тобой придет Карачун и укрючит тебя и ты окочуришься... чувак, нахуй тебе это надо?

Буги говорит:

— КОРОЧЕ, ЧУВАК, ДЕЛАЙ РОК-Н-РОЛЛЫ!

## Трата времени

...и ТЫ НЕ выходишь никуда... (невероятный случай выстрела горячей плоти ночью в постели не видно в кого анонимно безразлично спонтанно) ...унылая горечь как немой серый мультфильм моей скользящей во льдах и пламенях непроглядного рая с ранним солнцем сверкающего ада с красными обоями на стенах с красными портьерами между ними и в окнах и в дверях стоит стража... столько долгого белого густого времени прошло с тех пор как мы поняли что выхода отсюда нет и снова прилежно и еще прилежней стали его искать...

и те кто помнят завтра — скажут что мы идем по правильному пути...

а те кто помнят вчера — скажут что мы идем по неизбежному пути...

а те кто просто идут сегодня беспутно и безыскусно спеша шаркая укрывшись от шелеста дней в автоматических шагах добровольно считая их только до одного (автоматическое сужение интересов, походки...) они примут какую-то сторону и будут ее защищать яростно словно они сами все видели треклятые сукины дети обманутые глупцы...

а КАКОЙ же это путь?!

и ТЫ НЕ выходишь никуда столько дней проведя в дороге проходя мимо этой аптеки остался в этом городе непроглядно-невыразительном как наброски во всяком случае до поры — требуй мелочь у проходящих мимо...

важно важно чтобы хватило на завтра важно но и неиспользованное вчера которым

хотелось вмазаться но что-то остановило и провел день бескайфово как и остальные — помнишь? — и оставшиеся дни проведешь... УБЕГАЙ ОТ СКУПЩИКОВ ВРЕМЕНИ! ...(невероятный случай горячей плоти не видно спонтанно быстро и судороги и — безразлично... выстрел одинокий в ночи по... телу растекается слабость... сладко и спать!) ...где твое неиспользованное вчера параноик в поисках утраченной жизни не своей сука с чего ты взял что у тебя что-то было и ты что-то потерял проклятье — требуй мелочь у проходящих мимо — это позволяет тебе решать радикальные жизненные проблемы, хероватая копия самого себя?

## На трассе

Нет духовника, поэтому я использую друзей (некоторых)... Простите меня, друзья! — но я думаю, вы не в обиде. Наркоманы, педерасты, фашисты, шпана... Вам, с большего, на все наплевать, кроме — не закончилась ли выпивка? Поэтому вы такие прекрасные исповедники.

И потому стыдно мне бывает только за лишний пафос и пьяные слезы, но никак не за свою исповедальную навязчивость. За слезы всегда стыдно — они неуместны и контрпродуктивны — делают все несерьезным. А пьяные слезы — это еще и перерасход спиртного.

Нет духовника и не надо. Мне не очень-то нравится облик современных, да и прошлых учителей духа. Мой дух, это как мой хуй. Только я могу исследовать его нервы полностью. И найти главные эрогенные пункты преливания крови, прикосновения переводить в электричество... найти главные точки — БЕЗРАЗЛИЧИЯ — к упорным действиям всех, кому не лень, кому не похрен...

Мозг человека — тоже член; во-первых — внешне подобен головке, во-вторых — его часто дрочат: think-job, сэнькью. Приятно быть импотентом, не обращая внимания на сучьи тоталитарные усилия, висеть... висишь себе... Висеть в пустоте.

Висят, как в порнухе — крупным планом, — анонимные яйца. Они обнаруживают гвозди при непрошенном внезапном прикосновении: они ощериваются потемневшими от времени неровными, но острыми гвоздями. Уколовшись, можно подхватить столбняк... или СПИД. Лучше — больше — и то, и другое.

Повис мозг в пустоте. Так приятно стало, когда я опустошил свой мозг. Думаю не головой, а жопой. Жопа хочет есть, значит — надо есть; жопа хочет сесть, значит — надо сесть. Жопа хочет курить: купим пачку, посидим, покурим, подумаем...

***

— Будда, что ты думаешь о том, как ты стал Буддой под деревом бодхи? Ведь дерево бодхи, как забор, застенок, шкаф, гроб, газетная полоса бодхи — нереальны?

— У нас кончилась еда, Чики-Лаки, и если мы не найдем еду, Лаки-Пуки, то завтра наши жопы не усидят на сцене и, позже, не смогут говорить с антрепренером. А нам завтра надо такую байку затирать перед всей администрацией...

Лепить отмазку. Лепить отмазку... У них ничего на нас нет? Мы без ангажемента, залетные артисты...

Чики-Лаки дрочет Лаки-Пуки, не ожидая вознаграждения от Будды. Будда все возьмет на себя завтра. А еду принесли...

***

Я еду... принесли... покурить... чай... стучат колеса поезда... Стучит в висках. Хам насилует женщину в тамбуре. Можно встать на защиту либо лежать балластом. Я не хочу ему помочь. Крики женщины раздражают. Это нервирует всех пассажиров. Предлагают воспользоваться общим бульбулятором. Отказываюсь. Страшней, чем у привокзальной шлюхи пизду лизать. Теперь — губы в сочащихся липким сладким гноем прыщах. Обсыпало всю нижнюю часть лица. Бриться невозможно. Из прыщей и полузасохших гнойников торчат жесткие трехмиллиметровые волоски щетины. Непроизвольно постоянно расчесы-

ваю челюсть и скулы, разрываю прыщи ногтями, размазываю гной по лицу, по губам. Гной, когда засыхает, покрывает лицо стягивающей кожу крепкой коркой, мышцы нижней части лица немеют, уже не могу открыть рот, с трудом получается разлепить губы — еле-еле, чтобы вставить желтый патрон сигаретного фильтра, я надеялся — горячий чай немного размочит корку гноя, но — нет.

Прикуриваю. В сигарете гашиш. Окровавленная женщина подходит ко мне. Она передвигается, переваливаясь с ноги на ногу, как утка. Ее ночная сорочка задрана так, что я вижу ее развороченную пизду с вывалившимися порванными половыми губами, волосы на лобке слиплись от густой красной субстанции — кровь и еще какие-то выделения, я думаю: почему полы ее сорочки не спадают вниз, как они остаются задранными вопреки силе гравитации? Они удерживаются силой желания. Ее тощие плечи расцарапаны, локти искусаны, кисти рук и рот в крови; губы, подбородок, груди, верхняя часть сорочки в крови и черной рвоте. Окровавленная женщина подходит ко мне и смотрит, белки ее глаз невероятны. Она просит меня зализать ее раны, показывает на развороченную пизду, она хочет, чтобы я вылизал ее, называет «сынок». Это отвратительно. Мне хочется заорать на нее: «Какой я тебе сынок, сука? Ты не моя мать!» Но я не могу открыть рта, поэтому только виновато развожу руками, мычу и показываю на свои залепленные коркой гноя губы. Она понимает, что я не могу ее вылизать и отходит. Я делаю затяжку, пока губы не слиплись окончательно.

Мистические сигналы исходят отовсюду. Они подначивают меня и пытаются о чем-то предупредить. Я понимаю, что все здесь не так, как мне представлялось раньше. Здесь опасно. Я решил покинуть поезд. Ночь, автотрасса, по обеим сторонам непроходимая лесная чаща. В темноте лес кажется огромной живой массой бесформенной плоти. Я слышу адские голоса — смех, вопли, обрывки фраз. Звук идет из недр леса, я понимаю, что там — по обеим сторонам дороги — ад. Я иду по трассе, стараясь не сходить с асфальта на живую землю. Пока я на асфальте, они не могут достать меня, эти демоны, крики и смех которых я слышу. Как в фильме «Трасса 666». Только в фильме зло было сосредоточено на дороге, и на нее нельзя было ступать. У меня все наоборот: асфальтовая полоса шоссе — единственное безопасное место, зло — вокруг, им пропитана вся природа, все живое.

Только мертвые, сделанные человеком объекты — нейтральны, только на них я могу полагаться. И в этом смысле они — добро. Все искусственное, рукотворное — дружественно, все природное, натуральное — враждебно. Я иду по трассе и пытаюсь читать «Отче наш», но это плохо получается слипшимися губами. Все — одно к одному. Я знаю, что под коркой гноя вырастает соединительная ткань. Скоро она полностью покроет губы, и от моего рта останется только рубец. Что тогда? Тогда вместо меня начнет действовать жопа. Она будет есть, курить, говорить, принимать решения… Я знаю. Я читал об этом раньше… Тогда я сяду под дорожным указателем бодхи, как однажды сделал Будда. Только он сел под деревом: тогда природа была дружественна человеку, не было ада, не было Сатаны-демиурга, создавшего наш мир, чтобы терзать людей, доводить души до помешательства, психотропы и электростимуляция, психические атаки, разрушение личности, подавление воли, а потом душу можно брать голыми руками, потому что когда жопа становится главнее головы, наступает пиздец. Теперь я понял, почему Будда сел на жопу и просидел так сорок лет — чтобы жопа, по дурости своей, не села на кол… потому что тогда — на кол сел бы и Будда.

***

Я иду по трассе, «Отче наш» не получается, редкие машины едут задом наперед в обратную сторону. Я не хочу назад. Впереди перекресток, у столба дорожного указателя стоит кто-то… может, он тоже все понял и собирается сесть на жопу?

Я узнаЮ себя! Я узнаЮ себя! — и не понимаю: как это я оказался на этом перекрестке (транзитная зона), ведь я не хочу ждать и продавать душу дьяволу, и ждать дьявола; Его Инфернальное Величество торчит в душном аду дешевой комнатенки, ширяется черным мясом, ебет тощих мальчиков, не в состоянии совладать с хронотопом и удержать в памяти обрывки газет, и в бессознанке строчит отчеты в рай, как какой-нибудь Берроуз; и если бы

я не торчал на этом перекрестке (ноль мира, терминал), ожидая случайной попутки, потому что вдруг стало безразлично КУДА ехать, потому что не знаешь КУДА ехать, и движение — иллюзия, — становится ясно, стоит только оглядеться внимательно и обнаружить, что ты с чемоданами формул и теорий, со всем совокупным миром топчешься, все так же трешься в предбаннике (терминал) и ждешь, КУДА тебя выдадут, в какую Историю тебя выдадут, в какую историю ты вляпаешься, потому что Воля заглохла, и как тут поступать: как изволишь? (потому что время — одно наебалово, пространство — другое) ...то не увидел бы как из-за спины вылетает лезвие, которое метит мне в лицо.

Человека (а с чего я взял, что это человек?), который управляет ножом, я не вижу, как будто его вырезали при монтаже.

## Доктор Буги зажигает

Доктор Буги зажигает! Великий Буги...

Во имя войны руки буги рока... отроки объединяются под знаменами любви и черно-красных символик правого и левого пути. Агата Кристи и АлисА! так!

Зажигательные смеси полетели первые залпы... Рефери кричит: РАЗОЙТИСЬ! — но его никто не слушает. Корабль идет ко дну! Каждый сам за себя! — кричит Капитан. Чики-Лаки бысто-быстро бежит вверх по мачте, в зубах — мачете... Ассиденты в костюмах, как у «Пиратов Карибского моря», собираются в круг, чтобы противостоять грозе буре Волне... Ассиденты должны погибнуть, так задумал Чики-Лаки, он ублажил Перуна и Посейдона греческим способом, они ему пообещали... и трех лет не прошло. Корабль тонет, тяжело погружается в темную густую, как деготь со сметаной, морскую пучину, Чики-Лаки быстро-быстро, пользуясь всеми четырьмя конечностями, бежит по мачте... мачта кончается тревожно дрожащим флагом, Чики-Лаки прыгает вверх и оказывается в психиатрической лечебнице... ассиденты в белых халатах привязывают его к железной койке, по которой идет ток.

...

Чики-Лаки потом будет рассказывать:

— Насчет и не очень «филадельфия» грибы шиитаки... И все это лучше не берись ничего не выйдет... кстати готовый рис поливается специальным уксусом чтобы придать кисло-сладкий привкус семгу купить слабосоленую сырой тунец окунь икра креветки вареные огурец авокадо и много-много других. Короче чувак нахуй я не хочу ждать и продавать душу дьяволу и ждать дьявола Его Инфернальное Величество...

Лаки-Пуки потом уточнит, что:

— ...во-первых тебе нужно купить циновку без нее роллы не скрутишь во-вторых купи нори (это водоросли сухие) затем купи где-нибудь Берроуза обворачивается сверху фольгой в которой 700 грамм на 300 ацетона много маленьких черных точек и выпаривается икра летучей рыбы угорь в соусе терияки... тогда в состоянии совладать с Человеком (а с чего взял, что это человек?) который управляет ножом я не вижу он продается в специализированных магазинах торчит в душном аду дешевой комнатенки ширяется черным мясом ебет тощих мальчиков жопу недорогой рис нужно варить с хронотопом и удержать в памяти обрывки газет и в бессознанке с чемоданами формул и теорий со всем совокупным миром топчешься все так же трешься и в хуй тебе это надо?

Чики-Лаки и Лаки-Пуки потом будут наперебой вспоминать подробности и дополнять показания, стараясь не упустить ничего из того, что ВАЖНО, думая, что они-то разные люди, и степень их соучастия неодинакова, и кого-то из них все же отключат от тока до наступления конца света:

— я узнаЮ себя! Я узнаЮ себя! и не понимаю как КУДА ехать становится ясно стоит только оглядеться в-ни-что-бы он был более липкий в спецмагазинах все это можно найти но опять в предбаннике строчит отчеты в рай как будто его вырезали при монтаже торчал

